ПАДПІСКА »БОЖЫМ ШЛЯХАМ«:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 5 доляраў.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £2-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.
Mr. B. Danilovich, 303 Hovard Str., New Brunswik, New Jersey, USA.
Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str., Los Angeles, Calif., USA.
Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl., New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave., Toronto, Ont. 560, Canada.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. F. Žurnia, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N12 8HY.,
Gt. Britain.

**УВАГА**: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N 12, азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

**Year XXVII** **№ 151**
**1980**

*MARIAN HOUSE, HOLDEN AVENUE,*
*LONDON N12 8HY.,*
*GREAT BRITAIN.*

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXVII 1980 № 151



**Istanbul, Turkey — Pope John Paul II holds the arms of the Eastern Orthodox Patriarch Demetrius I, following his arrival on November 28 in Istanbul, Turkey.**

**The two leaders embraced in a significant gesture symbolizing their intention to launch a renewed effort to bring an end to more than seven centuries of division between Christianity's largest branches.**

**The Eastern Orthodox Churches and the Church of Rome have been in schism ever since 1203-04, when the Latin crusaders sacked the city of Constantinople, the capital of Eastern (Byzantine) Christianity.**

*(Religious News Service Photo)*

# РАНА СЬЦЯКАЕ КРЫВЕЙ...

Ад 28 да 30 лістапада 1979 г. Папа Ян Павал II наведаў Турэччыну. Галоўнай мэтай гэтай паездкі было спатканьне з Патрыярхам Дзімітрам I. Яно адбылося 30 лістапада, акурат у дзень сьв. Андрэя Апостала ў фанарскай катэдры. Тады было афіцыяльна прагалошана распачацьце багаслоўскага дыялагу паміж Каталіцкай і Праваслаўнай Цэрквамі. Пазьней былі пададзеныя ў прэсе прозьвішчы асоб з двух бакоў, якія у час пэрыёдычных сустрэчаў будуць праводзіць гутаркі і дыскусіі, якіх канчатковай мэтай ёсьць злучэньне Цэркваў.

Першае спатканьне Папы Паўла VI з усяленскім Патрыярхам Атэнагорам адбылося ў Ерузаліме ў 1964 годзе, знаыць там, дзе Ісус Хрыстос даканаў адкупленьня чалавечага роду. Пасьля ізноў адбыліся малітвенныя спатканьні і гутаркі Галоў Цэркваў у Канстантынопалі і ў Рыме. У міжчасе дайшло да згоды між двумя Цэрквамі, каб зьняць калішнія клятвы (1054 г.) і скасаваць іхнія акты, калі яны яшчэ мелі нейкую вагу.

Няма сумніву, што ва ўсім сьвеце сярод хрысьціян адчуваецца смага за поўнай еднасьцю Хрыстовай Царквы. Да гэтага панукаюць пагрозы атэізму, абыякавасьці ў справах веры, ажыўленьне сярод магамэтанцаў і буддыстаў. Таксама місіянэрскае апостальства моцна церпіць дзеля падзелу між хрысьціянамі.

Да чаго вядзе дыялаг між Каталіцкай і Праваслаўнай Цэрквамі?

Тэаратычна да высьненьняў Хрыстом аб'яўленых праўдаў. Дзякаваць Богу, што пасьля столькі гадоў адчужэньня яшчэ ёсьць між намі больш таго, што лучыць чым таго, што дзеліць. На рознасьць літургічных абрадаў, або на некаторыя кананічныя прыпісы, няма патрэбы зьвяртаць увагі. Гэта важныя, але ня сутныя рэчы. Да сапраўднай еднасьці патрэба еднасьць у прызнаваньні й прыманьні тых самых тайнаў, тых самых праўдаў веры і еднасьць Хрыстовай маралі (этыка). Найвялікшым і наймацнейшым злучавам хрысьціянскай еднасьці зьяўляецца сьв. Эўхарыстыя, Прычасьце Цела і Крові Хрыста. Калі пры ласцы Божай дойдзе да таго, што Рымскі Папа і Ўсяленскі Кастантынопальскі Патрыярх адслужаць адну і тую самую Літургію; калі прычасьцяцца з таго самага кіліха, тады з радасьцю зможам сказаць: пачынаецца сапраўдная Хрыстова еднасьць. Пакуль гэтага няма, рана падзелу сярод хрысьціян сьцякае крывёй. Гэтак выказаўся Ян Павал II у патрыяршай фанарскай катэдры пры апошнім спатканьні з Патрыярхам Дзімітрам I.

»Нашыя Цэрквы падтрымоўвывалі ня толькі спакойныя і плённыя зносіны (у першым тысячагодзьдзі хрысьціянства, Ч. С.), але клапаціліся аб узаемнай падтрымцы ў веры, малітве і любові, патрэба чаго — ня гледзячы на розныя сьветагляды — была для іх відавочнай. Але другое тысячагодзьдзе — наадварот — зацямнілася, хаця і здараліся каротка-трывалыя праблескі, а гэта дзеля таго адчужэньня, якое паўстала між двумя Цэрквамі, а разам з ім прыйшлі й згубныя вынікі. **Рана дагэтуль яшчэ сьцякае кроўю**. Аднак Госпад можа яе загаіць. Ён заклікае нас дапамагчы Яму ў лячэньні гэтай раны . . .«

На абтоцы Патмос, дзе сьв. Ян Эвангеліст пісаў сваю натхнёную кнігу Аб'яўленьня, дня 29 траўня г. г. пачала працаваць мяшаная Камісія ў ліку 60 асоб каталіцкіх і праваслаўных багасловаў. Праца ў духу згоды і любві прадоўжывалася на іншай абтоцы — Родос. Трэба ўсім маліцца, каб Сьвяты Дух асьвяціў розумы сяброў Камісіі, каб яны маглі якнайхутчэй пераступіць Рубікон хрысьціянскага падзелу.

*Біскуп Ч. Сіповіч*

УПРАВА Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане зьвяртаецца да суродзічаў з просьбай прысылаць беларускія цэннасьці, як манэты, рукапісы, друкі, здымкі і інш. на адрас:

THE FRANCIS SKARYNA BYELORUSSIAN LIBRARY,
37 HOLDEN ROAD, LONDON, N12 8HS

# МАЛІТВА СЬВЯТОГА ФРАНЦІШКА АСЫСКАГА

**Далучы мяне, Госпадзе, да волі Тваe,**
**Да любові Тваe, да міру Твайго, —**
**Дай мне прышчапіць любоў у сэрцы злосьнікаў, —**

**Даравацъ ненавіднікам,**
**Давесьці да згоды тых, што ў варажнечы.**
**Даруй мне, каб я мог асьвяціць праўдаю тых, што блудзяць,**

**Узмацніць веру няпэўных,**
**Асьвяціць розум засьлепленых,**
**Зьвярнуць надзею тым, што ў роспачы,**
**Аднавіць радасьць сумуючым!**

**А мяне, пакінь Госпадзе,**
**Ня маючы суцехі сабе,**
**Але, каб мог прыносіць яе іншым,**
**Хоць-бы я ня бачыў гордасьці свае,**
**Але, каб разумеў пакорнасьць духа,**
**Каб хоць мяне й не любілі, але я любіў!**

**Аб такіх дарох малю Цябе, Божа,**
**Бо даючы — мы дастаём,**
**Забываючыся на сябе, мы знаходзім сябе,**
**Даруючы іншым, мы здабываем сабе дараваньне,**
**Паміраючы, мы ўстаём з дамавіны на жыцьцё вечнае!**

Пераклаў *а. Я. Гэрмановіч*

## КАНДАК СЬВ. ЯЗАФАТУ, АРХІППУ ПОЛАЦКАМУ

Кровій твоіхъ струямі Іозафате, Церковъ Богъ обагрилъ естъ, давый ти державу непобѣдимую. Соблюдай убо и Градъ твой Полоцкъ невредимъ, и вся обители твоя: и симъ буди утвержденіе, и от всякаго навѣта вражія твердое защищеніе.

*Служебник, Супрасль 1695, стр. рлс.*

# К А Т Э Х Э З Ы



*м. п.*

## 25-я К А Т Э Х Э З А

**Бог справядліва кіруе сваім народам**

Госпад існуе навекі; Ён паставіў пасад Свой, каб чыніць суд і будзе судзіць увесь сьвет па праўдзе і чыніць суд над народамі паводле справядлівасьці. (Пс. 9, 8-9).

Кнігі Старога Запавету паказываюць нам Бога добрага і поўнага любасьці. Аднак Кніга Быцьця апавядае, як першых людзей спаткала Божая кара за непаслухмянасьць, а Кніга Выхаду апісывае, якія кары пасыпаліся на фараона і эгіпцыянаў, калі яны супраціўляліся Божым загадам. Сьвятыя Кнігі гавораць таксама часта аб карах, якія атрымоўвываў нават выбраны народ, калі той не хацеў паслухаць голасу Свайго Госпада і Бацькі. (Вых. 32, 28). Бо Бог любіць толькі тое, што добрае ды справядлівае, а ня можа любіць таго, што дрэннае і несправядлівае. За паслухмяннасьць Сваім загадам Бог абяцае ўзнагароду. (Пс. І, 6).

Жыдоўскі народ верыў, што Бог за добрыя паступкі ўзнагараджае, а за дрэнныя карае, ужо тут на зямлі: »Справядлівы Ты ў усім, што нас спаткала, бо Ты паступіў так, як трэба дзеля таго, што мы правініліся«. (Нэг. 9, 33). Пракокі навучалі, што жыдаўскі народ страціў свабоду і быў узяты ў няволю, а сьвятыня разбураная, а гэта таму, бо ён адступіў ад свайго Господа. (Ер. 25, 8-11).

Жыды думалі, што хваробы й няшчасьці ёсьць карай за грахі, а здароўе, багацьці ды памыснасьць — узнагародай за добрасумленнае жыцьцё. Будучы аднак у няволі маглі ўпэўніцца, што добрыя і сумленныя таксама церпяць, а благім і круцялям шанцуе часамі нават лепш. Дык прарокі аб'яськялі, што Бог ёсьць *цярплівы*; што кара не адразу наваліваецца на грэшніка, а добры не адразу атрымлівае узнагароду. Яны вучылі, што толькі тады, калі настане »Господні Дзень«, Бог узнагародзіць належна добрае і справядлівае жыцьцё, а ліхія атрымаюць заслужаную кару. (Я. 1, 1-15; Эз. 30, 3; Із. 13, 6).

* * *

У Новым Запавеце Ян Хрысьціцель навучае, што »Господні Дзень« ёсьць ужо блізка. Паказывае на Хрыста, Які надыходзіць і Які будзе судзіць справядліва: »Ён мае ў руцэ веялку і ачысьціць Свой умалот: пшаніцу зьбярэ ў сьвіран, а мякіну спаліць агнём неўгасаючым«. (Мат. 3, 12).

І сапраўды Ісус Хрыстос навучаў людзей аб Богу справядлівым, Якога трэба слухаць. Ён вучыў, што »Айцец ня судзіць нікога, але ўвесь суд передаў Сыну«. (Я. 5, 22). Жывучы на зямлі Хрыстос не судзіў, але шмат разоў прыпамінаў, што прыйдзе на зямлю другі раз, каб судзіць, узнагараджаваць і караць: »За кожнае непатрэбнае слова, якое выгаварыць людзі, дадуць адказ у дзень суду«. (Мат. 12, 36). »Бо Сын Чалавечы прыйдзе ў славе Свайго Айца разам са Сваімі Ангеламі і тады аддасьць кожнаму паводле ягоных паступкаў«. (Мат. 16, 27). Дзень Свайго прыходу Хрыстос назваў »апошнім днём«. (Я. 6, 54; 11, 24).

**Наш адказ Богу:** Веру, што Бог ёсьць справядлівы нават тады, калі дапускае на мяне цярпеньне.

**Прыклад малітвы:** »Ён мне даў нагароду за маю справядлівасьць, за чыстасьць рук маіх мне адудзячыўся. Бо трымаўся я шляху Господняга ды не грашыў супроць майго Бога; бо ўсе Ягоныя загады былі перада мною і ад Ягонае волі я не ўхіляўся. Я быў шчыры перад Ім і высьцерагаўся, каб не саграшыць. Дык адудзячыўся мне Госпад за маю справядлівасьць, за чыстасьць маіх рук перад Ягонымі вачыма«. (Пс. 17, 21-25).

**Божае слова:** »Шчасьлівы чалавек, што ня йдзе за радай грэшнікаў і мінае іхні шлях і паміж насьмешнікаў не засядае, але знаходзіць любасьць ў Законе Госпада і аб Ягоным Законе разважае ўдзень і ўначы. Той ёсьць быццам пасаджанае ля патоку воднага дрэва, што плод дае ў сваім часе, а ягонае лісьцё ня вяне, і ўсё, што ён робіць, яму ўдаецца. Ня гэтак бязбожныя: яны падобныя да мякіны, што вецер разносіць. Ды не ўстояць бязбож-

ныя на судзе, ані грэшнікі на зборцы справядлівых«. (Пс. 1, 1-5).

»Мы ведаем Таго, Хто сказаў: Мне помста, Я аддам — кажа Госпад. І йзноў: Госпад будзе судзіць Свой народ. Страшна папасьці ў рукі жывога Бога«. (Жыд. 10, 30-31).

**Пытаньні да 25-ай Катэхэзы:**

44) **Чаму мы кажам, што Бог ёсьць справядлівы?**

Адказ: **Мы кажам, што Бог ёсьць справядлівы, бо Ён любіць дабро і ня можа любіць зла.**

45) **Калі Божая справядлівасьць выявіцца поўнасьцю?**

Адказ: **Божая справядлівасьць выявіцца поўнасьцю толькі ў Апошні Дзень.**

## 26-я КАТЭХЭЗА

### Бог спаўняе Свае абяцаньні і аказывае міласэрнасьць

»Міласэрны Госпад і добры, да гневу няхуткі і шчодры ласкай. Як літуецца бацька над дзяцьмі, гэтак Госпад літуецца над тымі, што Яго баяцца. Але Гасподняя ласка ахінаець тых усьцяж, што Яго баяцца, і справядлівасьць Ягоная над сынамі сыноў тых, што сьцярагуць Ягоны запавет ды памятуюць пра Ягоны закон, каб спаўняць яго«. (Пс. 102, 8. 13. 17-18).

* * *

Бог аб'явіўся свайму народу ня толькі як справядлівы Судзьдзя, але такжа як Госпад цярплівы і вялікай міласэрнасьці. Майсей называе Яго Богам »міласэрным і літасьцівым, багатым у прыхільнасьць і вернасьць«. (Вых. 34, 6).

У час розных бедаў і няшчасьцяў, асабліва ў час бабілёнскае няволі, прарокі прыпаміналі жыдоўскому народу, што Бог *ёсьць міласэрны:* »Ці-ж можа жанчына забыцца аб сваім дзіцяці? Маці, якая любіць свайго сына? Але, калі-б і яны забыліся, Я не забуду цябе! Вось Я выпісаў цябе на абёдзьвёх далонях!« (Із. 49, 15-16).

Жыдам, якія жаліліся на свае цярпеньні, прарокі аб'ясьнялі, што Бог раніць, але аднача́сна й лечыць: »Хадзеце, вернемся да Еговы! Ён нас параніў, Ён і вылячыць, гэта Ён нас пабіў, Ён і раны абвяжа«. (Оз. 6, 1).

Прарокі вучылі таксама, што Бог хоча, каб грэшныя людзі навярнуліся: »Я не хачу сьмерці грэшніка, але толькі таго, каб бязбожнік перамяніў сваё жыцьцё і пачаў жыць, як трэба.Пакіньце, пакіньце вашыя дрэнныя паступкі! Чаму гэта вам захацелася згінуць, Ізраэліты?« (Эз. 33, 11).

Прарокі пацяшаюць, што Бог выбачае грэшнікам, якія папраўляюцца: »Хай бязбожнік пакіне свой шлях і несправядлівы чалавек свае інтрыгі. Няхай зьверніцца да Еговы, а Той зжаліцца над ім, і да нашага Бога няхай зьверніцца, бо вельмі ахвотна Ён прабачае«. (Із. 55, 7). Яны кажуць таксама, што калі Бог раз адпусьціць грахі, ужо больш аб іх не ўспамінае і не карае за іх: »Які-ж Бог ёсьць да Цябе падобны, што адкідаеш несправядлівасьць, выбачаеш праступак астатку Тваей спадчыны? Ён не трывае ў гневе на заўсёды, бо спадабалася Яму выявіць міласэрдзе. Мей літасьць ізноў над намі, зьнішчы нашныя даўгі ды кінь у глыбіню мора усе нашыя грахі«. (Міх. 7, 18-19).

»На кароткую хвіліну я пакінуў цябе, але прыгарну цябе з вялікай любасьцяй. У ярасным гневе Я схаваў Мой твар на кароткі час, але любоўю вечнай я зьлітаваўся над табою, кажа Егова, Твой Адкупіцяль«. (Із. 54, 7-8).

І нaканец прарокі вучаць, што Бог пакажа веліч Свайго міласэрдзя ў тым, што збавіць *усіх людзей.* Тады споўняцца абяцаньні, якія Ён даў выбранаму народу на карысьць усіх народаў. Аб гэтым кажа Ізаяш: »Ці-ж ня ёсьць Егова, ды няма іншага бога, акрамя Мяне? Паза Мною няма Бога справядлівага і які могбы збавіць. Навярнецеся да Мяне, каб быць збаўленым, усе канцы сьвету, бо Я ёсьць Бог і ніхто іншы ім ня ёсьць! Прысягаю на Сябе Самога, што з Маіх вуснаў выходзіць справядлівасьць, безпаваротнае слова«. (Із. 45, 21-23).

* * *

Толькі ў Ісусе Хрысьце выпаўнілася Божае міласердзе. За гэта дзякуе Марыя, Маці Хрыста, якую Царква ў лацінскім абрадзе называе »Маткай Міласердзя«: »Вялічай душа мая Госпада, і ўзрадаваўся дух мой у Богу Збаўцы маім ... бо Ўсёмагутны ... прыняў Ізраіля, свайго слугу, ўспомніўшы на міласердзя Сваё, як гаварыў аб гэтым да айцоў нашых, да Абрагама і ягонага патомства давеку«. (Лук. 1, 46-55).

Гэтае міласердзе трывае і далей у Хрыстовай Царкве: »Багаслаўлены і Айцец Госпада нашага Ісуса Хрыста. Ён праз вялікую сваю ласку адрадзіў нас уваскрасеньнем Ісуса Хрыста з мёртвых дзеля жывое надзеі, дзеля нязьнішчальнай спадчыны, без заганы, што не завяне й захавана для вас на нябёсах«. (І П. 1, 3-4).

**Наш адказ Богу:** Навярнуся і буду мець надзею ў Божым міласердзі!

**Прыклад малітвы:** »Багаслаў, душа мая, Госпада і ўсё нутро маё імя сьвятое Яго! Ба-

гаслаў, душа мая, Госпада і не забывайся аб тым, што Ён табе зрабіў! Ён дароўвывае табе ўсе твае грахі, Ён вылечывае ўсялякую тваю немач, Ён ратуе ад магілы тваё жыццё, Ён ласкай і міласэрдзем вянчае цябе, Ён тваё жыццё сыціць дабром«. (Пс. 102, 1-5).

**Божае слова:** »Кажа Егова: калі грахі вашыя будуць як пурпур, як сьнег выбелюцца; калі будуць чырвоныя як пурпурны матэрыял, стануцца белыя як воўна«. (Із. 1, 18). »Госпад не марудзіць з выкананьнем таго, што абяцаў, — бо некаторыя думаюць, што Госпад марудзіць, але Ён з Вамі цярплівы, бо ня хоча згубы некаторых з вас, але давезьці ўсіх да пакаяньня«. (2 Пятра 3, 9). »Верны Той, што вас паклікаў; Ён і зробіць«. (I Тэсс. 5, 24).

**Пытаньні да 26-е Катэхэзы:**

46) **У чым найвыразьней паказаваецца Божае міласэрдзе?**

Адказ: **Божае міласэрдзе найвыразьней паказываецца ў тым, што Бог хоча збавіць усіх людзей.**

47) **У кім Бог выявіў паўнату Свайго міласэрдзя?**

Адказ: **Бог выявіў паўнату Свайго міласэрдзя ў Ісусе Хрысьце.**

48) **У чым праяўляецца вернасьць Божая?**

Адказ: **Божая вернасьць праяўляецца ў тым, што Бог спаўняе усё тое, што абяцаў.**

## 27-я КАТЭХЭЗА

### Бог ёсьць толькі адзін

Бог аб'явіўся ў гісторыі выбранага народа як *адзіны* Бог. Абавязкам жыдоўскага народа было утрымаць і пераказаць веру ў аднаго Бога. Аднак жыды мусілі жыць у суседзтве з паганскімі народамі. Таму нярааз падпадалі пад іхні ўплыў і кланяліся паганскім багам, замест сапраўднаму Богу. Аб гэтым можна прачытаць прыкладам у Кнізе Судзьдзяў (10, 6) або ў Чацьвёртай Кнізе Царстваў (21, 11). Тады ў абароне веры ў аднаго Бога выступалі прарокі: »Я ёсьць Ягвэ, і няма іншага. Я ствараю сьвятло і ствараю цемру«. (Із. 45, 7).

»Як сароміцца злодзей, калі яго зловяць, так сароміцца Ізраеляў дом; яны — цары іхнія ды саноўнікі, іхнія сьвятары і прарокі, калі кажуць зьвяртаючыся да дрэва: 'Ты мой бацька', а да скалы: 'Ты мяне радзіла'. Гэтак адварочваюцца сьпіной да мяне, замест таго, каб тварам, але, калі пападуць у няволю, дык тады крычаць: 'Устань, ратуй!' Дзе-ж твае багі, якіх ты сабе нарыхтаваў? Няхай-жа ўстануць, калі здолеюць цябе выратаваць«. (Ер. 2, 26-28).

Адзіны Бог аб'яўляўся ў гісторыі выбранага народу ня толькі як ягоны Бог, але такжа як *Бог усіх народаў*. Прарокі вучылі, што Ягвэ даў Дэкалёг для ўсіх людзей і вымагае справядлівасьці ад усіх народаў. Таму Бог карае за праступкі ня толькі жыдоў але таксама і іншыя народы. (Амос 1, 3-5). Бог апякуецца таксама іншымі народамі: »Ці-ж Ізраіля ня вывеў Я з эгіпецкае зямлі, як Філістынаў з Кафтор, а Арамэйцаў з Кір?« (Амос 9, 7).

Бог паслугоўваецца іншымі народамі, каб памагчы жыдам (Із. 41, 1-5), а такжа, каб іх пакараць. (Із. 10, 10). Гэтак Бог паказывае, што Ён ёсьць Валадаром народаў усіх без вынятку.

Жыды пераказывалі гэтаксама веру ў аднаго Бога як адзінага Валадара *ўсяго стварэньня*. У Сьвятым Пісаньні яны перахавалі паэму аб стварэньні сьвету. У Псальмах і іншых кнігах натхнёныя аўтары ўсьцяж прыпаміналі, што Бог ёсьць Стварыцелям і Валадаром усяго. Пераказавалі веру ў Бога, які ёсьць *вечны*, які ёсьць заўсёды: »Перш чым нарадзіліся горы, чымся паўсталі зямля ды сусьвет, Ты, Божа, ёсьць з прадвеку і трываеш на векі вечныя«. (Пс. 89, 2). »Аднак Ты, Ягвэ, трываеш на векі. Твой пасад цераз усе пакаленьні«. (Тр. 5, 19).

Жыды верылі такжа, што Бог ёсьць *нязьменны* або *сталы*. »Ты заснаваў на пачатку зямлю і неба ёсьць творам Тваіх рук. Яны загінуць, а Ты астанешся. І ўсё як вопратка састарэе: Ты зносіш іх як адзеньне і яны зьменяцца. А Ты заўсёды Той самы і годы Твае ня будуць мець канца«. (Пс. 101, 26-28).

Гэтак вось адзіны, вечны і нязьменны Бог аб'яўляўся цераз жыдоў як Бог выбранага народу, як Бог усіх людзей і як Бог усяго сьвету.

* * *

Адзіны Бог жадае, каб усе прызналі Яго за Госпада і Айца, ды цераз гэта сталіся адною сям'ёю. Прарокі прадсказалі, што станецца гэта ў новым Ізраэлю, якім ёсьць Царква і яна абвяшчае ўсім народам веру ў аднаго, вечнага і нязьменнага Бога.

Царква шануе праканаьні жыдоў, магамэтанаў, а нават тых, што »шукаюць няведамага Бога вобмацкам і сярод цялесных уяўленьняў«, як кажа II Ватыканскі Сабор у Канстытуцыі аб Царкве (нр. 16). Аднак яна жадае злучыць усіх у сапраўднай веры.

**Наш адказ Богу:** Буду маліцца за тое, каб усе людзі прызналі Бога за свайго Госпада і Айца, ды, каб выяўлялі Яму належную пашану.

**Прыклад малітвы:** »Сьпявайце Госпаду новую песьню, сьпявайце Госпаду, усенька зямля! Сьпявайце Госпаду, багаслаўце Ягонае Імя! З дня на дзень абвяшчайце Ягонае выратаваньне! Апавядайце між паганамі Ягоную славу, між усімі народамі Ягоныя цуды«. (Пс. 95, 1-3).

**Божае слова:** »Жыцьцё-ж вечнае ў тым, каб пазналі Цябе, адзінага праўдзівага Бога«. (Ян 17, 3). »Айца сьветласьцяў, у Якога няма адмены ані зьменнасьці«. (Як. 1, 17).

**Пытаньні да 27-е Катэхэзы:**

49) **Чаму мы кажам: Бог ёсьць вечны?**

Адказ: **Мы кажам: Бог ёсьць вечны, бо Ён заўсёды ёсьць.**

50) **Чаму мы кажам: Бог ёсьць нязьменны?**

Адказ: **Мы кажам: Бог ёсьць нязьменны, бо Ён заўсёды ёсьць той самы — учора, сяньня і на векі.**

## 28-я КАТЭХЭЗА

### Бог ёсьць духам

Кнігі Старога Запавету апісываюць, як Бог гутарыць з першымі людзьмі — з Абрагамам, Майсеям, Давідам. У Сьвятым Пісаньні мы знаходзім такжа выказваньні, з якіх можна было-б зрабіць памылковы выснаў, што Бог, як і чалавек, мае рукі, ногі, вочы. Прыкладам мы чытаем: »Гляджу на Тваё неба — твор Тваіх пальцаў«. (Пс. 8, 4). Або: »Глянуў Госпад з неба на сыноў чалавечых«. Пс. 13, 2). Сьвятое Пісаньне таксама часта кажа, што Бог гневаецца, цешыцца, выбачае. Словам паступае так, быццам быў-бы сам чалавекам. Аднак гэта зусім не значыць, што Бог дзейнічае і паступае як чалавек. Аўтары Сьвятых Кніх жадаюць толькі паказаць, што Бог жывы і Ён такжа дзейнічае, хаця зусім інакш, па Свойму. Гэта толькі наша чалавечая мова зусім палюдзку дзейнасьць выказывае Божую славамі: глядзіць, чуе, гавора, гневаецца, выбачае і гэтак далей. Усякае параўнаньне Бога да чалавека ці да іншых стварэньняў, прыкладам такіх як агонь, бура, гром і інш., ёсьць недакладнае і не паказывае, кім ёсьць Бог. Таму Права Запавету выразна забараняла жыдам жывопісьсю або разьбой — няхай-сабе толькі сымбалічна — выяўляць Бога: »Ня будзеш мець іншых багоў апрача Мяне! Ня будзеш рабіць сабе фігуры ані іншага якога абраза . . . Ня будзеш аддаваць ім пашаны ані служыць ім, бо толькі Я, Ягвэ, твой Бог«. (Вых. 20, 3-5). Аб гэтым усьцяж прыпаміналі прарокі. (Ер. 2, 26-28).

Бог займаўся выбраным народам, вёў Яго ў Абяцаную Зямлю. Знакам Божае прысутнасьці была Арка Запавету і сьвятыня. Аднак сьвятыя Кнігі вучаць, што Бог дзейнічае і навонкі Аркі. Таму Давід, уцякаючы з Ерузаліму, не забраў з сабою Аркі. (2 Сам. 15, 25-27), бо ведаў, што Бог прысутнічае ня толькі ў сьвятыні. Таму прарок Ерэмія прадсказываючы разбурэньне сьвятыні выясьняе, што Бог у іншым месцы будзе атрымліваць пашану. (Ер. 7, 12-14). Кніга Другога Закону кажа: »З дому Свайго сьвятога, з неба глянь і багаславі Ізраэля, Свой народ, так як і зямлю — краіну, ў якой плывуць малако і мёд — якую Ты нам даў«. (Друт. Зак., 26, 15).

З гэтага бачым, што Бог ёсьць і ў небе. Гэтак жыды маглі даведацца, што Бог ёсьць *усюды*. (Пс. 138, 7-12).

Псальм 138 кажа, што Бог *усё ведае*. Аб гэтым таксама вучыць Кніга Ісуса сына Сыраха: »Ён пазнаў продні і сэрцы людзкія і ведае ўсе іхнія інтрыгі, бо Найвышэйшы мае ўсю веду, ды прадбачыць найдалейшую будучыню. Аб'яўляе тое, што мінула і тое, што станецца, ды адкрывае сьляды рэчаў закрытых. Аніводная думка ня будзе Ім незаўважана і не схаваецца ад Яго аніякае слова«. (Сыр. 42, 18-20).

* * *

Бог, Якому кланіліся Абрагам, Ізаак і ўсе патомкі Ізраіля, ёсьць прысутны ўсюды, дзейнічае ўсюды, усё ведае. Значыцца Ён *духам.* »Неба і найвышэйшыя нябёсы ня могуць Цябе агарнуць«. (3 Цар. 8, 27).

Бог Ізраэлітаў ёсьць і нашым Богам. Многа разказаў нам пра Яго Ягоны Сын Ісус Хрыстос. (Я. 4, 24).

**Наш адказ Богу:** Буду помніць, што дзе я, там і Бог ёсьць са мною.

**Прыклад малітвы:** »Госпадзе, Ты мяне выпрабаваў і Ты мяне ведаеш! Ты ведаеш, калі я сядаю і калі ўстаю; Ты здалёк разумееш думкі мае. Ці я хаджу, ці ляжу, Ты пры мне, усе шляхі мае Табе ведамыя. Бо не ўзышло яшчэ слова на мой язык, а Ты, Госпадзе, ўжо ўсё добра ведаеш. Ззаду й сьпераду абняў Ты мяне і Тваю руку на мяне палажыў. Лішне дзіўнае веданьне, лішне высака для мяне, не магу яго сьцяміць! Куды мне йсьці ад Твайго духа ды куды ўцячы ад Твайго аблічча? Калі-б я на неба ўзыйшоў, Ты там; калі-б ложам пекла зрабіў, Ты й там! Калі-б крыльле ў сьвітаньня я ўзяў і на самым канцы мора асеў, Твая рука й там вадзіла-б мяне, а правіца Твая трымала-б мяне«. (Пс. 138, 1-10).

**Божае слова:** »Паганскія бажкі — срэбра ды золата, творы чалавечых рук. Маюць

вусны, ды не гавораць; маюць вочы, ды ня бачаць; маюць вушы і ня чуюць, маюць ноздры ды бяз нюху; іхнія рукі бяз восчупу; ногі ў іх, ды ня ходзяць; а з горла іхняга ня пачуеш голасу«. (Пс. 114, 4-7). »Бог ёсьць Дух«. (Я. 4, 24). »Ён і недалёка ад кожнага з нас: бо ў Ім мы жывём і варушымся ды існуем, як і некаторыя з вашых паэтаў сказалі: »Мы бо з Ягонага роду«. Дык мы, як Божы род, не павінны думаць, быццам Боства ёсьць падобнае да золата ці серабра або каменнай фігуры, выразанай здольнасьцю і чалавечай выдумкай«. (Ап. Дз. 17, 27-29). »Няма стварэньня, укрытага ад Яго, але ўсё голае і адкрыта перад Ягонымі вачыма . . .« (Жыд. 4, 13). Бог большы ад нашага сэрца і ўсё ведае«. (І Ян 3, 20).

**Пытаньні да 28-ай Катэхэзы:**

51) **Чаму мы кажам, што Бог ёсьць Духам?**

Адказ: **Мы кажам, што Бог ёсьць Духам, бо Сьвятое Пісаньне вучыць, што Бог ёсьць усюды прысутны, усё ведае ды ўсюды дзейнічае.**

52) **Чаму мы кажам, што Бог ёсьць усюды прысутны?**

Адказ: **Мы кажам, што Бог ёсьць усюды прысутны, бо Ён ёсьць у небе, на зямлі і на кожным месцы.**

53) **Чаму мы кажам: Бог усё ведае?**

Адказ: **Мы кажам: Бог усё ведае, бо Ён ведае, што было (прошлае), што ёсьць (сучаснае) і што будзе (будучыня). Бог таксама знае нашыя найбольш скрытыя думкі.**

## 29-я КАТЭХЭЗА

### Бог ёсьць сьвяты

Бог аб'явіў, што Ён ёсьць усёмагутны, наймудрэйшы, найсправядліўшы, наймiласэрнейшы, найвярнейшы, вечны. Усе гэтыя ўласьцівасьці Бога Сьвятое Пісаньне абазначае адзіным словам »Сьвяты«. Яно называе Бога: »Сьвяты Ізраэля« (Пс. 71, 22; Із. 5, 24), а гэтую сьвятасьць называе яшчэ »Славай« або »Вялікасьцяй« Бога. Мы аднак нічога ня ведалі-б пра Божую сьвятасьць, каб сам Бог не аб'явіў яе ў гісторыі выбранага народу.

Бог аб'яўляў Сваю славу і сьвятасьць або найвышэйшую вялікасьць у нязвычайных і магутных *дзеяньнях*. Ён сам сказаў Майсею, што вызвалены з Эгіпту Ізраіль »бачыў Маю славу і цуды, якія я рабіў у Эгіпце«. (Ліч. 14, 22). Гэта былі: выхад з Эгіпту, пераход цераз Чырвонае Мора, кармленьне маннай. (Вых. 14, 18; 16, 7). Божую апеку над жыдоўскай зямлёй Ізаяш называе »славай Ягвэ і вялікапышнасьцяй нашага Бога« (Із. 35, 2), а ў Псалме прарок кажа, што Божая слава аб'явіцца, калі Госпад адбудуе Сыён. (Пс. 102, 17).

У Сьвятым Пісаньні чытаем, што на Сынаю Бог паказаў Сваю моц у грымотах, хмарах і бліскавіцах. (Вых. 19, 16). »А калі Майсей узышоў на гару, хмара яе закрыла. Слава Ягвы зышла на гару Сынай«. (Вых. 24, 15). Гэтаксама слава Госпада праяўлялася ў нязвычайных знаках. Яна раз'ясьняла Майсеевы твар. »Калі Майсей зыходзіў з гары Сынай з дзьвюма каменнымі табліцамі пасьведчаньня ў руках, ня ведаў ён, што ягоны твар высылае праменьні таму, што ён гутарыў з Ягвэ«. (Вых. 34, 29).

Слава Божая пакрыла і асьвяціла *Сьвятыню* (Вых. 29, 43). Калі Салямон збудаваў сьвятыню і перанясьлі ў нутро яе Арку Запавету, паказаўся туман напаўняючы сьвятыню Бога«. (3 Цар. 8, 10).

Сьвятасьць і вялікасьць Бога аб'яўляліся такжа ў абрадах устаноўленых Законам Запавету. Дзеля гэтай мэты Бог зрабіў жыдоў выбраным народам (царскім сьвятарствам). Загадаў ім сьвяткаваць суботу і ўспаміны вялікіх Божых падзеяў: Пасха, Сьвята Шатроў. Устанавіў жэртвы. Выбраў сьвятароў і левітаў. Прыймаючы удзел у гэтай Літургіі Ст. Запавету выбраны народ пазнаваў і аб'вяшчаў Вялікасьць Бога.

Цераз жыдоў таксама іншыя народы пазнавалі славу і вялікасьць праўдзівага Бога. (Пс. 147). Аб'яўляючы Сваю славу ў падзеях Ізраэля, Бог хацеў, каб гэты народ быў знакам для іншых народаў, як яны павінны шанаваць праўдзівага Бога. (Пс. 147).

* * *

Аб'яўленьне славы і сьвятасьці Бога ў жыдоўскім народзе было прыгатаваньнем да аб'яўленьня Божае вялікасьці ў Ісусе Хрысьце. Ён стаўся »зьяньнем славы і ўзорам Ягонае сутнасьці« (Жыд. 1, 3), »Госпадам славы« (1 Кар. 2,8), »Сьвятым і Справядлівым« (Дз. 3, 14), »Сьвятым і Праўдзівым« (Ад. 3, 7). Ён даў пачатак новаму Ерузаліму — Царкве, якая была заснавана »на пахвалу Ягонае славы« (Эф. 1, 14). Божую славу аб'яўляе і праслаўляе Царква ў сваей Літургіі. Таму сьв. Павал піша: »Яму слава ў Царстве ў Хрысьце Ісусе, на ўсе роды на векі вякоў. Амінь«. (Эф. 3, 21).

**Наш адказ Богу:** Хачу так прымаць удзел у Літургіі, каб праслаўляць і паказаваць Божую славу.

**Прыклад малітвы:** »Аллелюя! Слаў, душа мая, Госпада! Буду славіць Госпада ў маім жыцьці; пяяць буду майму Богу, пакуль існую«. (Пс. 145, 1).

# ПЕРАД ВОСТРАЙ БРАМАЙ

**Праўдзівае здарэньне з часу апошняй вайны**



У савецкім расейскім часапісе »Знамя« (1980, нр. 1) падаецца разказ Галіны Карнілавай пад назовам: »Вострабрамскія Вароты«. Зьвяртае на сябе ўвагу нятолькі сам нязвычайны зьмест расказу: малітвенны зварот жыдоўскіх жанчын да Маці Божай тады, калі гітлероўцы вядуць іх на сьмерць, — але й абставіны зьяўленьня расказу: у савецкай прэсе рэлігія й рэлігійныя здарэньні — гэта забароненае табу.

Аўтарка расказу Г. Карнілава успамінае, што апісанае ей здарэньне яна чула ад нейкай пані Станіславы, а тая была навочным сьведкам. Тут у скароце передаём гэты расказ. Цікава, ці хто з беларусаў, нашых чытачоў, чуў пра яго?

Асеньні дзень. Цераз кірмашную плошчу, непадалёк ад Вострабрамскай капліцы, дзе знаходзіцца з даўніх часаў абраз Божай Маці Дзевы, праходзіць натоўп жыдоў. Вядуць іх із гэтта. Іхняя пакорліваcьць, прыгнобленнасьць, якія можна адчытаць на іхніх тварах, людзей рознага веку, сьведчуць, што ідуць на сьмерць.

»У тую хвіліну — піша Карнілава — калі першы рад калонны зраўняўся з Вострабрамскімі Варотамі, жанчына з сівымі валасамі узняўшы галаву раптам затрымалася. Усе іншыя зьбянтэжана аглянуліся на яе і пачалі астанаўліваццa. Усе як адзін глядзелі ў тым напрамку, дзе над брамай у капліцы быў відавочны смуглы твар Дзевы Марыі. Раптам жанчына ў гадах з цяжасьцю стала на калені, выцягнула над сабой рукі з распухшымі пальцамі.

— Марыя! — адазвалася яна хрыпавата й непрытомна.

— Глянь сюды, Марыя! Узглянь на нас!..

Збіўшыся ў кучу, у дрыжыках с перапалоху глядзелі іншыя палонныя на укленчыўшую.

— Марыя! — прадоўжвала крычаць старая жанчына, а пранізьлівы ейны голас заглушаў у той хвіліне ўсе гукі на плошчы.

— Успомні, кім ты была, Марыя! Ты жыла ў нашым народзе! Збаў нашых дзяцей! Не дай ім згінуць, Марыя! Збаў іх!..

Тут-жа радам падалі на калені на запылены брук жанчыны адна за другой у цёмным адзеньні. Быццам хтосьці па чарзе зсякаў дрэвы вялікага лесу.

— Марыя! Марыя! Марыя! — плачучы паўтаралі разцягнутыя на зямлі жанчыны...«

І тады здарыўся цуд.

Тая самая жанчына, што прыклікала Марыю на помач »адарвала ад сваей спадніцы

---

**Божае слова:** »Воблака Ягвы ў дзень закрывала сьвятыню, а ў ночы сьвяціла як агонь на вачах усяго ізраэльскага Дому«. (Вых. 40, 38). »Няхай хваляць Цябе, Госпад, усе Твае стварэньні і Твае сьвятыя няхай Цябе славяць!« (Пс. 144, 10). »Адзінаму мудраму Богу праз Ісуса Хрыста няхай будзе слава на векі. Амінь«. (Рым. 16, 27).

**Пытаньні да 29-ай Катэхэзы:**

54) **Як пазналі людзі сьвятасьць і славу Бога?**

Адказ: **Людзі пазналі Божую сьвятасьць і славу, калі Бог аб'явіў іх у падзеях выбранага народу.**

55) **У кім найпаўней аб'явілася Божая слава і сьвятасьць?**

Адказ: **Божая слава і сьвятасьць найпаўней аб'явілася ў Хрысьце.**

56) **Дзе сяньня Бог паказывае Сваю славу і сьвятасьць?**

Адказ: **Бог паказывае сяньня Сваю славу і сьвятасьць у Хрыстовай Царкве.**

кволую дзяўчынку і на ўсю моц выкінула яе з калённы. Проста швырнула дзяцё ў масу людзей стоячых ля дароґі. А гэтая маса, разступіўшыся на хвілінку, праглынула дзяцё, схавала яго за плячамі людзей«.

Плачучыя маткі пачалі выкідаць сваіх дзяцей у масу. Сялянкі хутка падхватвалі іх і зьнікалі ў найбліжэйшых вуліцах.

Праз нейкі час разгубленыя канваіры не маглі справіцца з гэтай »жывой бурай«. Дзеці былі ўратаваныя. Калонну асуджаных павялі далей на паўдзённы захад, »каб пазьней разам з тысячамі расейцаў, літоўцаў і палякаў расстраляць на ўзгорках паросшых лесам мала з чаго ведамай падвіленскай мясцовасьці Панары . . .«

*(Гл.: »Русская Мысль«, 10. IV. 80)*

А. ДЗЕДЗІНКА

# АЙЦЕЦ ФРАНЦІШАК ЧАРНЯЎСКІ (1893-1979)



31 траўня 1979 г. ў доме для старэйшых сьвятароў у штаце Ню Ёрк, недалёко гораду Амстэрдам, на 86-ым годзе свайго працавітага жыцьця адыйшоў у вечнасьць добры беларускі каталіцкі сьвятар а. Францішак Чарняўскі.

Ды хто-ж яго ні знаў?! Належаў да старэйшых эмігрантаў. Скалясіў блізу ўсю Эўропу і Амэрыку. Стойкі беларус, хаця шмат гадоў прышлося папрацаваць яму і для чужынцаў.

Ніхто з нас ня меў часу нават аглянуцца, калі многім нам добра ведамы а. Францішак памёр, а ягоная асоба і дзейнасьць тым самым перайшлі да гісторыі беларускага эміграцыйнага жыцьця.

Францішак прыйшоў на сьвет 3 лістапада (ст. ст.) 1893 г. у вёсцы Чухны ў павеце Ашмянскім. Ягоныя бацькі Янка і Анна з дому Гецэвіч былі добрымі вясковымі гаспадарамі. Маці будучага сьвятара паходзіла з сям'і вуніятаў. Ейны бацька занёс праваслаўнаму сьвятару капу яяк і папрасіў, каб той скрэсьліў яго з лісты праваслаўных вернікаў. Сьвятар гэта зрабіў і ад таго часу Гецэвічы сталіся каталікамі лацінскага абраду.

Сьведамасьць беларускай апрычонасьці ахапіла Франука ў маладым веку. У адным з лістоў да пралата П. Татарыновіча (з дня 4.VI.1960) ён пісаў: »Да мяне прыходзіла *'Наша Ніва'*. Калі я быў у гарадзкім вучылішчы, адзін з сяброў мяне запытаў: 'Кім мы ёсьць: адны нас залічаюць да палякаў, другія да рускіх?' Мой адказ, што мы не адно ані другое. Ведаеш з гісторыі, што наш назоў ліцьвіны, але нашы адраджэнцы ідуць да адраджэньня пад назовам Беларусь. Незадоўга пасьля таго і школьная ўлада ведала за каго я сябе ўважаю. А калі пашоў да інспэктара, каб атрымаць пасьведчаньне, якое было патрэбным пры ўступленьні ў сэмінарыю, той радзіў мне беларускасьцяй не займацца, бо гэта цямната і мова брыдкая . . . Я адважыўся сказаць: 'Праўда, народ наш цёмны, але не са сваей віны; а што датычыць мовы, то мне здаецца, што яна ёсьць харашэйшай і ад рускай і ад польскай . . .'«

*

Адчуваючы ў сваей душы пацяг да сьвятарства хлапец Франук уступае ў Віленскую Духоўную Сэмінарыю. Ейным рэктарам быў Ушылла, а інспэктарам — кс. Кароль Любянец. На 70 чалавек кандыдатаў у сьвятары

35 былі беларусы. Успомнены кс. Любянец, ведамы са сваей непрыхільнасьці да беларусаў, казаў што гэтакі лік запісаных беларусаў можа спрычыніць шмат хлопатаў для самой сэмінарыі і раіў, каб запісываліся палякамі. Студыі ў сэмінарыі трывалі шэсьць гадоў. Цікавы успамін з тых часаў знаходзім у лісьце да пралата П. Татарыновіча.

»У сэмінарыі ўсе ведалі за каго сябе ўважаю. У 1919 г. прыпомніў я Яго Эксцэленцыі Біскупу Матулевічу, што мы (беларусы) адчуваем сябе ў сэмінарыі сіротамі. Калі біскуп запытаўся чаму? Адказаў — бо ня маем ані аднаго свайго прафэсара. Тады біскуп: маеце аднаго (меў на думцы рэктара Ушыллу). А я на гэта:

— Можа ён з паходжаньня й беларус, але з перакананьня не наш. Мы хочам сьведамага.

— А чаго хочаце, каб вучыў беларускую мову? Цяпер гэта немагчыма, але няхай выкладае нейкі іншы прадмет. Гэта магчыма, сказаў біскуп«.

Пасьля быў назначаны прафэсарам Віленскай Сэмінарыі а. др. Язэп Рэшаць, якога пазьней дзеля той самай прычыны, дзеля якой Біскуп Матулевіч назначыў, Архібіскуп Ялбжыкоўскі звольніў.

Пра гутарку з Біскупам Матулевічам а. Франук Чарняўскі сьведчыў аж два разы пад прысягай, а гэта з нагоды бэатыфікацыйнага працэсу быўшага Віленскага Біскупа, які цяпер вядзецца. Першы раз у Бэльгіі ў гор. Малін у 1958 г., а ізноў-жа ў 1971 г., будучы ўжо ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Франук як студэнт сэмінарыст не адзін раз прыслугоўваў да сьв. Імшы (Літургіі) ведамаму са сваей глыбокай пабожнасьці Біскупу Юраму. З яго рук атрымаў тайну сьвятарства 30 траўня 1920 г.

Пасьля высьвяцінаў на працягу чатырох гадоў кс. Францішак Чарняўскі спаўняў абавязкі вікарыга ў розных парахвіях і для розных пробашчаў. Першы раз быў назначаны ў Сухаволю, да пробашча Гайлевіча, які рабіў даносы ў паліцыю на свайго вікарыга дзеля ягонай беларускасьці. Пасьля перанесьлі а. Францішa ў Саколку, а адгэтуль у Кузьніцу. Тут прабыў два гады і адгэтуль у 1924 годзе выехаў у Рым на далейшыя студыі.

Будучы вікарым, дзе мог, а. Францішак памагаў беларусам. Між іншым трох юнакоў паслаў у віленскую беларускую гімназію. З іх скончыў гімназію толькі Францішак Грышкевіч. Распаўсюджываў сярод народу беларускія газэты і кніжкі. У 1921 годзе паліцыя зрабіла рэвізію ў ягоным памешканьні і забрала ўсё, што знашла ў беларускай мове, аднак у наступным годзе зьвярнулі. Калі адбываліся выбары ў польскі сойм, а. Ф. Чарняўскі улажыўшы »Крыніцу« ў польскую газэту »Пшыяцель Люду«, разаслаў яе і гэтак мог народ паінфармавацца пра беларусаў кандыдатаў у польскі сойм.

*

У Рыме студыюе перш у славутым папскім унівэрсытэце »Грэгорыянум«, аднак тут быў кароткі час і ніякіх эгзамінаў не здаваў, бо перайшоў ва Ўсходні Папскі Інстытут, якога рэктарам у той час быў ведамы езуіт Д'Эрбіньі. Навукі ў гэтым Інстытуце а. Францішак закончыў са ступенькай ліцэнцыята (магістра). Апрача айца Чарняўскага студыявала тады ў Рыме пяць іншых беларускіх сьвятароў, сярод іх а. А. Левош, пазьнейшы дзекан у Беластоку; а. Станіслаў Глякоўскі, які загінуў з рук нямецкіх нацыстаў; а. Казімір Кулак, цяперашні пробашч у Ляндварове.

Беларускія сьвятары апрача сваіх неабходных студыяў пры кожнай нагодзе знаёмілі сваіх сяброў з розных рымскіх унівэрсытэтаў з Беларусяй. Прыкладам дагэтуль у Ватыканскай Бібліятэцы знаходзіюца падараваная а. др. К. Кулаком кніга В. Ластоўскага, *Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі*, Коўна, 1926, якую ён падараваў з мэтай, каб ва ўспомненай слаўнай на ўвесь сьвет бібліятэцы быў асНОваны таксама беларускі аддзел.

У тым часе была актуальнай справа польскага канкардату з Ватыканам. Беларускія дзеячы былі з яго нездаволеныя і падымалі фармальныя пратэсты. Рабіў гэта Вацлаў Ластоўскі, рабілі тое самае і нашыя сьвятары студэнты. Францішак Чарняўскі ня быў выняткам. Нават больш таго: у прыватным лісьце да Біскупа Матулевіча ён выказываўся супроць назначэньня на віленскі пасад Р. Ялбжыкоўскага. Ліст а. Францішка трапіў у віленскую курыю і так загарэўся сыры бор! Аўтара ліста абвінавацілі ў »варожым« выступленьні супроць Папы і свайго біскупа. Айцец Д'Эрбіньні запатрабаваў з Вільні той ліст, а кардынал Ціссэрант паказаў яго нават Папу Пію XI. Папа з усьмешкай сказаў: »І я не люблю канкардату!.. А крытыка кандыдатаў у біскупы ня вельмі важная справа...« Над а. Ф. Чарняўскім меўся адбыцца дыяцэзальны суд, але пасьля гэтакіх высказаў Папы, усё скончылася тым, што аўтар быццам абразьлівага ліста павінен быў адправіць тыднёвыя рэкалекцыі і за радай Д'Эрбіньні перапрасіць Ялбжыкоўскага.

*

Вярнуўшыся а. Францішак пасьля студыяў з Рыму затрымаўся на нейкі час у Доме беларускіх Айцоў Марыянаў у Друі. Быў год 1927. Айцец Фабіян Абрантовіч акурат тады быў пакліканы Ватыканам на Далёкі Ўсход

у Харбін да апостальскай працы сярод расейскай эміграцыі. Айцец Чарняўскі, як сам пазьней аб гэтым гаварыў, не жадаў ані зьмяняць лацінскага на ўсходні абрад, ані пакідаць сваей краіны і ехаць да працы да чужых. Таму пасьля поўгодняга пабыту ў Друі ён пакінуў Дом Марыянаў і быў назначаны на вікарага ў Вільні, дзе ставаўся »пад моцным наглядам духоўнай улады« (з ліста да прал. П. Татарыновіча).

У 1929 г. паслалі а. Ф. Чарняўскага на душпастырскую працу ў Францыю сярод польскіх вуглякопаў, аднак і тут меў сувязь з беларусамі і дапамагаў арганізаваць »Хаўрус« і беларускую сэкцыю пры хрысьціянскім сындыкаце работнікаў.

У 1936 г. адведаў сваякоў у Заходняй Беларусі. Тады вачавідзь пераканаўся, што пад Польшчай былі настолькі дзікія нацыянальныя абставіны, якія не дазвалялі нармальна працаваць сьвятару беларусу. Вярнуўся ізноў у Францыю і тут быў праз увесь час вайны. З Францыі у 1948 г. разам з інжынерам Лявонам Рыдлеўскім прыехаў у Рым. Мы ўсе чатыры, г. зн. а. Ф. Чарняўскі, інж. Л. Рыдлеўскі, пралат П. Татарыновіч і ніжэй падпісаны як афіцыяльная дэлегацыя ад беларусаў каталікоў прасілі Папу Пія XII, каб ён заапякаваўся беларусамі і назначыў Апостальскага Візытатара ў асобе Я. Д. Біскупа Б. Слосканса, які зьяўляецца Апостальскім Адміністратарам Магілёўскім і Менскім, а цяпер жыве на выгнаньні. Тады мы беларускія сьвятары пачыналі толькі самі арганізавацца і гэта была першая фармальная дэлегацыя да самога Папы. Папа нас вельмі хутка прыняў, але ў час агульнай аўдыенцыі, хаця як асобную групу і ў аддзельнай невялікай залі ватыканскага палацу. Як цяпер помніцца Пій XII пераходзіў ад аднэй групы да другой. Ягоная высокая асцэтычная постаць была незабыўна імпрэсыўнай. Адзначаўся ён нязвыклымі здольнасьцямі як прамоўца і чалавек глыбокіх студыяў. Меў — як казалі — фатаграфічную памяць. Калі прышоў да нас мы ўсе ўпалі на калені. На мяне выпаў абавязак, як знаючаму італійскую мову, вітаць ад беларусаў Папу і прасіць ягонай асаблівай апекі над намі. Папа выслухаў мяне вельмі уважна, падыйшоў да мяне і кажа: »Дай мне тое, што ты чытаў!« А я на гэта ў сваей прастэчы »Ойча Сьвяты, тут шмат паправак . . . Ці ня могбы я заўтра Вам перадаць перапісаўшы ўсё на чыста . . .« А я-ж сказаў некаторыя рэчы і ненапісаныя. Папа згадзіўся. Ён таксама абяцаў слоўна дапамагчы нам. Я назаўтра занёс у Ватыкан сваю »прамову« і перадаў прыватнаму сакратару Папы. Пій XII запраўды дапамог нам.

У той час таксама наша дэлегацыя была прынята кардыналам Ціссэранам, а яго мы прасілі дапамагчы беларускім студэнтам у Лювэне.

Айцец Ф. Чарняўскі адпрацаваў у Францыі 24 гады сярод чужых і сваіх. Усе яго ведалі як беларуса і шанавалі як добрага сьвятара. »Слово Польске« (год 1953) у разьвітальным артыкуле між іншым пісала: кс. Чарняўскі »цноту сквапна хваліў, заганы сьмела кляйміў, быў спагадлівы для людзкіх слабасьцяў. Ці ў дамах, ці ў касьцеле ўсьцяж заклікаў захоўвываць польскія звычаі і абычаі, а таксама і да добрых паводзінаў — ён сам Беларус!« Значыць наш сьвятар вёў сябе паводле радаў апостала Паўлы: з жыдамі — жыд, з грэкамі — грэк, з палякамі — паляк.

*

У 1953 г. пакінуў Францыю і фармальна адышоў ад душпастырства сярод палякаў. Пераехаў у Лювэн і затрымаўся на сталае пражываньне ў тым самым манастыры Айцоў Бэнэдыктынцаў, у якім і да сяньня жыве Біскуп Слосканс. У Бэльгіі а. Францішак знаходзіўся тры гады с паловай, дакладна ад 16 кастрычніка 1953 да 15 сакавіка 1957 году. Хутка быў назначаны духоўнымі ўладамі душпастырам для беларускай эміграцыі, сьціськлей кажучы для беларусаў каталікоў. Было іх няшмат і параскіданыя па розных кутках Бэльгіі. Найбольш кампактнай групай былі беларускія студэнты Лювэнскага Унівэрсытэту, якімі апякаваўся Бэнэдыктынец Алівэтанец Айцец Робэрт Ван Кавэлерт.

Айцец Чарняўскі прыняўся за выконваньне сваіх абавязкаў шчыра і энэргічна. Ён адведываў беларусаў усюды, дзе толькі яны знаходзіліся. Дзе сам ня мог даехаць, дасылаў свой сьціплы, але вельмі карысны лісток »Слова Божае«.

Дайшоў да нас рукапіс »Дзёньнік« Айца Францішка з таго часу: ад 16.X.1953 — 28.VI. 1955. Хаця й ня кожнага дня, але часта запісываў аўтар »Дзёньніка« рознага роду здарэньні: пра навуку і дзейнасьць беларускіх студэнтаў, пра сваё адведаваньне беларусаў, пра багаслужбы і казані, пра спатканьні з рознымі людзьмі. Айцец Францішак піша шчыра — пэўне-ж пісаў вылучна для сябе, для прыватнага свайго ўжытку. Пра багаслужбу ў Бацьцісе падае, што дзякуючы захадам Андрэя Стрэчэня сабралася 12 чалавек. Ізноў-жа у Сітэ Діндэман »прышло да цэркві толькі 5 асобаў беларусаў, трох хворых . . .« »Адпраўляў Імшу Сьвятую у Флямаль-Гранд. На Імшы Сьв. было толькі 7 асобаў«. Але былі выпадкі, калі прышлі на Сьв. Службу толькі тры або нават дзьве асобы. Разумеецца тады Айцец Франук быў нездаволены. Тут успомнім толькі тыя мясцовасьці, якія ён

адведаў, а каб не загубіць іхняй аўтэнтычнасьці, пададзём назвы ў лацінскай арфаграфіі. І так знаходзім успомненыя прынамсі адзін раз, а некаторыя па два і тры разы, наступныя гарады і гарадкі: Limbourg, Neulenberg, Harckies, Charleroi, Liege, Eupen, Cité Lindeman, Meulenberg, Flamall-Grande, Fleron, Roubais і іншыя. Праўда, Бэльгія ёсьць невялікая сваім прасторам, але каб адведаць сваіх суродзічаў раскінутых, трэба ўмець знайсьці час, ахвоту, здароўе, не гаворачы ўжо пра канечныя грашовыя выдаткі!

Мы ўжо ўспомнілі пра »Слова Божае«. Варта сказаць пра яго крыху больш. Выходзіла яно ратататарным але чыстым друкам у Лювэне ў гадох 1954-57 і ўбачыла сьвятло дня ўсяго 176 нумараў. Зьвяртаючыся да чытачоў Айцец Чарняўскі пісаў: »... Бяруся выдаваць кароткія пропаведзі. Хачу адных паўчыць, другім прыпомніць найгалаўнейшыя праўды веры. Мэта — даць пажыву для душ людзкіх. Ня будзе гэты бюлетэнь папраўны ў беларускай мове. Я школаў у беларускай мове ня кончыў. 25 гадоў прайшло як я апусьціў родны край і працаваў для суседзяў. Бяруся за гэта з канечнай патрэбы. Прашу зьвяртаць увагу не на пісоўню, мову, але шукаць насеньня Хрыстовага і быць той ральлёй, аб якой Хрыстос казаў: ‘Упаўшы на добрую зямлю — гэта тыя, што пачуўшы слова, захоўваюць яго у добрым і чыстым сэрцы і даюць плён у цярплівасьці« (Л. 8, 15).

Сказана коратка, шчыра і ясна! Сам часапіс, або як называе яго сам рэдактар і выдавец — бюлетэнь, выходзіў раз у тыдзень, у разьмеры аднаго вялікага ліста, запоўненага друкам лацінкай на дзьвёх бачынках. Там былі пададзеныя нядзелішнія евангельлі паводле перакладу А. Луцкевіча, шмат цікавых папулярна апрацаваных рэлігійных артыкулаў. Беларуская мова за якую Айцец Ф. Чарняўскі загадзя перапрашае чытачоў ёсьць зусім добрая, а гэта заслуга быўшага студэнта Аляксея Арэшкі, які дапамагаў у друкаваньні »Слова Божага« і папраўляў беларускую мову. Варта заўважыць, што ад нумару 7 (18.4.1954) на першай старонцы апрача друкаванага назову у дзьвёх мовах беларускай і французкай, знаходзіцца малюнак Хрыста нашага мастака Ўладзіміра Саўкі-Міхальскага. Хрыстос ідзе з навукай да людзей трымаючы ў левай руцэ адчыненую кнігу Евангельля, а правую са знакам гвазьдзіннага прабіцьця трымае на сэрцы.

Некалькі нумароў мела больш правідловы назоў (нумары 15–19): »Божае Слова«, а на першай бачыне уваскрослага Хрыста. Ад нумару 21 паўтараецца папярэдні назоў, а Хрыстос нашкіцаваны на хмарах з рукамі разчыненымі і з голубам ля ног. З усіх трох малюнкаў, гэты артыстычна менш удачны.

У апошнім нумары свайго бюлетэня (нр. 176), які мае дату 24 сакавіка 1957 г., Айцец Чарняўскі падаў да ведама: »Канчаецца мая місія ў Бэльгіі, канчаецца і выдаваньне місыйнага лістка пад назвай »Божае Слова«. Выяжджаю ў новы сьвет, на новыя абставіны. Калі будуць магчымасьці, буду выдаваць нешта падобнае, але ў новай і прыгажэйшай форме«. І стрымаў слова: у новым сьвеце выдаваў упарта гадамі друкам »Сяўбіта«.

*

2 красавіка 1957 г. прыехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі. Пачаў энэргічна навязываць кантакты са сваімі суродзічамі. Адведаў Ню Ёрк, Чыкага, Клівэлянд і шмат іншых мясцовасьцяў. Паразсылаў апытальнік з 13 пытаньнямі, з якіх найважнейшымі былі два: 1) ці патрэбная ў Злучаных Штатах беларуская каталіцкая арганізацыя? 2) ці патрэба выдаваць беларускі каталіцкі часапіс?

Ў адказ на свае лісты і апытальнік Айцец Францішак атрымаў ад беларусаў шмат цікавых адказаў. Апінія каталіцкіх дзеячоў была за тым, каб не пачынаць новага часапісу, а падтрымаць ужо існуючыя »Зьніч« і »Божым Шляхам«. Адзін каталік пісаў:

»У Вашых замерах выдавецтва нечага паважнейшага ад »Слова Божага«. Я не шмат магу Вам дапамагчы. Толькі хачу даць сваю заўвагу, ці лепш пытаньне: чаму гэта беларускія сьвятары, усе таксама як і сьвецкія, займаюцца »партызаншчынай«? У праваслаўных — што поп, то і аўтокефалія, а ў каталікоў, што ксёндз, то і рэдактар? Там у Рыме кс. П. Татарыновіч мучыцца са сваім »Зьнічам«; а. Гарошка ў Парыжы з »Божым Шляхам« з'ехаў таксама да найчасьцейшага паяўленьня раз на год; а. Тарасэвіч высіляецца са сваім »Лістком«, а Вы цяпер з »Словам Божым«. Ці-ж гэта немагчыма было-б неяк агульнымі сіламі выдаваць нешта адно паважнейшае рэлігійнага зьместу, без закрананьня палітыкі, а найбольш без успаміну беларускіх »прэзыдэнтаў«, якіх нам Бог наспарыў? ..«

Аўтара гэтага ліста не называем. Магчыма ягоныя выказаваньні за рэзкія, але трэба прызнаць, што шмат хто з беларусаў думаў і пісаў Айцу Чарняўскаму падобна. Заўважым толькі, што тады беларускія каталіцкія сьвятары толькі пачыналі арганізавацца, а ня маючы свайго собскага біскупа, кожны стараўся рабіць на сваю руку тое, што ўважаў за лепшае. Зрэшты, пры ўсіх недахопах, успомненыя аўтарам ліста каталіцкія часапісы сябе апраўдалі. Калі іх ня стала, шмат хто адчуў іхнюю нястачу.

Найбольшым праціўнікам новага часапісу аказаўся рэдактар-выдавец »Зьнічу«, а гэта дзеля тых самых прычын, каб не раздрабляць невялікіх нашых сілаў пісьменніцкіх і не павялічываць матэрыяльных коштаў.

Айцец Чарняўскі парадзіўшыся са шматлікімі, з некаторымі навязаў цясьнейшыя кантакты, а канцы-канцоў зрабіў па свойму: пачаў выдаваць друкам лацінкай новы часапіс »Сяўбіт« з дзіўным пад-тытулам »Вяліка-Літоўскі (Беларускі) двумесячнік«. »Сяўбіт« стала выходзіў як двумесячнік, значыць 6 нумараў у год, за выняткам 1958, 1971 і 1973 гадоў. Зьмест яго — рэлігійна патрыятычны. Былі ў ім і папулярна-цікавыя артыкулы, пераважна пераклады з рэлігійных кніжак. Былі і вершы беларускіх паэтаў, няраз ужо перадрукоўываныя, а таксама вершы Айца Івана Тарасэвіча. Ніяк ня можна назваць »Сяўбіта« рэпрэзэнтацыйным для беларускай рэлігійнай думкі, а лепш зборнікам усячыны, трасянкай сена й саломы. Мова яго была або др. Янкі Станкевіча, ведамая з розных філялягічных дзівосаў, або проста дыялект няграматнага рэдактара.

Значнай заслугай на ніве выдавецкай Айца Чарняўскага зьяўляецца перавыданьне правапісу Лёсіка, катахізму Айца Язэпа Рэшаця і бязцэннай кніжкі ў сусьветнай рэлігійнай літэратуры Тамаша Кэмпійскага »Сьледам за Хрыстусам«.

Нажаль! Пры ўсей сваей беларускай дзейнасьці Айцец Францішак не патрапіў заснаваць беларускай каталіцкай парафіі ані таксама беларускай рэлігійнай арганізацыі. Цэлы час ён аставаўся прычэплены да амэрыканскіх парафіяў на правох вікарэга. Перш жыў у Альбаны, пасьля ў Трой, Когоэс, Шэнэктэдзі, Амстэрдам і наканец Форт Эдвард. З Форт Эдвард сам выбраў дом для старыкоў пад апекай законьніцаў. Гэта сталася, калі ён зьмяніў першую сваю думку: пераехаць у Лёндан і там у беларускім асяродзьдзі дажываць старасьці. У доме для пэнсіянераў і старыкоў сьвятароў матэрыяльныя і духовыя умовы для нашага сьвятара былі вельмі добрыя. Ён меў поўнае забясьпечаньне і апеку. Пад канец жыцьця страціў памяць. Памёр агледжаны Сьвятымі Тайнамі 31 траўня 1979 г. на 86-ым годзе свайго працавітага жыцьця. Памёр у шпіталі Маці Божай у Амстэрдам штату Нью Ёрк. Цела яго было перавезена ў Форт Эдвард. У панядзелак 4-га чэрвеня 1979 г. у касьцеле сьв. Язэпа адбылася урачыстая пантыфікальная Літургія, якую адправіў Біскуп Говард Губбард у саслужэньні з 10-мі сьвятарамі і ў прысутнасьці шматлікіх вернікаў за супакой душы памёршага сьвятара. Пахавалі Айца Францішка на молігках сьв. Язэпа, непадалёк ад касьцёла, ў якім ён служыў і маліўся праз адзінаццаць гадоў. У тым самым касьцеле, яшчэ перад труной з целам адслужыў паніхіду Айцец Архімандрыт Тарасэвіч і ёнжа адвёў на могілкі і пабагаславіў магілу канчаючы славамі: »Вечная Табе памяць, Даражэнькі Айцец Францішак!«

*

Сурова доля памерці Айцу Францішку далёка ад сваей Бацькаўшчыны, пра якую ён нігдзе і ніколі не забыўся. Усе, хто знаў яго, ўспамінаюць яго добрым словам. Быў ён з натуры аптыміст. Шмат знаў жартаў і любіў іх расказываць. Аднак усе ведалі, што гэта глыбокай веры сьвятар. Магчыма, каб ён у малодшым веку пераехаў за акіян, больш зрабіўбы для беларусаў. Пачынаць жыць і працаваць у Амэрыцы і чагось дарабіцца могуць толькі маладыя. Айцец Чарняўскі прыехаў у вольную краіну Вашынгтона маючы за сабой 65 гадкоў, зусім ня знаючы ангельскай мовы! А ўсёжтакі ўпарты беларус і там пакінуў па сабе незацёрты сьлед.

## ПАМЁР ЛЕАНІД ГАЛЯК (1910-1980)

Дня 3 красавіка 1980 г. памёр неспадзявана сьв. п. Леанід Галяк у горадзе Стамфорд, Канэкцікут, у Зл. Шт. Амэрыкі. Ня гледзячы на неспрыяльныя умовы ў Польшчы для беларускіх школаў Леаніду пашчасьлівіла скончыць беларускую гімназію ў Вільні, а пасьля паступіць на юрыдычны факультэт тамжа ў Вільні, які закончыў са ступенькай магістра.

Пачынаючы ад студэнцкіх часаў Л. Галяк належаў да беларускіх арганізацыяў, пісаў даволі шмат у розныя газэты і часапісы. Як юрыст апрацаваў праект канстытуцыі для Беларусі — вольнай Дзяржавы. Апошнім часам цікавіўся паходжаньнем літоўскіх князёў, якія, паводле ягоных досьледаў, паходзяць так як і кіеўскія Рурыкі ад варагаў.

Калі шмат беларусаў пераехала ў Зл. Штаты і пачалі арганізавацца, сп. Галяк быў першым рэдактарам газэты »Беларус« (1950-1951), якая ў гэтым годзе пад рэдактарствам др. Ст. Станкевіча дачакалася 30-ці гадовага юбілею.

Леанід і Раіса Галякі ёсьць ахвярнымі

прыяцелямі ББіМ імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Яны ратавалі ад загубы кнігу *Статут Вялікага Княства Літоўскага* і разам з іншымі скарбамі беларускай культуры перадалі іх у ББіМ.

Сьв. п. Леанід даражыў усім беларускім, і ня дзіва, што апрача Статуту В. Кн. Л. у Беларускім Музэі знаходзяцца ім пераданыя такія рэчы, як часьць пачка да сярнічак з напісам у двох мовах: нямецкай і беларускай — »Streichholzfabrik in Pinsk«, »фабрыка сярнічкоў у Пінску«. разам з галавой жаўнера ў нямецкай касцы; а таксама значкі начэпліваныя беларусам у нямецкіх лагерах, розныя лятучкі і г. д. Толькі адзін раз ён наведаў Лёндан. Ягоны подпіс маецца ў кнізе наведвальнікаў Бібліятэкі пад датай 4 чэрвеня 1978 г. Ціха ўсё аглядаў і задумовыўся... Цешыўся, што ім прыдбаныя рэчы й іншымі беларускімі патрыётамі знайшлі прыстанішча і сталіся заўсёднай выстаўкай беларускай культуры, хаця й на чужыне!..

Вечная памяць Леаніду, а спадарыні Раісе Галяк шчырыя спачуваньні!

Біскуп Ч. СІПОВІЧ
Старшыня Управы ББіМ

## СЬМЕРЦЬ І ПАХОВІНЫ БРАТА МІКАЛАЯ СТАНІСЛАВА БАГОВІЧА

У ноч з суботы на нядзелю, 17 жніўня 1980 г., памёр брат Мікола Баговіч, член Кангрэгацыі Марыянаў. Радзіўся ён у Астраве над возерам каля Мёраў 14 верасьня 1903 г. у сям'і сялян Ігната і Мальвіны (з дому Блажэвіч) Баговічаў. Пакліканы служыць асаблівым спосабам Богу дня 2 жніўня 1926 уступае у навіцыят Марыянаў у Друі, а праз год складае шлюбы паслушэнства, чыстасьці і ўбогасьці.

Праз нейкі час бр. Баговіч вучыўся ў друйскай гімназіі, але скончыўшы шэсьць клясаў астаўся ў кляштары ў характары законнага брата спаўняючы абавязкі агародніка, пчаляра і наагул памачніка эканома.

У 1933 г. разам з а. Язэпам Гэрмановічам выяжджае ў Харбін (Манджурыя), дзе перш пад кіравецтвам Архімандрыта Ф. Абрантовіча, а пасьля Андрэя Цікоты памагае ў гаспадарцы харбінскага Дому, пры якім існавала гімназія з інтэрнатам для расейскіх хлапцоў. Тут у Харбіне наш брат Станіслаў прыняў усходні абрад і зьмяніў імя на Міколу або Мікалая, пад якім ён і астаўся ведамым да самай сьмерці. Дзеля таго што працаваў праз 18 гадоў у расейскім асяродзьдзі, ён пачаў нават забываць сваю родную беларускую мову. Калі ў 1948 г. камуністы арыштавалі ў Харбіне усіх Айцоў, яны на нейкі час законных братоў ня рухалі. Таму брату Баговічу і Зарэмбу (летувіс) удалося выехаць с Харбіна ў Рым у красавіку 1951 году, а адтуль у Лёндан у беларускі Дом Марыянаў.

Тут брат Мікола праз 28 гадоў спаўняў верна абавязкі чытача ў царкве, агародніка і кухара. Ён ад-раня да вечара маліўся і працаваў. Ён не скардзіўся ані на стан здароўя — ніколі ня быў у ніякім шпіталі — ані на абставіны жыцьця. Ён уставаў і йшоў спаць рэгулярна ў тым самым часе. Меў прыгожы голас тэнар і ў запраўднасьці на ім трымаўся царкоўны хор у Марыян Гаўз. Ён ведаў некалькі моваў, а таксама і стараславянскую. Ён з вялікай любоўю прыслужываў да сьвятой Літургіі, незалежна калі і ў якім абрадзе яна служылася. На галоўнай Літургіі ў нядзелі чытаў »Апостала« па-беларуску.

Памёр брат Мікола раптоўна: упаў у агародзе, страціў прытомнасьць і хутка амбулянс завёз яго ў Джэнэрал Барнэт Госпітал. Там цераз некалькі гадзін, агледжаны перш сьвятымі Тайнамі, аддаў душу Богу. ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

Паховіны брата Мікалая адбыліся ў сераду 27 жніўня 1980 г. Сьв. Літургію адслужылі Біскуп Ч. Сіповіч і Протаерэй А. Надсон у царкве сьвятых Апосталаў і Паўлы ў Марыян Гаўз. Прысутнічала шмат духавенства і вернікаў. Цела брата Міколы спачывае на могілках сьв. Панкрата (Іст Фінчлі). Усе, што прыймалі удзел у паховінах, былі пасьля на абедзе ў залі дому сьв. Кірылы Тураўскага на Фінчлі.

## БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯТЭКА І МУЗЭЙ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ Ў ЛЁНДАНЕ ЗАРЭГІСТРАВАНЫЯ ЯК ХАРЫТАТЫЎНАЯ УСТАНОВА

У канцы жніўня 1979 г. ББіМ, якімі кіруе Рада Давераных (The Board of Trustees), былі зарэгістраваныя як харытатыўная арганізацыя (Charitable Trust) згодна з існуючым брытыйскім правам. Рада Давераных была канчаткова уфармована і зацьверджана 23 ліпеня 1979 г. Падаём лісту асоб, якія згадзіліся ўвайсьці ў Раду і ў руках якіх знаходзіцца цяпер праўная і фактычная адказнасьць за існаваньне і дзейнасьць ББіМ:

Асіповіч Павал
Дамінік Янка
Дынглі Якуб
Міхалюк Янка
Журня Фэлікс

МакМіллін Арнольд
Надсон Александар
Пякарскі Янка
Пікарда Гай
Сіповіч Чэслаў

Коратка але выразна ў рэгістрацыйным дакуманце ёсць адзначаныя мэты нашай харытатыўнай арганізацыі:

»Фундаваньне, утрымаваньне Бібліятэкі і Музэю, якіх мэтай зьяўляецца агульная эдукацыя цераз здабываньня студыі і цераз пашырэньне ведаў пра беларускую культуру, гісторыю і рэлігію«.

Сяньня зборы ББіМ маюць значную грашовую вартасьць (сам дом — уласнасьць Бібліятэкі, у якім яна месьціцца, ёсьць варты каля 60.000 фунтаў), але для беларусаў і беларускай культуры маюцца сярод іх рэчы, якім цяжка было-б нават устанавіць цану, прыкладам арыгінальныя лісты Бібліі Скарыны, Літоўскі Статут, рукапісы некаторых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, рэдкія беларускія слоўнікі, слуцкія паясы і інш. Усё гэта ўдалося прыдбаць дзякуючы прыхільнасьці й ахвярнасьці беларускага грамадзтва і нашых прыяцеляў не-беларусаў і таму ББіМ сталася паважнай установай, пра будучыню якой няздарма усе клапоцяцца: Управа, ахвярадаўцы, грамадзтва.

Да часу фармальнай рэгістрацыі ўвесь цяжар фундацыі ляжаў на плячах некалькіх асобаў, хаця справа афармленьня рэгістрацыі вялася ўжо шмат гадоў, аднак толькі пры канцы 1979 г. была памысна заладжана. Спадзяёмся, што нашыя суродзічы і нашыя прыхільнікі, будуць здаволеныя з новага — сказалі-б гістарычнага для нас здарэньня — у жыцьці беларускай культурнай установы.

Як дагэтуль ББіМ былі засьнаваныя і ўтрымоўваліся з прыватных ахвяр. Мы пераконаныя, што і ў будучыні дух ахвярнасьці не застыне і што знойдуцца людзі, якія будуць памятаць у сваіх запісах і тэстамантах пра гэту адзіную на чужыне Установу.

*Ч. СІПОВІЧ*

Лёндан, 25 Сакавіка 1980 г.

---

*Др В. СЕНКЕВІЧ*

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ТЭМАТЫКА БЕЛАРУСКАЙ СЭКЦЫІ ВАТЫКАНСКАГА РАДЫЯ (13. 1. 1971–16. 5. 1977)

**Апрацавана на падставе матэрыялаў, якія знаходзяцца ў Беларускай Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане**

*Ад Рэдакцыі:* Выказываем тут доктару Віктару Сенкевічу шчырыя словы падзякі, які адведваючы Лёндан знайшоў час і ахвоту, каб перагледзіць рукапісныя архіўныя матэрыялы сьв. п. Архімандрыта Льва Гарошкі; у выніку чаго паўстаў гэты цікавы, хаця толькі схэматычны, артыкул. З яго мы бачым, як умела і шырока а. Леў — кіраўнік Беларускай Сэкцыі Ватыканскага Радыя ў тыя гады — падыходзіў да беларускай тэматыкі. Гэта сьведчыць аб ягонай глыбокай духовай культуры і аб любві свайго роднага.

1. 22. 2.1971 — Рэлігія і школьніцтва. Пачаткі школьніцтва і ягонае разьвіцьцё на Беларусі. Уклад духовых асобаў (манахаў) у пашырэньні асьветы і культуры.
2. 1. 3.1971 — Рэлігійны элемэнт у творчасьці М. Багдановіча.
3. 29. 3.1971 — Пачаткі хрысьціянства на Беларусі. Тэкст гэтай перадачы не захаваўся.
4. 4. 4.1971 — Пачаткі хрысьціянства на Беларусі. Працяг.
5. 14. 4.1971 — Рэлігійны элемэнт у старажытнай беларускай літаратуры.
6. 19. 4.1971 — Рэлігійны элемэнт у новай беларускай літаратуры: Марцінкевіч, Багушэвіч, Абуховіч, Лучына, Каганец (Кастравіцкі), Цётка, Зязюля, Леўчык, Быліна.
7. 28. 4.1971 — Сьвяты Кірыла Тураўскі.
8. 3. 5.1971 — Рэлігійны элемэнт у сучаснай беларускай літэратуры: Купала, Колас, Бядуля, Цішка Гартны, Гарун, Палуян, Сваяк (Стэповіч).
9. 31. 5.1971 — Сьв. Еўфрасіньня Полацкая — Патронка Беларусі.
10. 21. 6.1971 — Рэлігійны элемэнт у сучаснай беларускай літэратуры: Пушча, Сяднёў, Віцьбіч, Крушына, Арсеньнева, Жменя.



**Папа Ян Павал II адведаў Беларускую Сэкцыю Ватыканскага радыя дня 5 лютага 1980. Тут мы бачым а. др. Р. Тамушанскага, а. К. Маскаліка і спадарыню Вольгу Брошко.**

11. 13. 9.1971 — Мэта людзкога жыцьця ў аповесьці Анатоля Жмені: »Няведамыя Шляхі«.
12. 25.10.1971 — Родная мова ў багаслужэньні.
13. 15.11.1971 — Рэлігійныя матывы ў беларускай народнай творчасьці.
14. 12. 1.1972 — Старонкі з беларускай рэлігійнай гісторыі: Калі і як хрысьціянства было прызнана афіціяльнай рэлігіяй на беларускіх абшарах.
15. 23. 1.1972 — Рэлігійная талеранцыя на Беларусі.
16. 30. 1.1972 — Справа беларускай каталіцкай епархіі за апошніх 50 гадоў.
17. 6. 2.1972 — Старонкі з беларускай рэлігійнай гісторыі: надужываньне рэлігіі ў палітычных мэтах.
18. 27. 2.1972 — 20-я ўгодкі сьмерці Айца Андрэя Цікоты.
19. 24. 3.1972 — Бацькаўшчыну даў нам Бог.
20. 10. 4.1972 — Старонкі з рэлігійнай гісторыі Беларусі: Кс. Адам Станкевіч (працяг).
21. 24. 4.1972 — Рэлігійнае жыцьцё на Беларусі ў XII-XIII ст.
22. 8. 5.1972 — Беларускае рэлігійнае і грамадзкае жыцьцё ў Англіі.
23. 21. 5.1972 — Рэлігійны элемэнт у творчасьці Францішка Багушэвіча.
24. 11. 6.1972 — Удзел беларускага каталіцкага духавенства ў беларускай літэратуры.
25. 12. 6.1972 — Беларускія сьвецкія рэлігійныя дзеячы: Інж. Адольф Клімовіч і Др. Станіслаў Грынкевіч (старэйшы).
26. 19. 6.1972 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Кс. Віктар Шутовіч.
27. 29. 6.1972 — Першыя беларускія хрысьціянскія князі: князь Ізяслаў.
28. 7. 8.1972 — Біблія доктара Францішка Скарыны.
29. 20. 8.1972 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Айцец Антоні Неманцэвіч, ч. 1.
30. 21. 8.1972 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Айцец Антоні Неманцэвіч, ч. 2.

31. 28. 8.1972 — Старонкі з беларускай рэлігійнай гісторыі: шляхі і перашкоды каталіцызму на абшары Беларусі.
32. 9.10.1972 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Кс. Вінцэсь Гадлеўскі.
33. 23.10. 1972 — Сьвецкія беларускія рэлігійныя дзеячы: Праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла.
34. 6.11. 1972 — Рэлігійны Элемэнт у беларускіх казках.
35. 19. 2.1973 — Праблемы мовы ў Каталіцкай Царкве ў Беларусі ў другой палове XVIII ст. (Змаганьне за мову ў рэлігійным жыцьці на Беларусі. Інтэрвю з др. Друйскім).
36. 4. 3.1973 — Сьвяты Казімір.
37. 7. 3.1973 — Рэлігійнасьць Кастуся Каліноўскага.
38. 12. 3.1973 — Роля Беларусі ў гісторыі Езуітаў.
39. 25. 3.1973 — Бацькаўшчыну даў Бог (25 Сакавіка).
40. 2. 4.1973 — Магілёўскі Мітрапаліт Эдвард Дэ Ропп.
41. 30. 4.1973 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Кс. Францішак Будзька.
42. 27. 5.1973 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Кс. Кастусь Стэповіч (Сваяк).
43. 4. 6.1973 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Кс. Лукіян Хвецька і »Тамаш Трызна і ягоная сям'я«.
44. 23. 7.1973 — Дата сьмерці сьв. Еўфрасіньні Полацкай.
45. 4.11.1973 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Айцец Мацей Магнушэўскі.
46. 12.11.1973 — Сьвяты Ёзафат Кунцэвіч, з нагоды 350 гадоў ад дня ягонай сьмерці, ч. 1.
47. 14.11.1973 — Сьв. Ёзафат Кунцэвіч, ч. 2.
48. 26.11.1973 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Кс. Аляксандар Астрамовіч (Андрэй Зязюля), 95-я ўгодкі нараджэньня.
49. 2. 1.1974 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: кароткі жыцьцяпіс кс. дра Станіслава Глякоўскага.
50. 25. 3.1974 — Абавязкі адносна Бацькаўшчыны (25 Сакавіка).
51. 26. 5.1974 — Рэлігійны элемэнт у творчасьці Янкі Купалы.
52. 1. 9.1974 — »Кілішак гарэлкі мора сьлёз«. (Агульна-людзкое, але адносіцца і да беларусаў).
53. 11.11.1974 — Рэлігійны элемэнт у творах Якуба Коласа.
54. 24. 3.1975 — Любоў Бацькаўшчыны.
55. 4. 9.1975 — Міхаіл Глінка (беларускага паходжаньня).
56. 15. 9.1975 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Кс. Францішак Грынкевіч.
57. 19. 9.1975 — Беларускія рэлігійныя дзеячы: Біскуп Сьцяпан Дэнісэвіч.
58. 9.10.1975 — Станіслаў Манюшка, кампазытар беларускага паходжаньня.

Пачынаючы з 1976 году гутаркі, поўнасьцю прысьвячаныя беларускай тэматыцы, за выняткам пару выпадкаў, зьнікаюць. Ад канца лістапада 1975 г. знаходзім кароткія весткі-інфармацыі пра рэлігійна-грамадзка-культурную дзейнасьць беларускай эміграцыі, звычайна ў вестках з рэлігійнага жыцьця.

1. 20.2.1976 — Інфармацыя пра лекцыю беларусаведы ў Лёндане.
2. 19.3.1976 — Таксама інфармацыя пра лекцыю беларусаведы ў Лёндане.
3. 2.4.1976 — »Весткі з рэлігійнага жыцьця«: 1) Адзначэньне ў Зл. Штатах Амэрыкі беларускага нацыянальнага сьвята; 2) На выдавецкай ніве: праца Аўгеня Калубовіча »Лёс помнікаў стара-беларускага пісьменства.
4. 12.4.1976 — Старонкі з гісторыі Царквы. У гутарцы на тэму: »Гуманізм і рэнэсанс« згадваецца пра гуманізм на Беларусі, Францішак Скарына і інш.
5. 23.4.1976 — Пра беларускія радыя-перадачы ў аўстралійскім радыя.
6. 29.4.1976 — Гаворачы пра Ігара Стравінскага згадваецца беларускае паходжаньне ягонага бацькі.
7. 30.4.1976 — »Весткі з рэлігійнага жыцьця«: на беларускай выдавецкай ніве — пра нр. 11 Журнала Беларусаведы ў ангельскай мове, пра граматыку Мэё і пра 50-я ўгодкі біскупства Балеслава Слоскана.
8. 14.5.1976 — У вестках згадваецца пра новага каталіцкага біскупа Кіселя ў Беластоку.
9. 2.8.1976 — Мікола Равенскі.
10. 2.8.1976 — Старонкі з гісторыі Царквы. Гаворачы пра пратэстантызм у Жэнэве, пра кальвінізм і рэфармацыю коратка згадваецца і пра Беларусь.

11\. 24.1.1977 — Старонкі з гісторыі Царквы: пра стан праваслаўных Цэркваў у XVI-XVII стагодзьдзях.

12\. 26.1.1977 — Віленскі Біскуп Юры Матулевіч.

13\. 28.1.1977 — »Весткі з рэлігійнага жыцьця«: 1) Спатканьне беларусаў у Аўстраліі; 2) Лекцыя беларусаведы ў Лёндане.

14\. 31.1.1977 — Старонкі з гісторыі Царквы: Берасьцейская Вунія, ч. 1.

15\. 14.2.1977 — Старонкі з гісторыі Царквы: Берасьцейская Вунія, ч. 2.

16\. 18.2.1977 — »Весткі з рэлігійнага жыцьця«. Сярод іх: »Паважная публікацыя аб беларускай літаратуры«, праца праф. МакМілліна.

17\. 21.2.1977 — Старонкі з гісторыі Царквы: Берасьцейская Вунія, ч. 3.

18\. 4.3.1977 — Пра лекцыю беларусаведы ў Лёндане.

19\. 18.3.1977 — »Весткі з рэлігійнага жыцьця«, між іншымі: 1) Англамоўная інфармацыя аб беларускай народнай культуры.

20\. 25.3.1977 — Рэлігійнае і нацыянальнае сьвята, 25 Сакавіка.

21\. 1.4.1977 — У вестках адна бачынка пра: 1) Аб значаньні беларускага нацыянальнага сьвята і 2) Гадавая зборка беларусаў у Францыі.

22\. 6.5.1977 — »Весткі з рэлігійнага жыцьця«: пра Беларускі Фэстываль у Злучанах Штатах Амэрыкі.

23\. 16.5.1977 — Скасаваньне Айцоў Езуітаў у 1773 годзе.

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

### 30-я гадавіна беларускіх ватыканскіх радыяперадачаў

У сьнежні 1949 г. першы раз узляцеў з ватыканскіх узгоркаў у Рыме з антэны беларускі голас. Быў гэта толькі экспэрымэнт, спроба. Хутка аднак, бо ўжо ад 6 студня наступнага году распачаліся рэгулярныя беларускія радыяперадачы. Іхнім пачынальнікам і кіраўніком праз 11 гадоў быў пралат Пётра Татарыновіч пры сталай дапамозе ў ролі спікера айца Кастуся Маскаліка.

Калі дзеля свайго веку павінен быў адыйсьці заслужаны пралат Татарыновіч, заступіў яго а. Архімандрыт Гарошка, які й кіраваў радыяперадачамі ад 1971 да 1977, гэта значыць да сваей сьмерці, якая спаткала яго ў час апэрацыі ў Парыжы. Айцу Гарошку праз нейкі час апрача а. К. Маскаліка дапамагаў а. Р. Тамушанскі, які і заступіў яго ў кіравецтве.

Дзеля таго, што не заўсёды можна пачуць беларускія ватыканскія радыяперадачы у вольным сьвеце, каб з імі пазнаёміць — хаця й часткова толькі — нашае грамадзтва, падаём у гэтым нумары артыкул пяра доктара В. Сенкевіча: »Нацыянальная тэматыка Беларускай Сэкцыі Ватыканскага Радыя«.

Ведама, як цяжкой і адказной ёсьць праца тых, хто займаецца радыяперадачамі. Таму ягоным працаўнікам, апрача найлепшых пажаданьняў, патрэбная й канкрэтная дапамога. Трэба ім высылаць інфармацыі пра беларускае жыцьцё, даўжэйшыя артыкулы на актуальныя тэмы і г. д.

Падаём час беларускіх перадачаў:

Ва ўсе панядзелкі, аўторкі, серады, чэцьверы, пятніцы і нядзелі а гадз. 16,45 сярэдняэўрапэйскага часу на кароткіх хвалях 25 м., 31 м. і 41 м.

Адрас Беларускай Сэкцыі:

Radio Vaticana, Sezione Bielorussa,
00120 Cittá del Vaticano.

### Сярэбраны Юбілей Беларускай Каталіцкай Парахвіі ў Чыкага

25 гадоў цяжкой працы і натугаў у першай беларускай парахвіі ў Чыкага! Гэта радасны час і належна адзначаны ў нядзелю на Зялёныя Сьвяткі 25 траўня 1980 году. Св. Літургію ўдзячнасьці адслужыў Айцец Архімандрыт Уладзімір Тарасэвіч з многімі сваімі сьвятарамі прыяцелямі ў прысутнасьці шматлікіх вернікаў і дастойных гасьцей: Біскупа Альфрэда Абрамовіча, які рэпрэзэнтаваў Кардынала Кодзі; Абата Бэнэдыктынаў Валентына, сп. А. Шукелайця з Нью Ёрка і іншых.

Парахвія Хрыста Спаса пачала арганізавацца летам у 1955 г. Тады група сьвежа прыбыўшых беларускіх эмігрантаў зьвярнулася да Абата Бэнэдыктынаў манастыра сьв. Пракопа ў Лісл Іллінойс з просьбай, каб ён вызначыў аднаго са сваіх манахаў беларусаў да

душпастырскай працы сярод беларусаў. Абат Ондрак, з паходжаньня чэх, прыхільна аднёсься да просьбы й вызначыў а. Хрызастома Тарасэвіча, ведамага са сваіх артыкулаў дасыланых у »Хрысьціянскую Думку« (Вільня) і са сваёй дзейнасьці сярод беларусаў у Зл. Шт. Амэрыкі. Айцец Тарасэвіч у сваю чаргу дастаўшы дазвол ад чыкагоўскага кардынала Стрыча пачаў арганізаваць беларускую парахвію.

Першыя багаслужбы для беларусаў адпраўляліся ў залі пры Вабансія Стрыт, пасьля ў залі пры касьцеле сьв. Алёйзага, ў капліцы Язэфітак, аж пакуль ня быў знойдзены і куплены сяньняшні будынак пры Вэст Фульлертон Авэню. У добрым месцы дастаткова раскошны будынак, які пераменены ў сьвятыню хутка упрыгожылі мастацкія іконы, між якімі вызначаюцца сьв. Эўфрасіньня Полацкая, сьв. Кірыл Тураўскі і інш.

Паўстаньне парахвіі і яе развіцьцё — гэта заслута Айцоў беларусаў бэнэдыктынаў: а. Івана Тарасэвіча, а. Язэпа-Апанаса Рэшаця і цяперашняга ейнага кіраўніка а. Уладзіміра Тарасэвіча. Сярод вернікаў беларусаў, якія шмат папрацавалі для сваей парахвіі, а якіх прозьвішчы старэйшага і малодшага пакаленьня відаць і на юбілейнай праграме, трэба ўспомніць прынамсі некалькі: Будзькі, Беленесы, Пануцэвічы, Чарнэцкія, Жызьнеўскія, Рамукі, Тарасэвічы, Махначы, Санковічы, Сенкевічы і інш. Усе яны прыймалі актыўны удзел у беларускім рэлігійным і грамадзкім жыцьці.

За 25 гадоў парахвія шмат чаго перажыла радаснага і сумнага. Усё гэта знаходзіцца ў сталым ейным бюлетэні, які выходзіць у дзьвёх мовах: ў беларускай і ангельскай — »Да Злучэньня« і »Гарбінджэр«.

Няхай-жа Бог багаславіць надалей нашу дарагую парахвію ў Чыкага!



**Прыватная аўдыенцыя Біскупа Ч. Сіповіча ў Папы Яна Паўлы II**
**Ватыкан, 22 сакавіка 1980 г.**

## Прыватная аўдыенцыя Біскупа Ч. Сіповіча ў Папы Яна Паўлы II

Дня 22 сакавіка 1980 г. Папа Ян Павал II прыняў на прыватнай аўдыенцыі Біскупа Ч. Сіповіча, Апостальскага Візытатара Беларусаў. Папа моцна цікавіцца рэлігійным станам у БССР, а таксама нашым жыцьцём на эміграцыі.

Як ведама ў БССР рэлігійнае паложаньне ёсьць зусім ненармальнае. Там няма свайго біскупа, а лік сьвятароў зьмяншаецца. Няма там польскіх школаў, а пераважна польскія ксяндзы моляцца ў касьцёлах і гавораць казані па-польску. У Вішневе ёсьць сьвятар беларус а. Уладыслаў Чарняўскі і ён вядзе душпастырства ў беларускай мове. Апошнім часам зусім няслушна напаў на яго нейкі П. Ліда ў артыкуле парыскай »Культуры« (Нр. 1-388, 1980, с. 35-62).

Знакам прыхільнасьці Айца Сьв. да беларусаў ёсьць між іншым тое, што ў час вялікодных і калядніх урачыстых прамоваў і багаславенстваў у розных мовах, Папа дагэтуль не прамінуў ні разу ўспомніць беларусаў і то ў беларускай мове.



**Папа Ян Павал II з Біскупамі прысутнымі на агульнай аўдыенцыі дня 26 сакавіка 1980 г.**

## 34-ы Агульны Зьезд ЗБВБ

Агульны Зьезд Сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі адбыўся ў Беларускім Доме ў Лёндане дня 7 ліпеня 1980 году. Прыймалі ў ім удзел дэлегаты ад Аддзелаў Лёндану, Манчэстара і Брадфорду. Пасьля справаздачаў і дыскусіяў над імі была выбрана новая Галоўная Управа ў наступным складзе:

**Янка Міхалюк** — Старшыня

**Алесь Зданковіч** — Заступнік Старшыні

**Павал Навара** — Сакратар

**Павал Асіповіч** — скарбнік

**Алесь Лашук** і **Янка Сяўковіч** — Сябры Управы

У наглядную Раду і ў Сяброўскі Суд былі выбраныя: Віктар Міхалюк, Надзя Спіганові і Тодар Лемяшонак.



Ноч шапоча русалкам: засьніце —



На тэмы народных песень

Малюнкі *М. Паўлоўскага*

**Даклады арганізаваныя Ангельска-Беларускім Таварыствам**

14-ы гадавы курс лекцыяў (дакладаў) ладжаных Ангельска-Беларускім Таварыствам прайшоў с посьпехам і з большым удзелам слухачоў, чымся ў папярэдніх гадах. Даклады адбываліся ў залі пры Беларускай Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Пасьля кожнага дакладу была супольная вячэра ў доме сьв. Кірылы Тураўскага, звычайна прыгатаваная спадарыняй Лёляй Міхалюк. Здарэньнем быў даклад Міколы Паўлоўскага, які будучы ўжо сябрам Саюзу Мастакоў у БССР, выбраў свабоду і надалей працуе як мастак паглыбляючы і разьвіваючы свой арыгінальны сымбалізм у жывапісі, якога часта натхненьнем ёсьць паэзія Максіма Багдановіча.

Падаём сьпісак дакладчыкаў і тэмы дакладаў:

13.12.79 — Г. Пікарда, Месца царкоўнай музыкі ў беларускім нацыянальным адраджэньні.

21. 2.80 — М. Паўлоўскі, Сучасныя тэндэнцыі ў беларускім жывапісе ў БССР.

13. 3.80 — Айцец Прот. А. Надсон, Беларускія Брацтвы ў XVII ст.

17. 4.80 — Біскуп Ч. Сіповіч, Беларуская Суфраганія Віленскай Дыяцэзыі ў гадох 1639-1774.

8. 5.80 — Ян Сальноў, Радзівілаўская карта Гондзія (1633) і ейнае месца ў беларускай картографіі.

5. 6.80 — Шырын Акінэр, Сучасныя беларускія пісьменьнікі ў Польшчы.





*М. П.* Сумныя мае усе песьні

На тэмы народных песень



*М. П.*

»Notre Dame«  Трыптых, цэнтральны ліст, 1979 г.

### Беларуская музыка XVII стагодзьдзя

Як падаюць савецкія часапісы (*Ліл. і Маст.*, 6.6.1980; *Голас Радзімы*, 5.6.1980) знойдзена ў Кракаве ў бібліятэцы Ягелёнскага Унівэрсітэта вуніяцкі трэбнік з царквы ў Астрамечаве на Полаччыне. Аказалася, што ў вокладках старой кнігі знаходзіўся сшыток — які цяпер назвалі »Полацкім« — з 69 творамі сьвецкай бытавой музыкі. На канцэрце ў Мінску было ўжо выканана 20 твораў з успомненага зборніка. У некаторых з іх выразна »адчуваецца народная аснова, беларускія і песенныя інтанацыі«.

### Вуніяцкі »Малітваслоў« канца XVIII ст.

У гэтым годзе Беларуская Бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лёндане прыдбала цікавы старадаўні друк, які мы дзеля ягонага зьместу і выданьня назавём вуніяцкім *Малітвасловам.*

Кніга сяньня ня мае ані пачатку ані канца і ў адным тым самым пераплёце мае 198 лістоў рукапісу. Друкаваная частка пачынаецца лістом 115 і канчаецца 399. Маецца яшчэ 7 лістоў друку ненумараваных: Служба о оусопшыхъ. Нажаль, у няпоўнай друкаванай частцы няма лістоў 199-284.

Зьмест кнігі блізу той самы, што й сучасных *Малітвасловаў*. Тут знаходзяцца: полунощница повседневная, суботняя і нядзельная; утреньня, часы, абедніца, вячэрня, параклис да Прасьвятой Багародзіцы і г. д. У захаванай друкаванай частцы маюцца: царскія часы, багародзічныя, канон у сьвятую нядзелю Пасхі, саборнік або каляндар са сьвятымі Усходняй і Лацінскай Цэркваў. Сьвятыя Лацінскай Царквы друкуюцца лацінкай і ў польскай мове згодна з новым стылям, г. зн. на адзінаццаць дзён пазьней. Прыкладам: Въ 10 день (майі) Святаго Апостола Сімона Зилота . . . 21 Heleny Królowy. 21-га разумеецца траўня.

Ліст 225 пад днём 16 верасьня мае палову трапара і цэлы кандак сьв. Ёзафата Архіяпіскапа Полацкага. Палову трапара, бо папярэднія лісты не дахаваліся. Кандак пачынаецца славамі: »Зарею огненную от распятаго Хрыста юношески просвѣщенъ . . .«

Ліст 251 пад днём 2 лістапада мае таксама успамін пра сьвятога Ёзафата: »Въ тойже день, Блженнаго Сщенномчика Іосафата, Архіепа полоцкаго. Тропарь, и Кондакъ, зри Септемвріа въ 16 день«.

Ліст 198 мае трапар, кандак і адпуст Божага Цела, якое сьвяткавалася Заходняй Царквой, а таксама было прынята і каталіцкай усходняй. Падобна было прынята і сьвята »о состраданіи Пресв. Богородицы, или о седми болѣзнехъ« (ліст 198 аб.).

Пры канцы кнігі знаходзіцца *Пасхалія*, якая пачынаецца 1793 годам. Значыць можам дапускаць, што наш *Малітваслоў* быў выдрукаваны перад гэтай датай і найбольш праўдападобна ў 1792 годзе. Але дзе? Ў Супрасьлі? Ў Пачаеве? Астаецца гэта ўстанавіць.

Розныя подпісы з розных гадоў на бачынах *Малітваслова* сьведчуць, што ён пабываў у розных руках: Дыло Ізідор, Темнѣцкій, Турскі . . . Але найцекавейшыя подпісы знаходзяцца пры канцы рукапіснай часткі:

»Францішка вродилася дня 6 мая, русского 18 мая полского 1882 на Заздросты.
Родіянъ народився дня 20 січня руского 1 ліутого полского 1884 года въ Дарахові«.

А вось хіба найцекавейшая запіска, бо ці не адносіцца яна да продкаў Кардынала Язэпа Сліпога? —

»Іа Іоанъ Старикъ вступивъ въ станъ сопружеский зъ Анновъ Сліповъ зъ Заздрости года 1881 дня другого червца«.

Ведама, што Кард. Сліпый радзіўся ў вёсцы Заздрысць і што ўжо ягоны дзед меў мянюшку »Сліпый«, хаця прозьвішча бацькі сапраўднае было Коберніцкый.

### Др. Аляксандар Баршчэўскі ў Англіі

Напачатку чэрвеня на запрошаньне Рэдынскага ўнівэрсытэту ўжо другі раз наведаў Англію загадчык Кафэдры беларускай філялёгіі пры Варшаўскім Унівэрсытэце др. Аляксандар Баршчэўскі. Ен змог прыехаць і ў Лёндан, дзе зрабіў даклад аб беларускай дзейнасьці ў Польшчы. Паводле яго, цяпер там дзяржаўнага шавінізму няма і Беларусы поўнасьцю карыстаюцца ўсімі грамадзянскімі правамі. Урад аказвае маральную і матарыяльную падтрымку беларускім грамадзкім арганізацыям і інстытуцыям.

Па заканчэньні дакладу дакладчык адказваў на шматлікія запытаньні. У Беластоцкай »Ніве« часта закрадаюцца моўныя дыялекты, з вялікай прымешкай украінізмаў. Дакладчык асабіста ёсьць супроць уводжаньня дыялектаў. У Бельшчыне і Гайнаўшчыне ёсьць досыць вялікія моўныя ўкраінскія ўплывы, аднак людзі там пачуваюцца беларусамі. Дарэчы, гэтыя паветы даюць прапарцыянальна найбольшую колькасьць беларускіх дзеячоў. Адносна заходня-эўрапэйскіх і савецкіх беларускіх уплываў на беларускую паэзію ў Польшчы пагляд дакладчыка такі. Пачынаючы ад Францішка Багушэвіча галоўнай мэтай беларускай паэзіі была абарона беларус-

кай народнасьці. У заходня-эўрапэйскай паэзіі, ці нават польскай і рускай паэзіі на гэта няма патрэбы і таму яны могуць сабе дазволіць на інтэлектуалізм і сорам пачуцьцяў у адносінах да народнага. Некаторыя паэты думаюць, што яны могуць жыць і добра тварыць з чужой душой — такія нічога вялікага ня створаць. Савецкая беларуская паэзія стаіць на высокім узроўні, хаця шматлікія творы ёсьць занадта апісальныя і нагадваюць вершаваную прозу. Вялікі росквіт беларускай паэзіі быў асягнуты паэтамі-узвышэнцамі як Уладзімер Дубоўка, Язэп Пушча і іншыя.

*Камунікат ЗБВБ № 85*

**Сямейная ўрачыстасьць Сп-ва Зданковічаў**

Сп. Аляксандар Зданковіч, заст. старшыні ЗБВБ, із свёй сям'ёй, жонкай Гэдды, сынам Аляксандрам і дочкамі Крыстынай, Джанэт і Марыян, 25-га мая адзначылі вялікую сямейную ўрачыстасьць — сярэбраны юбілей свайго жанімства. З гэтай нагоды яны наладзілі для сваіх прыяцеляў вельмі прыемнае прыняцьце ў сьвятліцы ў Доме сьв. Кірыла Тураўскага на Фінчлей. Распачалося яно кароткай багаслужбай у капліцы сьв. Пятра і Паўла, падчас якой Ул. Часлаў Сіповіч прамаўляў да юбілянтаў па беларуску, ангельску і нямецку (Гэдды Зданковіч ёсьць родам з нямецкамоўнай часці Швайцарыі). Падчас прыняцьця, у сваей прамове старшыня ЗБВБ Сп. Янка Міхалюк між іншым сказаў, што Сп. Аляксандар Зданковіч можа служыць шматлікім прыкладам бацькі сям'і. Таксама дае ён добры прыклад для другіх, як трэба працаваць і на грамадзкай ніве, дзе яго актыўнасьць да гэтага часу нічуць ня прыцьмілася. Пазьней прамаўлялі старшыня Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ Сп. Янка Сяўковіч, сам юбілянт і ягоная мама.

Гал. Управа ЗБВБ жадае Сп-у Зданковічам найлепшай памыснасьці на прышласьць у іх супольным жыцьці, а Сп-у Аляксандру Зданковічу плённай працы на беларускай грамадзкай ніве.

*Камунікат ЗБВБ № 85*

**Др. Юрка Генюш у Англіі**

На днях прыехаў з Польшчы ў Англію на кароткі пабыт доктар мэдыцыны Юрка Генюш, сын ведамай беларускай паэтэсы, Ларысы Генюш. У панядзелак 14-га ліпеня др. Ю. Генюш зрабіў даклад для лёнданскіх Беларусаў. Гал. Управа ЗБВБ вітае др. Ю. Генюша з ягоным прыездам сюды і жадае яму прыемна і весела правесьці тут час.

*Камунікат ЗБВБ № 85*

**Міжнародная Прошча з Крыжамі за Прасьледаваную Царкву**

Дня 28 верасьня 1980 г. адбылася Міжнародная Прошча з Крыжамі на плошчы і ў Вэстмінстэрскай Каталіцкай Катэдры ў Лёндане пры удзеле шматлікіх нацыянальнасьцяў. Нацыянальныя групы (устаўленыя паводле альфабэту) ішлі з мальбой на вуснах і несьлі Крыжы з напісамі-назовамі сваей Бацькаўшчыны: Беларусы, Чэхі, Летувісы, і г.д. Беларуская група несла апрача Крыжа прыгожую харугву з іконай Жыровіцкай Божай Маці з аднаго боку, а з »Пагоняй« на фоне бел-чырвона-белым з другога. Харугеў гэтая была перададзена сястрой пралата П. Татарыновіча пасьля сьмерці яе брата ў Беларускую Каталіцкую Місію ў Лёндане.

Ад кожнай нацыянальнай групы былі ахвяраваныя на аўтар Божай Маці кветкі. Ад беларусаў ўручыла іх Біскупу Бурку сп-ня Ірэна Сяўковіч-Браўн. Яна была апранутая у беларускі нацыянальны ўбор. У час даручаньня красак наша група адсьпявала беларускі царкоўны гімн »Магутны Божа«.

Прынялі удзел у Прошчы беларусы каталікі і праваслаўныя. Ачольвалі групу Айцы Ф. Журня і Я. Пякарскі.

Прошчу арганізаваў Камітэт »Царква ў Бядзе«, на чале якога стаіць ведамы цэламу сьвету са сваей ахвярнай дзейнасьці бэльгійскі манах Айцец Варэнфрыдэ.

**Біскуп Ч. Сіповіч у Парыжы**

Біскуп Ч. Сіповіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў, прыехаў у Парыж 27 верасьня 1980 г. і затрымаўся на некалькі дзён у доме Айцоў Лазарыстаў пры вуліцы дэ Сэвр, дзе ні так даўно жыў і працаваў Айцец Архімандрыт Леў Гарошка.

Наступнага дня, у нядзелю, Ўладыка Часлаў у саслужэньні з протоерэям А. Надсонам меў урачыстую Літургію ў капліцы законьніцаў Божае Маці Сіёнскае пры вуліцы ды Пэршэ. Прысутнічаў на Ліутргіі і прычашчаўся пралат Міхась Дэкамп, прадстаўнік Парыскага Архібіскупа.

Капліца была напоўненая вернікамі нятолькі з Парыжа і ваколіцаў, але таксама з Лэ Крэзо й іншых далейшых мясцовасьцяў. Па адным прадстаўніку прыбылі з Бэльгіі і Гішпаніі, а нават здарылася аднэй сям'і з Нова-Зэляндыі быць на гэтай Багаслужбе.

Казань гаварыў Ўладыка Часлаў па-француску і па-беларуску. Галоўнай думкай казані была евангельская праўда: што паможа чалавеку, калі-б і ўвесь сьвет здабыў, а для душы сваей меў шкоду? Ён таксама падкрэсьліў патрэбу трываць пры сваіх беларускіх

звычаях і традыцыях, паводле змогі імкнуцца захаваць самім сваю мову і прышчэпліваць яе сваім нашчадкам.

Пасьля Літургіі ў упрыгожанай беларускімі малюнкамі залі непадалёк капліцы, дзе адбывалася Багаслужба, быў прыгатаваны для ўсіх абед, у час якога прамаўлялі і віталі Біскупа а. прот. А. Надсон, сп. М. Наўмовіч і пралат М. Дэкамп.

Прыгожы сонечны дзень, багата і з французкім густам прыгатаваная яда, павялічылі нямала і так добры настрой прысутных. Не абышлося і без беларускіх сьпеваў, у якіх адзначыліся сп. Віктар Жаўняровіч (перадусім у царкве і ў залі: »Жыў на сьвеце Лявон«) і сп. Нагорны. Чуваць было, як людзі паўтаралі: наша маліцьвенная і братэрская сустрэча — удалася!

Наступнага дня Біскуп Сіповіч і Айцец Прот. Надсон былі прынятыя Кардыналам Парыскім Марты, які ў гутарцы праявіў зацікаўленасьць душпастырствам сярод беларусаў у Францыі. Яшчэ праз пару дзён свайго прабываньня ў Парыжы Біскуп Сіповіч адведаў некаторыя беларускія сем'і, а ў вольным часе выстаўку абразоў у Гранд Палэ, куды трапіў цікавы малюнак і нашага мастака Паўлоўскага.

**Віктар Швэд у Ангельшчыне**

На пачатку кастрычніка гэтага году адведаў Ангельшчыну Віктар Швэд, ведамы беларускі паэт і сябра Саюзу Польскіх Пісьменьнікаў.

Пры нагодных сустрэчах з беларусамі ў Лёндане (19 кастрычніка 1980) і ў іншых мясцох Вялікабрытаніі ён меў кароткія даклады і чытаў свае вершы. Усе яму жадаюць, каб ён не пераставаў сябраваць надалей з музамі і каб меў змогу выдаць хутчэй і больш зборнікаў сваіх твораў.

# НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

**Рэлігійныя выданьні**

А. Леў Гарошка, **Навука і рэлігія,** Рым 1977, с. 269.

Кніжка гэта апрача кароткай прадмовы, бібліяграфіі і спісу імёнаў, успомненых у ей навукоўцаў, мае 13 разьдзелаў:

1. Адносіны між навукаю і рэлігіяю
2. Бог і прыродныя законы
3. Сьляды Бога ў прыродзе
4. Пытаньне паходжаньня жыцьця і яго адносіны да рэлігіі
5. Цуды і навука
6. Сьведчаньне астраноміі аб Богу
7. Думкі прыродаведаў аб Богу
8. Думкі вучоных фізыкаў і матэматыкаў аб Богу
9. Адносіны вучоных фізыкаў і матэматыкаў аб Богу
10. Адносіны вучоных хімікаў да Бога і рэлігіі
11. Адносіны вучоных мэдыкаў да Бога і рэлігіі
12. Адносіны да рэлігіі гэалёгаў і палеанталёгаў
13. Моцнае слова навукі[1].

У першым разьдзеле аўтар у вялікім скароце падае дэфініцыю рэлігіі і навукі. Словам рэлігія прынята азначаць лучнасьць чалавека з Богам. Рэлігія — і тут пазволім дадаць ад сябе: якая-б яна не была: хрысьціянская, магамэтанская і інш. — мае тры сутныя элемэнты: сукупнасьць праўдаў адносна Бога (догмы), маральныя праўды (этыка), якімі ўпарадкоўвывеацца жыцьцё чалавека і абрады (рыт), якімі вонкава ўшаноўваем Бога (с. 7).

У далейшым падаецца прынятая ў філязофіі дэфініцыя навукі: пазнаваньне рэчаў і зьявішчаў сьвятлом прыроднага розуму праз досьледы і выснаўкі. Тут аўтар робіць слушную заўвагу, што марксісты »крыху інакш разумеюць навуку« (с. 8). Марксістам і бязбожнікам пасьвячае аўтар больш увагі ў апошнім разьдзеле сваей працы: »Моцнае слова навукі« (с. 249-255).

Кожны разьдзел ёсьць пэўнай цэласьцю і вяжыць іх ў адну цэласьць мэтанакіроўванасьць аўтара паказаць вялікую колькасьць паважных вучоных, якім навука нічуць не перашкаджала верыць у Бога і аддаваць Яму чэсьць. Кніжка айца Гарошкі ня ёсьць сьцісла навуковае студыюм ані рэлігіі ані навукі, аднак усё ў ей сказанае мае салідную базу або ў арыгінальных навукоўцаў, або пацьверджаньне з другой аўтэнтычнай крыніцы. Зрэшты, зацікаўленыя ў глыбейшых студыях рэлігіі і навукі і іхніх адносінаў, могуць скарыстаць з працаў у розных мовах паказаных у бібліяграфіі (с. 257-259).

Кніжка *»Навука і рэлігія«* зьяўляецца апошняй працай а. Льва, якая ўбачыла гэты сьвет толькі некалькі дзён перад ягонай апэрацыяй, у часе якой ён памёр. Яна ёсьць вынікам шмат-

гадовага прыгатаваньня і пільнай працавітасьці. Калі а. Леў быў рэдактарам »Божым Шляхам«, надрукаваў у ім некалькі артыкулаў, якія пазьней з невялікімі зьменамі ўвайшлі ў кніжку[2].

Айцец Гарошка меў шырокія зацікаўленьні рознымі галінамі навук апрача багасловія і філязофіі, якія мусіў студыяваць гатовячыся да сьвятарства. Ён апрацаваў цікавую схэму разьвіцьця навук[3], на якой можна бачыць 11 галоўных дысцыплін і 136 іхніх разгаліненьняў. Сяньня няма такіх вучоных, каб маглі агарнуць усе дагэтуль ведамыя дысцыпліны, ці нават частку іх. Таму і а. Гарошка ня меў прэтэнсіі, каб паказаць сябе вучоным і то вельмі-ж разрозьненых дысцыплінаў. Аднак ён меў дастатковую падгатоўку, каб сучаснай навуцы глянуць у вочы, асабліва ейным выдатным носьбітам, і каб даць адказ на сама галоўнае: ані навука ані ейныя носьбіты не пярэчуць існаваньню Бога. Наадварот, навука знаходзіць столькі сьлядоў Тварца ў акружаючым нас бачыным сьвеце і з цяжкасьцямі дасягальным сусьвеце, што яны могуць паўтарыць за францускім вучоным Пастэрам (памёр 1895):

»Якраз дзеля таго, што я шмат перадумаў і шмат студыяваў, я стаўся веруючым, як брэтонец. А калі-б я больш разважаў і больш студыяваў, я быўбы веруючым, як брэтонка« (с. 87).

Кніга а. Льва »*Навука і рэлігія*« ёсьць другой выданай ім у Рыме. Першай быў малітаўнік для беларусаў »Божым Шляхам« выданы ў 1946 г.

Астаецца пажадаць, каб гэта цэнная кніжка нашага вучонага трапіла туды, дзе яе найбольш патрабуюць — на Беларусь, аб чым лятуцеў яе аўтар, выдаючы яе на рознай паперы, грубейшай і цянейшай.

Г. Піхура (Пікарда), **Беларускі Царкоўны Спеўнік**, Лёндан, 1979-1980.

Зборнік літургічных сьпеваў для ўжытку Усходняй Царквы быў задуманы аўтарам даўно, але шмат патрэбілася часу і захадаў на яго прыгатаваньне. Дзеля гэтага Г. Піхура езьдзіў у Савецкі Саюз (Кіеў), у Польшчу, у Бельгію і ў Зл. Штаты Амэрыкі. Ён нямала пасьвяціў часу студыям беларускай культуры, асабліва царкоўнай і сьвецкай даўняй і сучаснай музыцы. Ён асабіста навязаў жывыя кантакты з кампазытарамі М. Куліковічам, Селях-Качанскім, Верасавым, Карповічам і іншымі. Аўтар імкнуўся адшукаць даўнія аўтэнтычныя беларускія мэлёдыі (напевы), дзе-б яны не знаходзіліся: ў даўняй праваслаўнай беларускай Царкве, у вуніяцкай ці ў нова-апрацаваных творах беларускімі кампазытарамі.

Праз блізу тысяча гадоў існаваньня ў Беларусі хрысьціянства — няхай сабе ў дзьвёх розных шатах: у бізантыйска-славянскай і лацінскай — немагчыма дапусьціць, што ў нас не было сваей царкоўнай музыкі, якой крыніцы бяруць пачатак ад той ці іншай традыцыі да нас прынесенай, але яны мусілі выплываць з характеру і душы беларуса. Калі гэтак багаты наш абрадавы фальклёр, нашыя народныя песьні, дык ці-ж можна сабе ўявіць адсутнасьць іхняга рэха ў нашых сьвятынях?

Мы дапускаем, што так, але выказаць навукова і на прыкладах, асабліва пасьля гэтулькі зьнішчэньняў нашай краіны; дзеля больш стагодзьдзя трывалага адрантвеньня і мярцьвечаны нашай свомай культуры — гэта нялогкае заданьне!

Нашыя сучасныя моваведы нядаўна ўзяліся за студыі стараславянскай (царкоўнай) мовы, але ў беларускай рэдакцыі. Аказваецца была і такая, хаця яшчэ некаторыя славісты (можам дагадацца, што нятолькі дзеля сьцісла навуковых крытэрыяў) ня годзяцца з гэтым. Калі ўжывалася ў Беларусі стара-славянская мова, дык хіба-ж мусіла на яе мець уплыў жывая беларуская мова, можа не ў такой меры як баўгарская ці нават сэрбская, але ня ў меншай ад расейскай ці украінскай.

Гэтыя заўвагі няхай дапамогуць зразумець аналагічную ідэю ў датарнаваньні да беларускай царкоўнай музыкі. Аўтар *Бел. Царк. Съпеўніка* знайшоўшы ў даўніх царкоўных рукапісных і друкаваных ірмалогіях беларускія мэлёдыі захацеў нятолькі захаваць як нашу старадаўнюю памятку, але ажывіць іх. Тады ён зьвярнуўся да беларускіх кампазытараў, каб яму дапамаглі. Першы адгукнуўся Мікола Куліковіч, які без сумніву быў адным з выдатнейшых нашых кампазытараў на эміграцыі. Таму ня дзіва, што ў *Бел. Царк.* ***Съпеўніку*** **ягоных гарманізацыяў** старой беларускай музыкі, або ягоных арыгінальных кампазыцыяў спатыкаем найбольш. Другое мейсца пасьля яго займае Мікола Равенскі, які шмат папрацаваў над гарманізаваньнем народных і царкоўных беларускіх песьняў. Некалькі кружэлак найграных лювэнскім хорам пад дырыжорствам Равенскага ёсьць сьціплым, але якжа дарагім падаркам для нашай музычнай культуры! У *Бел. Царк. Съпеўніку* знайшлсся усё Равенскага, што толькі Піхура з першых, другіх ці нават сёмых дзесятых рук мог прыдбаць.

У гэтым-же *Съпеўніку* знайшлі сваё мейсца таксама кампазыцыі Селях-Качанскага, Верасава і самога Піхуры.

Як дагэтуль выйшла 35 сшыткоў пераважна на чатырох страніцах запоўненых літургічным тэкстам і прыгожа надрукаванымі нотамі. Выданьне кожнага сшытка абмежанае да 300 эгзэм-

1) Нумэрацыя разьдзелаў наша (Ч. С.).

2) Глядзі ягоныя артыкулы: 'Навука і рэлігія', Божым *Шляхам*, Нр. 54, V-VI 1953, 2-6; Нр. 55, VII-VIII 1953, 4-6. 'Адносіны геалёгаў да рэлігіі', *Б. Шл.*, Нр. 54, V-VI 1953, 6-8. 'Прыродаведы аб Богу', *Б. Шл.*, Нр. 60, V-VI 1954, 7-10. 'Чытаючы кнігу прыроды', *Б. Шл.*, Нр. 66-67, V-IX 1955, 2-10. 'Лекары аб рэлігіі і Богу', *Б. Шл.*, Нр. 76-81, I-IX 1957, 44-49. 'Адносіны вучоных хэмікаў да Бога і рэлігіі', *Б. Шл.*, Нр. 83, 1964, 14-16; Нр. 84, 1964, 14-15.

3) *Божым Шляхам*, Нр. 54, V-VI 1953, 5.

пляраў. Трэба спадзявацца, што калі ўсе сшыткі выйдуць з друку і калі іх зьбярэш ў адзін гурт, атрымаецца салідная кніжыца-сьпеўнік. Дай Божа!

Спэцыялістам музыкалёгам пакідаем суд над зьместам гэтага першага беларускага зборніка царкоўных песьняў. Пэўныя вонкавыя недахопы мы самі заўважылі: нумэрацыя сшыткоў не адказвае пасьлядоўнасьці літургічных сьпеваў, некаторыя назовы зьбеларушчаныя, іншыя астаюцца славянскія і інш. Але гэтыя ўсе недахопы можна ў будучыні паправіць, а таксама зьбеларушчыць поўнасьцю зьмест. Для аўтара пакульшто найважнейшым ёсьць увекавечніць беларускія мэлёдыі, выцягнуць з цемры забыцьця жывое калісь, спапулярызаваць сваіх кампазытараў. І за ўсё гэта мы ўдзячныя Г. Піхуру-Пікарду.

Для поўнай уявы які зьмест новага *Сьпеўніка* і чыя ў ім музыка падаём тут схэматычна дакладны зьмест. Зазначаем, што ў другой частцы будуць надрукованыя некаторыя рэлігійныя песьні ў жывой беларускай мове: вялікодныя, калядкі і іншыя.

### *ЗЬМЕСТ БЕЛАРУСКАГА ЦАРКОЎНАГА СЬПЕЎНІКА*

1. Уступныя малітвы.
2. Экценіі:
   *Вялікая* — М. Равенскі, М. Куліковіч, Супрасльскі н., Жыровіцкі н.
   *Малая* — Супрасльскі н., Жыровіцкі н., М. Равенскі, М. Куліковіч.
3. Антыфона:
   Благослови душе моя Господа, В. Селях-Качанскі
   Благослови душе моя Господа, М. Равенскі
   Благослови душе моя Господа, М. Куліковіч
   Хвалі душе моя Господа, В. Селях-Качанскі
   Хвалі душе моя Господа, М. Равенскі
4. Единородный Сыне, — М. Равенскі
   Единородный Сыне, — М. Куліковіч
5. Антыфона: Во царствии Твоем, — М. Равенскі
6. Приидите поклонимся, — М. Равенскі
   Приидите поклонимся, — М. Куліковіч
7. Аллилуя, — М. Равенскі
   Аллилуя, — М. Куліковіч
8. Святый Боже, — Палескі напеў
   Святый Боже, — М. Равенскі
   Святый Боже, — М. Куліковіч
   Сьвяты Божа, — Беларускі традыцыйны напеў
9. Экценіі пасьля Евангельля:
   Слава Табе Господзі — Супрасльскі напеў
   Слава Табе Господзі — Жыровіцкі напеў
   Слава Табе Господзі — Падляскі напеў
   Слава Табе Господзі — М. Равенскі
   Слава Табе Господзі — М. Куліковіч
   Сугубая Экценія — Супрасльскі напеў
   Сугубая Экценія — Жыровіцкі напеў
   Сугубая Экценія — Падляскі напеў
   Сугубая Экценія — Палескі напеў
   Сугубая Экценія — М. Равенскі
10. Иже Херувімы — М. Равенскі
    Иже Херувімы — М. Равенскі (Нр. 3)
    Иже Херувімы — М. Куліковіч (Нр. 1)
    Иже Херувімы — Беларускі напеў, гарм. М. Куліковіча
    Иже Херувімы — Слуцкі напеў, гарм. М. Куліковіча
    Иже Херувімы — Віленскі напеў, гарм. М. Куліковіча
    Иже Херувімы — Яблачынскі напеў, гарм. М. Куліковіча
11. Верую — М. Куліковіч
    Верую — М. Равенскі
    Верую — Падляскі напеў
    Верую — Народнае
12. Милость Мира — Падляскі напеў
    Милость Мира — Палескі н., гарманізацыя Селях-Качанскага
    Милость Мира — Жыровіцкі н., гарманізацыя М. Куліковіча
    Милость Мира — Д. Верасаў
    Милость Мира — М. Равенскі
    Милость Мира — М. Куліковіч
13. Достойно есть — М. Равенскі
    Достойно есть — М. Куліковіч (Нр. 1)
    Достойно есть — М. Куліковіч (Нр. 2)
    Достойно есть — Беларускі напеў, гарм. М. Куліковіча
    Достойно есть — Супрасльскі напеў
14. Отче наш — М. Равенскі
    Отче наш — Г. Піхура
    Отче наш — М. Куліковіч
    Отче наш — Падляскі напеў
15. Хвалите Господа (Причастен):
    Хвалите Господа — М. Равенскі
    Хвалите Господа — М. Куліковіч
16. Да ісполнятся — М. Равенскі
    Да ісполнятся — Беларускі напеў, гарм. М. Куліковіча
17. Буди імя Господне — Палескі напеў
    Буди імя Господне — М. Равенскі
    Буди імя Господне — Мірскі напеў, апрацаваў Г. Піхура
18. Канцовыя малітвы:
    Господи спаси — Г. Піхура
19. Магутны Божа — Словы Н. Арсеньневай, музыка М. Равенскага.

**СЛУЖЭБОЎНІК. Парадак Святых і Боскіх Літургіяў Яна Золатавуснага й Васіля Вялікага**. Выдана сродкамі вернікаў Беларускай Аўтакафальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне. Добрасловіў Высокапачэсны Мікалай, Архіяпіскап БАПЦ з удзелам Выд. »Пагоня«, Таронта, 1980, стр. 168.

Ужо той, хто мае вялікую заслугу пры выданьні гэтай сьвятой кнігі, высказаўся як аб

даўным патрэбнай (гл. К. Акула, ‘Даўно патрэбная кніга’, *Беларус*, Нр. 277, травень 1980, с. 5). Слушна і сам укладальнік (аўтар) кнігі сьцьвярджае, што »гэты службоўнік першы ў гісторыі нашага народу, выдадзены друкам« (с. 4). Тут мы разумеем, што першы ў беларускай мове й выдадзены друкам, бо ратотарнае выданьне адначасова кірыліцай і лацінкай прыгатовіў В. П.: *Служба Божая або Сьв. Літургія Сьвятога Яна Хрызастома а таксама некаторыя дадатковыя малітвы на розныя нагоды й урачыстасьці ды штодзённыя пацеры,* Чыкаго, 1958, стр. 150.

Вонкава »*Службоўнік*« выглядае скромна але паважна. На шэражаўтаватай абложцы чорны крыж сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Унутры на добрай паперы друк чысты і выразны. Тое, што называецца рубрыкамі, бо ў літургічных кнігах звыкла друкавацца чырваньню, у »*Службоўніку*« надрукавана курсывам. У кнігах такога роду ані памылак ані карэктаў не павінна было-б быць. У гэтым выданьні памылак вельмі мала й добра, што была зробленая наапошку карэкта.

Зьмест »*Службоўніка*« сапраўды багаты, бо апрача »Заміж прадмовы« і літургічна-маральных паясьненьняў пад агульным »Трэба ведаць«, маюцца праскамідыя і дзьве Літургіі: сьв. Яна Залатавуснага (у арыгінале менш правідлова: Золатавуснага) і сьв. Васіля Вялікага і то пададзеныя для службы сьвятара і архіерэйскай, разумеецца з дыяканам і іншымі прыслужнікамі. Літургіі канчаюцца водпускам, у якім успамінаюцца пасьля Хрыста Найсьвяцейшая і Найчысьцейшая Ягоная Маці, Сьвятыя слаўныя і ўсяхвальныя Апосталы, Сьвятыя Айцы Ян Золатавусны або Васіль Вялікі, ў залежнасьці якая служыцца Літургія, сьвятая і дастойная Маці Еўфрасіньня, княжна Полацкая, сьвяты храму, сьвяты айцец наш Кірыл Тураўскі, Беларускі Залатавусны, сьвятыя дня, сьвятыя і праведныя праайцы Акім і Ганна.

»Магутны Божа« сьпяваецца ва ўсе дні пасьля Літургіі, за выняткам вялікоднага часу. Далей ідуць малітвы падзякі, водпусты, зьбеларушчаныя пракімены на розныя нагоды, аллілуарыі й прычасьнікі на Літургіі, Абедніца і абрад абходу са сьвятой вадой. »*Службоўнік*« як бачым ёсьць багаты і зьмястоўны, хаця ў ім і прапушчаныя некаторыя важныя часткі, якія звычайна друкуюцца ў поўных славянскіх *Служэбніках*, а гэтымі ёсьць: вячэрніца, вутраніца, саборнік або месяцаслоў, а таксама сьв. Літургія Перш-Асьвячаных Дараў. Аўтар »*Службоўніка*« бачна сьведама прапусьціў Літургію Перш-Асьвячаных Дараў, бо яна была выдадзена асобнай кніжацай у перакладзе Мітрапаліта Андрэя у Клыўлендзе ў 1979 годзе.

Беларуская мова »Службоўніка« ў агульным добрая, старaславянскія тэксты — арыгінальна грэцкія — перададзены па-беларуску зразумела і згодна з арыгіналамі. У гэтай піянерскай працы ня дзіва, што ў адпаведнасьці некаторых слоў ці нават цэлых сказаў або літургічных паясьненьняў можна сумнівацца. Прызнаём, што такога роду кніга як »Службоўнік« ёсьць першай у беларускай мове, аднак шмат матэрыялу, які на яго склаўся, быў ужо ў розных іншых выданьнях апублікаваны і мы сумніваемся, ці ўкладальнік новай кнігі яго выкарыстаў. Маем на ўвазе перадусім наступныя публікацыі:

I. *Малітаўнікі*

1) *Беларускі Праваслаўны Малітвеньнік.* З багаславенства Блажэньнейшага Дзянісія, Мітрапаліта Варшаўскага. Варшава 1943. Выданьне Бел. Царк. Брацтва ім. Сьв. Юрага ў Варшаве.

2) *Праваслаўны Малітаўнік,* выданы ў Нью Ёрку а. др. Вайтэнкам у 1966 г. »Дабраславіў на выданьне Архіяпіскап Васіль«.

3) *Каталіцкія малітаўнікі і катахізмоўкі,* якія ў беларускай мове зьявіліся шмат раней ад праваслаўных. Гл.: а. Ф. Журня, ‘Беларускія рэлігійныя выданьні XIX-XX ст.ст.’, Б. Шл., Нр. 4 (132), ліп.-жнівень 1972, с. 4-9.

II. *Служэбнікі*

1) Даўнія беларускія выданьні, перадусім віленскія 1583, 1592, 1617 гадоў.

2) *Служба Божая або Сьвятая Літургія Сьв. Яна Хрызастома* апрацавана В.(ацлавам) П.(анууцэвічам), Чыкаго 1958. Стр. 150.

3) *Сьв. Літургія Раней Асьвячаных Дароў, у* перакладзе Мітрапаліта Андрэя, Клыўленд 1979, стр. 44.

4) *Пакаянны Вялікі Канон Сьв. Андрэя Крыцкага і Канон Пра Укрыжаваньне і Плач Прасьвятое Багародзіцы Сымона Лагафэта.* Пераклаў Мітрапаліт Андрэй. Друк коштам сям’і Лук’янчыкоў. Клыўлэнд 1978, стр. 42.

5) *Малебен на Дзяржаўныя Сьвяты і Вячэрня у Нядзелю Праваслаўя.* Пераклаў Мітрапаліт Андрэй, Клыўленд-Мэльбурн 1978, стр. 36. Ратaтарны друк.

III. *Рэлігійныя падручнікі, часапісы і інш.*

1) С. К. Паўловіч, *Першая Навука Закону Божага з беларуска-славянскім букваром.* Пасобнік для беларускае школы і сям’і. Выд. 2-е папраўленае і дапоўненае ... Прагледжана Віленскай Камісіяй па разгляду бел. падручнікаў Закону Божага. Варшава 1936.

2) Часапіс »*Праваслаўны Беларус*«, Варшава 1925-?

3) *Царкоўные Казаньня,* штомесячны бясплатны дадатак да часопісі »Праваслаўны Беларус«. У 1925 г. выйшла 6 сшыткоў.

4) *Беларускі Праваслаўны Патэрык,* Варшава 1943.

IV. *Беларускія Слоўнікі.*

V. *Беларуская Народная Творчасьць,* выданьне Акадэміі Навук БССР. Мінск 1970. Да 1979 г. выйшла 19 тамоў.

Тут мы ўспомнілі толькі галоўныя крыніцы, якія выпадае, а нярэдка ёсьць канечным выкарыстаць пры апрацоўываньні Служэбніка. Мы ня ўспомнілі аўтараў такіх як Нікольскій, Булгакаў, Дзьмітрыеўскі і інш., якія паясьняюць Літургію і абрады, бо само-сабой разумеецца, што бяз іх абыйсьціся нельга.

У вышэй пададзеных беларускіх крыніцах знаходзяцца збеларушчаныя шматлікія тэксты, як Цару Нябесны, Сьвяты Божа, Ойча наш, Веру, Экценьні і інш. Народная творчасьць паказывае, як народ высказываецца, прыкладам *благаславіць, багаславіць, блаславіць, добраславіць, дабраславіць?* У выданьнях рэлігійных, асабліва літургічных кніг, трэба унікаць разнабою. Інакш, ніколі не навучацца нашыя вернікі па-беларуску маліцца. На вялікі жаль гэты разнабой існуе нятолькі ў праваслаўных выданьнях і каталіцкіх, але і ў самых праваслаўных той самай Царквы і юрысдыкцыі.

Як нам дайсьці да еднасьці, трэба аб гэтым думаць і гаварыць. Цяпер аднак мы застановімся на паасобных некаторых словах і малітвах »Службоўніка«.

*СЛУЖБОЎНІК* — наватвор, блізкі да даўняга дзеяслова *»службовати«,* значыць служыць службу (Літургію). (Гл.: И. И. Срезневский, *Материялы для древнерусс. языка,* т. III, с. 431.) Ці *»Службоўнік«* прыміцца, пакажа будучыня. Аднак ня бачым ніякай патрэбы чурацца старога назову *»Служэбнік«.* Ён спатыкаецца ўжо ў XIV ст.: Служэбнік Кіяўскага Мітрапаліта Кіпрыяна, калі ўжываліся рукапісныя Служэбнікі. Для нас аднак беларусаў ёсьць вельмі важным той факт, што першым сярод усходніх славян друкаваным Служэбнікам быў акурат віленскі, надрукаваны ў друкарні Мамонічаў у 1583 г. за багаславенствам Анісіфара, Мітрапаліты Кіяўскага. У ім чытаем: »Повелѣніемъ благочестиваго господаря великого короля, его милости Стефана (Баторага)... Выдрукована сія кніга служебник в славном и столечном градѣ Вильни«. Таксама і наступны выданы ў Вільні ў 1598 г. мае назоў Служэбнік. Гэта выданьні праваслаўныя для тагочаснай Беларускай Праваслаўнай Царквы, якая была часткай вялізарнай кіяўскай Мітраполіі. Крыху пазьней выйшаў з друкарні тых самых Мамонічаў у Вільні ў 1617 годзе коштам Льва Сапегі: *»Книга служебникъ,* въ нейже блаженныхъ трех Епископовъ литургіе совершаються«. Хаця ён быў празначаны для Вуніяцкай Царквы, але ў сутнасьці нічым ня розьніўся ад праваслаўных выданьняў. Праўда, меў ён цікавы ўступ-паясьненьні Літургіі, абрадаў, які зрабіў вялікі ўплыў на пазьнейшыя выданьні розных каталіцкіх і праваслаўных служэбнікаў, якія яго даслоўна або крыху зьмяніўшы перадрукоўывалі.

*Служэбнік* — ня ёсьць слова расейскае, хіба-ж толькі царкоўна-славянскае, а ў жывой нашай сучаснай мове азначае слугу, або літургічную кнігу Богаслужбы. Адкідаць гэта слова ці яго выракацца няма патрэбы.

*Яна Золатавуснага*

У беларускай мове сяньня ўжываецца »Ян« і »Іван«. І часам бывае так, што каталікі называюць сябе »Іванам«, а праваслаўныя »Янам«. Таксама нашыя розныга роду народныя творы маюць абедзьве формы.

»Золатавуснага« — уважаем неправідловым, супроць нашага »аканьня«. Патрэба сказаць: Залатавуснага. Ёсьць у нашай мове »золата«, але прыметнік: залаты і прыметнікавая форма »Залатавусны«. Неправідлова таксама некаторыя ўжываюць »Златавусны«. »Злата« — гэта старaславянскае, якое часта ўжываюць расейскія казнадзеі дзеля больш урачыстага стылю.

*Добраславі, добраслоўленае, добраслоўлены...*

Дзеля таго, што гэтым словам пачынаецца вельмі ўрачыста сьв. Багаслужба і яно ў розных адменах часта ў ёй паўтараецца, варта над ім даўжэй затрымацца.

Ня знойдзеш яго ў ніякім беларускім слоўніку. Першы, як нам здаецца, хто пачаў яго ўжываць быў др. Янка Станкевіч. (Гл.: Бібля, Лук. 24, 50-51; Ян 20, 29; Быцьця 27, 41; 49, 26 і інш.) Ужыў яго таксама а. др. Войтэнька у *Праваслаўным Малітаўніку:* »Дабраславіў на выданьне«. Аднак трэба заўважыць, што абодвы тут успомненыя аўтары ўжылі яго згодна з вымогамі беларускага аканьня: *дабраславіў, дабраславёныя* і г. д.

У беларускім слоўніцтве маем: *благаславіць, благаслаўленьне* і г. д. У народнай творчасьці таксама, прыкладам: »Благаслаўляю цябе, дзіцятка, на ўсё добрае, а на благое і сам дагадаешся«. *(Бел. Нар. Творчасьць, Выслоўі,* Мінск 1979, с. 182). »Благаславі Хрыстосе, калі так прышлося«. (Айцец Л. Гарошка, *Зборнік нар. прыказкаў і прымаўкаў,* Лёндан 1963, нр. 1097, с. 34. Рукапіс).

Варта яшчэ зьвярнуць увагу на вясельныя беларускія благаславенствы, якія знаходзім у розных беларускіх этнографаў. (Гл.: *Бел. Нар. Творчасьць, Вяселле. Абрад,* Мінск 1978, сс. 64, 73, 109 і інш.) У ўспомніным тут мінскім зборніку чамусьці не знаходзім запісу Браніславы Свідэрскай, які быў надрукаваны ў *Зборніку »Нашай Нівы«,* выданым у Вільні ў 1912 г., стр. 78-79: »Благаслаўленьне вясельнае«. Сват просіць, каб маладога багаславілі родная мамка, родны татка, які ўжо ня жыве; родная бабка, хросныя бацькі, паны-паняткі. А ў канцы »такжэ-ж ён просіць і тых бабылак, што ні маюць ні кароў ні кабылак на сабе з лесу каторые дровы насілі у Бога яму долі і шчасьця прасілі. Прашу-ж гэ-

таму дзіцяці *благаслаўленьне* даці анельскім словам і нізкім паклонам«. Гэты сказ паўтараецца пры кожнай просьбе, а ўсе прысутныя адказываюць: *Благаслаў Боже!*

Выглядае, што найбольш распаўсюджаным у нас ёсьць *благаславіць,* ня гледзячы на тую недарэчнасьць, бо »блага« ў сучаснай беларускай мове значыць »дрэнна«. Магчыма таму ў навейшым часе пачало ўваходзіць у літаратуру і ў рэлігійныя выданьні *»багаславіць«.* Прыкладам, у ведамым творы Купалы: *»Яна і Я«* чытаем:

Стаялі мы. Нявіданыя дзівы
Нас абыймалі крыльлямі сваімі...

І рукі злучвалі нам на векі,
*Багаслаўленьне* далі нам сваё...

Хаця, крыху далей, у тым самым творы маем:

І, як-бы Багародзіца сьвятая, —
Здавалася мне — *блаславіла.*

І пры гэтым »блаславіла« у І. Дварчаніна *Хрэстаматыі* (Вільня 1927, адносьнік 4 на перадапошняй страніцы) маем такую заўвагу: »Жагнаць і благаслаўляць — абодва чужыя. Першае — ад нямецкага — Зэгнэн, другое — старабаўгарскае. З увагі на тое, што першы складнік другога слова — блага — мае ў беларускай мове зусім працілежнае значэньне, чым у баўгарскай (таксама ў іншых паўднёваславянскіх і чэскай), беларусы ўжываюць — б а г а с л а в і ц ь, якое фактычна замяняе свой арыгінал толькі з неабходнасьці і ўжываецца хіба толькі з чуцьця славянскай солідарнасьці«.

Заўважым яшчэ, што аўтары мінскага акадэмічнага вышэй успомненага выданьня, калі самі гавораць пра »багаславенства«, дык заўсёды ужываюць »бласлаўлення«. (Гл. сс. 21, 64 і інш.)

У тэкстах-перакладах сьв. Пісаньня А. Луцкевіч, С. К. Паўловіч, В. Гадлеўскі, Л. Гарошка, П. Татарыновіч і іншыя ўжываюць: *»Багаславенства«, »багаславіць«, »багаслаўлёны«. Бел. Праваслаўны Малітвеньнік* (1943) і Мітрапаліт Андрэй у сваіх вышэй успамінаных выданьнях ужываюць *»багаславіць«* і паходныя ад яго.

Ці ня варта было-б нам прыняць насталае *»багаславіць«, »багаславенства«* і паходныя ад іх?

*

І так мы зьвярнулі ўвагу дагэтуль на некалькі толькі тэрмінаў, ужытых у нававыдадзеным *»Службоўніку«* і заўважылі адну сумную рэч: разнабой у нашых кнігах да малітвы. У слова »нашых« трэба уключыць таксама і каталіцкія і праваслаўныя і пратэстанцкія выданьні. Такі разнабой ёсьць вельмі непажаданым асабліва ў такіх малітвах, як *»Ойча наш«, »Веру«,* малітва да сьв. Духа *»Ўладару нябесны«* і іншыя.

Каб яшчэ больш наглядна паказаць стан нашых перакладаў, астановімся на вельмі важнай малітве да Духа Сьвятога і то толькі на пачатковых яе славах.

1. Цару нябесны, Уцяшыцель, Дух ісьціны... С. К. Паўловіч.
2. Цару Нябесны, Уцяшыцелю Духу праўды...*
3. Цару нябесны, Пацяшыцелю, Духу праўды... а. архім. Л. Гарошка.
4. Валадару нябесны, Пацяшыцелю, Духу праўды... В. Пануцэвіч.
5. Уладару нябесны, Пацяшыцелю, Духу Праўды... а. др. Вайтэнька.
6. Цару Нябесны, Уцяшыцелю, Дух Праўды... Мітрапаліт Андрэй.
7. Уладару Нябесны, Уцяшыцелю, Духу Запраўднасьці... »Службоўнік«.

Прыгледзьціся! Сем перакладаў тых самых пяць слоў малітвы, якая ў грэцкім арыгінале і старацаркоўным перакладзе праз цэлыя стагодзьдзі астаецца нязменнай, а ўсе беларускія пераклады розныя! Аб перакладзе у »Службоўніку« трэба сказаць, што найменш удачны, бо »запраўднасьць« (павінна быць »сапраўднасьць«) ня ёсьць тое самае што »праўда«.

*

Некалькі толькі заўваг аб паясьненьнях, якія зьмешчаныя ў *»Службоўніку«* пад агульным: »Трэба ведаць« (сс. 5-14).

Некаторыя заўвагі без сумніву карысныя, аднак ёсьць і такія, што паважней выглядаў-бы *»Службоўнік«,* каб іх зусім не было. Яны ўзятыя з даўніх служебнікаў (не з найдаўнейшых! бо тыя зусім не падавалі такіх паясьненьняў), калі сьвятары былі невукамі, запрацаваныя фізычна. Аб такіх успамінае а. М. Лапіцкі: »Адзіным вымаганьнем, якое ставілася кандыдату ў сьвяшчэньнікі, была здольнасьць чытаць«. *(Праваслаўе ў В. Кн. Літ. за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы,* Нью Йорк 1978, с. 112) Магчыма тым сьвятарам і варта было прыпамінаць аб ногцях, валасах ды стрыжэньні вусаў і бародаў... Сяньня гэтыя рэчы самі-сабой разумеюцца і ў ніводным паважным падручніку для сьвятароў аб іх няма гутаркі. Хапіла-б сказаць, што сьвятар, які мае служыць, павінен выглядаць апратна і чыста. Найважнейшым ёсьць духовае прыгатаваньне праз малітву і размысьляньні.

Непатрэбны перасол у тым, што »сьвячэнік без епітрахіля, а дыякан бяз стыхара (чаму не: сьціхара?) ня маюць права заходзіць перад сьв. прастол«. (Службоўнік, с. 7). Таксама не выпадае асуджаць сьвятара »які сам сабе прыслугоўвае ў часе богаслужбы (чаму не: багаслужбы?)« аж гэтак моцна, што ён грашыць. Ёсьць ведамым, што праваслаўныя Айцы пустыньнікі і затворнікі маліліся і самі сабе адказывалі.

Усе тут высказаныя заўвагі пра нова-выданы »Службоўнік« не датычаць сутных рэчаў сьв. Літургіі й таму шчыра яго вітаем.

*) *Беларускі Праваслаўны Малітвеньнік,* Варшава 1943, с. 3.

**ГІМНЫ ХРЫСЦІЯН (CHRISTIAN HYMNS IN BYELORUSSIAN).** Пераклаў з розных моваў і ўлажыў Д. А. Яська. Выдавец Byelorussian Evangelical Baptist Fraternity in USA and Canada, Granesville Pa 1979. Азначаных 12 страніц, нумараваных песьняў з нотамі 604.

Калі ўжо маем гэты салідны *Съпеўнік*, дык варта ўспомніць і ягоных папярэднікаў.

Першы беларускі *Съпеўнік* для мэтадыстаў быў выданы ў 1925 г. і выглядае, што ў Вільні. Быў ён сапраўды сьціплы, бо меў усяго 12 песьняў з нотамі. Характэрна, што друкаваўся лацінкай і гражданкай.

Пасьля двух гадоў быў выданы таксама *Съпеўнік*, але ўжо большага разьмеру, хаця бяз нотаў і толькі гражданкай.

У 1930 годзе быў выданы ў Вільні за грошы Паўночна-Амэр. Акц. Супалкі *Песеньнік (Съпеўнік)* пад назовам: *»Хрысьціянскія Духоўныя Песьні 'Божая Ліра'«.* Друкуваўся вылучна гражданкай. У заўвазе Выдавецкага Камітэту, у якім першую ролю адыгрываў паэт Гальяш Леўчык, чытаем наступнага зьместу паясьненьне:

»Гэтыя песні, перад выдрукаваньнем іх, былі перагледжаны, скантралёваны і папраўлены з музыкальнага боку і з боку правільнасьці правапісу і духа беларускага языка спэцыяльнай музыкальна-літэратурнай камісіяй белар. языкаведаў«.

*»Божая Ліра«* зьмяшчае каля 145 розных мэлёдыяў-гімнаў розных аўтараў. Сярод іх ёсьць пара беларускіх. Апрача таго мае парадак публічнага набажэнства Божае Службы (разумеецца мэтадыстаў), апостальскае і нікейскага сабору »Веру«, Гасподню малітву і іншыя малітвы. Пасьля гімнаў пры канцы кніжкі падаецца 28 псальмоў ў добрым беларускім перакладзе А. Луцкевіча. *Съпеўнік* гэты наагул адзначаецца папраўнай беларускай мовай, хаця з паэтычнымі перакладамі бывае розна. Вычуваецца здаровая тэндэнцыя даць, дзе толькі магчыма, нятолькі песьні іншых народаў у беларускай вопратцы, але і творы традыцыйныя свайго народу, прыкладам калядкі. (Глядзі *»Б. Ліра«*, нр. песьняу 19, 20, 21, 23).

У час апошняй вайны, ў 1943 г. ў Менску, быў выданы *»Эвангельскі Хрысьціянскі Съпеўнік«.* На 176 страніцах невялікага разьмеру знаходзяцца 142 песьні бяз нотаў. Друк гражданкай. Выдаўцом *Съпеўніка* быў А. Кецко, які ў прадмове да яго кажа, што сьпевы былі ўзятыя з нямецкага *Съпеўніка*, са зборніка *»Духоўных Песень«* і *»Ліры«*. »Узятыя із *»Ліры«* — кажа Кецко — сьпевы прышлося месцамі выправіць«.

З вышэй сказанага вынікае, што *»Гімны Хрысьціян«*, выданыя Д. А. Яськом, гэта ўжо пяты пратэстанцкі *Съпеўнік* у беларускай мове. Ён адзначаецца, а тым самым і розьніцца ад папярэдніх большаю колькасьцю песьняў — усьяго 604, саліднаю вонкаваю апратнасьцю. Беларуская мова чыстая, паэтычныя пераклады на ўзроўні, хаця пры такой колькасьці песьняў, ня ўсе могуць быць адзінакава ўдалыя. На нашу думку шкада, што з *»Божай Ліры«* трапілі толькі тры песьні і тыя зусім не-характэрныя для беларусаў.

Заслугай усіх тут успомненых *Съпеўнікаў*, асабліва тых з нотамі, ёсьць факт, што яны прышчэпліваюць беларускай рэлігійнай культуры песьні і мэлёдыі розных культурных народаў, сярод якіх не адзін геніі спрычыніўся да іхняга ўзьнікненьня. Іхні зьмест глыбока хрысьціянскі і яны з аднолькавым посьпехам могуць быць выкарыстаныя ўсімі хрысьціянамі каталікамі і праваслаўнымі. Кажучы гэта мы толькі шкадуем аднаго, што нашыя браты мэтадысты і евангелікі не асьмеліліся падаць ані аднэй песьні ў чэсьць Марыі Багародзіцы, якую называюць Благаслаўлёнай. (Глядзі: *Галоўныя асновы Мэтадызму*, Варшава 1925, с. 7; *Хрысьц. Белар. Мэтодыстычныя Абходы*, Вільня 1930, с. 2-3).

Протопрэсьвіцер Мікалай Лапіцкі, **Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы,** Нью Ёрк, 1978, стр. 153.

У сапраўднасьці манаграфія мае куды менш страніц, бо папяраджаюць яе жыцьцяпіс а. М. Лапіцкага ў ангельскай мове (с. 5-6) і шмат даўжэйшы пяра І. Касяка ў беларускай мове (с. 7-13), а таксама ілюстрацыі з жыцьця і дзейнасьці протопрэсьвіцера (с. 14-40).

Далей на страніцы 41 знаходзім паўтораны тытул і паясьненьні: »Магістэрская праца абсольвэнта Студыяў Праваслаўнага Багаслоўя Варшаўскага Унівэрсытэту (у Польшчы). Варшава 1935. З польскае на беларускую мову пералажыў Протопрэсьвіцер Сьвятаслаў Коўш у 1977 годзе«. Значыць кніга выйшла пасьля сьмерці аўтара.

Часы Ягайлы, якім прысьвечана манаграфія, ёсьць пераломнымі, а таму нязвычайна важнымі для ўсіх народаў суседзяў: для летувісаў, бо прынялі ў лацінскай форме хрысьціянства; для беларусаў, бо пасьля заснаваньня лацінскага біскупскага пасаду ў Вільні (1388 г.), пачалі на Беларусі паўставаць лацінскія касьцёлы і парахвіі; для палякаў, бо мелі тэрэны для пашырэньня каталіцтва, а разам з ім заходняй цывілізацыі і палянізацыі так на Жамойці як і ў Беларусі.

Аўтар перш чым разгледзіць стан праваславія за часаў Уладыслава Ягайлы, апісывае палітычнае і адміністрацыйнае паложаньне ў В. Кн. Літоўскім. І гэта робіць слушна, бо дзеля розных »унутраных« княстваў, удзелаў і т. п. правы, выдаваныя Вялікім Князем адносна рэлігіі,

іншая мелі значэньне ў Жамойці, а іншае, або ніякае, ў Беларусі і Украіне.

Праваслаўная Беларусь ці нават уся Русь, улучна з Кіеўшчынай і Галіччынай, мелі вялікі культурны ўплыў на меншыя тэрыторыяльна Жамойць і Аўкштоту. Беларускае пісьменства было ўсёўладарнай, беларуская мова дзяржаўнай. І тут лягічна напрашываецца пытаньне: а чаму яны не сталіся праваслаўнымі? Былі імі некаторыя адзінкі, нават сам Ягайла. Калі ён хрысьціў у Вільні паганаў, там ужо былі праваслаўныя цэрквы і ён ахрысьціў толькі частку насельніцтва ў Вільні, бо магчыма нават большая частка была ўжо хрысьціянамі, праваслаўнымі. Летувісы ад крыжакоў бараніліся, як маглі, бо тыя наварачывалі агнём і мячом. З беларусамі жылі яны ў згодзе, аднак Ягайла стаўся сам каталіком і хрысьціў народ пры дапамозе польскага духавенства. Бачна зыйгралі тут розныя прычыны: рэлігійныя — пасыўнасьць праваславія; палітычныя — саюз з Польшчай супроць супольнага ворага крыжакоў.

Без сумніву аўтар мае слушнасьць, калі цьвердзіць, што Ягайла абдзяляючы шляхту (1387 г.) прывілеямі ўзмоцніў каталіцтва і аслабіў праваславіе. Тое самае сталася і з мяшанымі сужэнствамі, пры якіх абаранялася вера каталіцкай стараны й маральна змушалася праваслаўных пакідаць сваю веру. Аўтар нясьцісла кажа, што пры выдаваньні замуж (с. 63) павінен быў захованы каталіцкі абрад. Справа датычыла нятолькі абраду, але і самой веры.

Аўтар даволі шырока і аб'ектыўна патрактаваў тыя змаганьні за Беларускую Мітраполію будзь яна з пасадам у Кіяве ці Наваградку. Роля Цамбляка незвычайна важная і яго удзел у мантаваньні Беларускай Мітраполіі яшчэ дагэтуль належна неацэнены, магчыма таму, што ён браў удзел у Канстанцкім Саборы і быў сапраўдным славянскім прадстаўнікам злучэньня Цэркваў. Наскольні ён быў інструментам толькі палітыкі Вітаўта і Ягайлы, ці паступаў дзеля сваіх »экумэнічных« перакананьняў — цяжка адказаць на гэтыя пытаньні. Бяручы пад увагу клопаты Ягайлы і Вітаўта ў тварэньні незалежнай Мітраполіі ад Масквы, а нават і ад Канстантынопаля, няхай-сабе і дзеля палітычных прычынаў, цяжка тады пагадзіцца з высновам аўтарам, што вуніі з Польшчай зьвялі праваслаўную рэлігію »на палажэньне паніжанае рэлігіі« (с. 112).

У аддзельных разьдзелах аўтар працы разглядае жыцьцё вернікаў, праваслаўныя манастыры, царкоўную літаратуру і мастацтва ў пару Ягайлы. Як у галоўным разьдзеле, так і ў наступных ён выкарыстаў працы ведамых расейскіх і польскіх аўтараў, рэдка сягаючы да самых крыніцаў. Заслугай аднак а. прот. М. Лапіцкага ёсьць той факт, што ён разглядае Беларускую Праваслаўную Царкву як гістарычную адзінку, якая жыла ў тым часе сваім собскім жыцьцём і імкнулася яго зарганізаваць, утрымаць, паміма перашкодаў з розных старон, асабліва з Масквы. Як дагэтуль чужыя аўтары нашу гісторыю разглядалі як »рускай« Царквы, а ў найлепшым выпадку літоўскай ці польскай.

Такіх манаграфіяў нам патрэба больш.

**Між берагамі. Выбар паэзіі Натальлі Арсеньневай 1920-1970.** Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Нью Ёрк — Таронта 1970, стр. XXXIX + 350.

Прыемна ўзяць у рукі прыгожа аформленую новую кнігу быццам той букет з красак паэзіі, а краскі, хаця й з розных лугоў і часаў, яны нашы. Рознага роду адчуваньні паэтка выказала ў мілазвучнай беларускай мове. Усе яны неяк зьліваюцца ў адно і твораць індывідуальную цэласнасьць, якая вырожнівае яе ад беларускіх песьняроў, хаця й няраз чытаючы ейныя творы прыпомніцца нам Максім Багдановіч, а нават Купала.

У нававыданай кніжцы, калі не лічыць на самым яе пачатку жыцьцяпісу паэткі ў ангельскай мове, знаходзяцца тры розныя часткі: 1) біяграфічна-крытычны нарыс Антона Адамовіча; 2) творы Н. Арсеньневай сабраныя з розных ейных зборнікаў друкаваных і тых, што былі толькі прыгатаўляныя да друку; 3) бібліяграфія дакладная твораў Арсеньневай і літаратура пра яе вельмі старанна апрацаваная Зорай Кіпель. Альфабэтычны паказьнік твораў і агульны зьмест кнігі аблягчаюць яе карыстаньне. Партрэт П. Мірановіча і іншыя здымкі паэтэссы, а таксама эстэтычная вокладка узбагачваюць і ажыўляюць цэннае выданьне, да якога спрычынілася ахвярнасьць беларускага грамадзтва на чужыне.

Арсеньнева ў нашай літаратуры ёсьць самасабой, індывідуум. Падобна як ейны жыцьцёвы шлях ёсьць толькі ейны (паходжаньне, навука ў віленскай гімназіі і ўплыў на яе М. Гарэцкага, замужжа за беларусам вайскавіком, выгнаньні, грамадзкая дзейнасьць у часе страшэннай вайны і на чужыне), так і ейная творчасьць. Крыніцамі яе ёсьць прыродны Богам дадзены талент, які дасыпяваў у вельмі-ж складаных умовах жыцьця, але ўсьцяж развіваўся і знайшоў выхад у лірычных, хаця й не заўсёды па жаночаму мяккіх, песьні-сьпевах. Душа ейная і вока чулыя на колеры, асабліва сіні, жоўты, залаты, хаця можна знайсьці ў ейных вершах, быццам у калейдаскопе, і іншыя. Яна любіць звязываць прыметнікі колераў з абстрактнымі паняцьцямі або з назоўнікамі, да якіх яны звычайна не тасуюцца, прыкладам: »зрэбны змрок«, »месяц мокры« і т. п. Аднак у дзівосных мэтафарах, пароўнаньнях Арсеньнева не пераборшчвала.

Таму яна ёсьць сучаснай, але без дзівосаў »бурапеньнікаў«.

Арсеньнева ёсьць глыбока рэлігійнай асобай. Хаця прапарцыянальна ня шмат у яе чыста рэлігійных вершаў, аднак усе яны павінны быць залічаныя да лепшых. Як метка яна адказала Танку і іншым »маладым паэтам« Заходняй Беларусі: »Вам дадзелі пакора, цярплівасьць і Бог...« Бога наша паэтка не забылася. Яна да Яго моліцца ў »Магутны Божа« (с. 115), яна любіць Хрыста Уваскрэшшым: вершы — »Ускрэсьні!« (с. 235) і »І была там вясна« (с. 285-286), яе захоплівае сьв. Ганна і ейны готык у Вільні (с. 260). Асьмелімся зрабіць заўвагу: у цудоўным вершы »І была там вясна« самае заканчэньне нам менш падабаецца:

Гора,
гора,
о гора Вам, людзі,
бо і сяньня
сьляпыя вы!

Пасьля ўваскрасеньня ня думаецца, што Хрыстос пачаў грозна накідацца на бедных людзей...

Арсеньнева часта разважае аб людзях і аб самой сабе. Тут падаём характэрны для ейнай самаацэнкі верш:

### Я ЧАЛАВЕК

Я чалавек... Усё людзкое,
благое, добрае — ўва мне.
І боль людзкі мне сэрца кроіць,
а радасьць — кроў жвавей жане.

Як хвоі ў засенях сасонных
зялёнай жменяю бяруць
і слоць і сонца й вецер з гоняў —
і я усё, усё бяру.

Шматкі мэлёдый, крыўды, соладзь
сустрэчаў лётных, зімаў золь,
і боль, і шум палёў, і голад,
і гнеў, вастрэйшы за лязо.

Усё адзін акорд пявучы
хай — а зрадзіла...
Песьні я
пляла і стоячы над кручай,
і там на цёмным дне жыцьця.

І я ня каюся, што йдучы
мяжой жыцьцёвай на цянькі,
ірвала ў ячмянёх калючых
сабе на ўцеху васількі.

Хай іх няма, пялёсткаў сіня
даўно зьлінала, і ў пяскох
шляхоў забытых сяньня стыне —
яны былі мае, і ўсё!

## ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ

**З нагоды публікацыі »Ліста да рускага сябра«.**
**Letter to a Russian friend. A 'Samizdat' publication from Soviet Byelorussia**, London, 1979, с. 64.

Ліст сябру ці ворагу?

»Письмо русскому другу« — гістарычны дакумант ананімнага нашага аўтара выходзіць паза рамкі нятолькі аднаго чалавека, але і адной эпохі. Пры гэтым зьмяшчаецца ён у рамках адной праблемы, імя якой эманцыпацыя народаў, у даным выпадку — роўнасьць беларусаў з рускімі.

Невядомы аўтар, несумненна глыбокі знавец гісторыі рускай агрэсіўнай экспансіі ў Беларусі, адклікаецца да найбольш пераканаўчых прыкладаў дзікіх распраў з беларускімі пісьменьнікамі, кнігамі, ідэямі... і беларускай кампартыяй.

Калі можам паставіць яму закід, дык хіба толькі той, што абыходзіць ён маўчаньнем так істотную для беларускага духоўнага жыцьця справу, як трываючая да сягоньняшняга дня рэпрэсіі да ўсіх веравызнаньняў у Беларусі.

Аўтар піша свой дакумант, зыходзячы з веры ў рацыяналізм і высакароднасьць рускага сябра, які — быць можа — зразумее трагізм беларускага становішча і захоча дзейнічаць у напрамку яго зьмены. Калі б »Ліст« быў толькі формай індывідуальнага звароту да адной асобы, дык можна было б думаць, што яна зразумее прыме і апрабуе вылажаныя ў ім ідэі, бо вядома, што ў кожным народзе ёсьць высакародныя адзінкі. Аднак ня можа быць сумненьняў у тым, што »Ліст« зьяўляецца свайго роду раестрам і маніфестам крыўд, праўд і пастулатаў, якія адносяцца да ўсяго рускага грамадзтва і перадусім да савецкай сістэмы. Сістэма гэта, абапіраючыся на унутраным рускім гегаманізме ніколі ня пойдзе на уступкі і не пазбудзецца дабравольна таго, што залічвае да сваіх галоўных заваёў.

Сучасныя рускія вучоныя ні раз з гордасьцю падкрэсьлівалі, што ў Мінску няма ніводнай беларускай школы... А штож гаварыць аб рускай масе? Ці »молат« і »накавальня« зразумеюць роспачны беларускі крык?! Жывучы ў БССР штодзённа сустрэкаемся са шматлікімі фактамі, якія не пазваляюць мець у гэтай справе сумненьняў.

Усёжтакі практычнае значэньне »Ліста« вялізарнае. Трэба яго паставіць побач нацыяналь-

ных зваротаў Багушэвіча, крыку Каліноўскага, веры Купалы, Багдановіча і Гаруна.

»Ліст да рускага сябра« зьяўляецца і лістом да рускага ворага, а таксама дакорлівым зваротам да беларусаў з ланцугамі на душы, з якімі цяжка звязываць надзею на будучыню нашай АЙЧЫНЫ і клічам скіраваным да беларусаў з ланцугамі на целе, якія раней ці пазьней іх скінуць і стануць вольнымі гаспадарамі вольнай краіны, у якой выбар мовы ня будзе залежаць ні ад чужынцаў — сяброў, ні ад чужынцаў — ворагаў.

*П.С.:* Ці-ж не зьяўляецца парадоксам тое, што жывучы ў »сувэрэннай« і »раўнапраўнай« рэспубліцы нельга апублікаваць ні »Ліста да рускага сябра« ні яго ацэнкі?

*З. П.*

---

*Др. В. СЕНКЕВІЧ*

## КАРЫСНАЕ ВЫДАНЬНЕ Ў ПОЛЬСКАЙ МОВЕ

Нядаўна выйшла з друку праца польскага вучонага М. Космана »Гісторыя Беларусі«[1]. Праца гэтая выдадзеная як 21 том сэрыі ўсеагульных гісторыяў, якую друкуе ведамае польскае выдавецтва »Асалінэум«. (Пры нагодзе прыпомнім, што ў 1967 годзе гэтае выдавецтва выпусьціла працу Ахманскага »Гісторыя Літвы«, якая ў значнай меры таксама адносіцца да гісторыі Беларусі)[2].

З пункту гледжаньня тэхнічнага праца Космана беззаганная: добрая папера, цьвёрдая вокладка, шмат ілюстрацыяў, картаў, індэксы асобаў і геаграфічных назваў, бібліяграфія. Тыраж кнігі таксама даволі высокі, бо аж 10 тыс. экземпляраў. »Гісторыя Беларусі« Космана як і ўсе працы згаданае сэрыі папулярнага характару; яна прызначаная для шырокага кругу чытачоў, таму і вымогі па адрасу аўтара павінны быць адпаведныя з гэтым. Яна ахоплівае пэрыяд часу ад зьяўленьня першабытнага чалавека на землях Беларусі да падзеяў, якія адбываліся зусім нядаўна, бо ў 1976 годзе. Ува »Ўступных інфармацыях« аўтар дае геаграфічную характэрыстыку тэрыторыі Беларусі, коратка згадвае сярэднявяковыя крыніцы пра Беларусь і гаворыць пра назву самога краю, (пра што скажам крыху пазьней).

Косман дзеліць гісторыю Беларусі на 11 пэрыядаў: »Першабытная супольнасьць«, »Заходняя Русь ад IX да палавіны XIII ст.«, »Заваёва рускіх земляў літоўцамі«, »Беларусь у дзяржаве Ягайлавічаў«, »Беларусь у шляхэцкай Рэчы Паспалітай«, »Пэрыяд міру да 1648 г.«, затым »Пэрыяд войнаў і аднаўленьня«, »Беларусь у Расейскай Імпэрыі да 1861 году«, »Беларусь у Расейскай Імпэрыі: пачаткі капіталізму«, »Міжваенны пэрыяд: БССР і Заходняя Беларусь«, »II Сусьветная Вайна« і »Паваеннае аднаўленьне і разбудова краю«. Адразу адзначым, што пэрыядызацыя, якую прапануе аўтар сваеасаблівая, зь ёй можна не згаджацца, яе можна аспрэчваць. Ужо сама назва некаторых пэрыядаў, такія як »Заходняя Русь«, »Заваёва рускіх земляў літоўцамі« выклікае шмат засьцярогаў і, адначасна, паказвае, у якім напрамку будзе разьвівацца галоўная думка аўтара, які ягоны падыход да гісторыі беларускага народу. Такія беларускія гісторыкі як праф. Усевалад Ігнатоўскі трымаліся падзелу гісторыі Беларусі на чатыры галоўныя пэрыяды: полацкі (ад IX да паловы XIII ст.), літоўска-беларускі (ад паловы XIII да паловы XVI ст.), польскі (ад паловы XVI да канца XVIII ст.) і расейскі (ад канца XVIII ст. да кастрычніцкага перавароту). Супраць падобнага падзелу выступіў быў гісторык Мікола Шкялёнак[3], які, адкінуўшы пэрыядызацыю Ігнатоўскага, запрапанаваў падзел гісторыі Беларусі на тры пэрыяды: 1) Асобных дзяржаваў, 2) Суцэльнае дзяржаўнасьці (ад паловы XIII да канца XVII ст.) і 3) Пэрыяд упадку беларускае дзяржаўнасьці (ад канца XVII ст. да апошняга часу). Як ведама, савецкая гістарыяграфія прытрымліваецца яшчэ іншай пэрыядызацыі. Але ўсё гэта ня мае кардынальнага значэньня.

У адносінах да працаў з гісторыі Беларусі, якія пішуцца чужынцамі, калі гутарка ідзе пра рэцэнзію іх, дык існуюць дзьве магчымасьці: першая — напісаць асобную кнігу, як гэта гаварылася ў дачыненьні да працы Вакара »Беларусь, тварэньне нацыі«[4], другая — абмяжавацца да разгляду адно галоўных пунктаў аўтарскіх тэзаў. У выпадку працы М. Космана мы зробім гэтае апошняе; гаворачы больш канкрэтна, абмяжуемся да разгляду толькі пару пытаньняў, якія маюць кардынальнае значэньне, асабліва пытаньне тэрміналёгіі, якой прытрымоўваецца аўтар у сваёй кнізе. Правільнае бо растлумачэньне тэрмінаў ёсьць істотным для зразуменьня гістарычнага працэсу беларускага народу, ягонае мінуўшчыны. Як слушна адзначыў беларускі савецкі аўтар Язэп Юхо »Гісторыя беларускага народу значна старэй за яго назву. Тэрмін ‘Беларусь’ у яго сучасным этнаграфічным і дзяржаўна-палітычным значэньні пачаў ужывацца параўнальна нядаўна ... Таму, каб правільна зразумець гісторыю беларускага народу, неабходна прасачыць усе папярэднія імёны,

якія насіў наш народ на працягу свае шматвяковае гісторыі«[5]. Агульна вядома, што шмат беларускай гісторыі зашыфравана ў тэрмінах, якія нам сёньня незразумелыя, або маюць іншае значэньне, чымся яны мелі тады, калі яны ўтвараліся. Асабліва важнае разшыфраваньне тэрмінаў »Літва«, »літоўскі«, »ліцьвін«, бо ад дакладнай інтэрпратацыі іх залежыць правільнае зразуменьне некалькіх вякоў гісторыі беларускага народу, якія часта закрэсьліваюцца толькі таму, што ў адпаведны час ня было яшчэ этнаграфічнага тэрміну »Беларусь«. Блытаніна ў тэрміналёгіі вядзе да скажэньня ўсяго гістарычнага працэсу разьвіцьця нашага народу. У выніку гэтае блытаніны і атрымоўваецца, што шматлікіх дзяржаўных і культурных дзеячоў, якія адыйгралі першарадную ролю ў гісторыі Беларусі вычыркваюць зь беларускага гістарычнага працэсу на тэй толькі аснове, што яны звалі сябе адпаведным іхнаму часу тэрмінам, хоць у сапраўднасьці былі, паводля сучаснай тэрміналёгіі, беларусамі. Ці трэба тады дзівіцца, што, напрыклад, у працы Космана не фігуруе імя вялікага канцлера Льва Сапегі? Прытрымоўваючыся пануючай у польскай (і савецкай) гістарычнай навуцы канцэпцыі пра »бяздзяржаўнасьць« беларускага народу ў мінулым, Косман, падобна як і Ахманскі ды іншыя польскія гісторыкі, тэрміны »Літва«, »літоўскі« зьвязваюць з сучасным іх значэньнем пераносячы іх аўтаматычна на сёньнешніх летувісаў і на Летувіскую ССР прыпісваючы ім і ўсю гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. І гэта тады, калі такі выдатны польскі гісторык, як Александар Брукнэр сьцьвярджаў, што ў XVI стагодзьдзі назвы »Літва«, »літоўскі«, »ліцьвін« ужываліся замест »Беларусь«, »беларускі«, »беларус«, бо пра сапраўдную этнаграфічную Літву-Летуву ў гэтым стагодзьдзі ў сучасным значэньні »ніхто і ня сьніў«[6].

Гэтая блытаніна тэрмінаў прыводзіць часамі да непаразуменьняў, нават недарэчнасьцяў змушаючы чытача запытацца: як магло здарыцца, што маленькі і зь менш разьвітай у тыя часы культурай літоўскі народ (прыкладна палова сёньнешняй Літвы знаходзілася пад уладай Лівонскага ордэна) захапіў вялізарныя прасторы беларускіх і украінскіх земляў і прыгнятаў беларусаў і ўкраінцаў, якіх было разоў у дзесяць больш за літоўцаў?[7]. Між іншым на гэтае пытаньне зьвярнуў увагу і польскі рэцэнзэнт працы М. Космана Сэрчык, які адзначае, што »Моцны мусіў быць край, а і народ, які сядзеў у ім, меў жывучасьць, калі не мясцовыя прынялі мову і звычаі літоўскія, а захопнікі падвергліся рутэнізацыі. Падобна як колькі стагодзьдзяў раней, гісторыя паўтарылася. Нарманскія правадыры хутка перасталі быць Рурыкамі і Свэнамі пераўтвараючыся на працягу паўстагодзьдзя ў Яраславаў і Сьвятаполкаў, якія цяпер загадалі пераможцам: Альгердам і Скіргайлам укладаць дакумэнты ў мове Русі . . .«[8].

У чым-жа справа? А справа ў тым, што, як адзначае згаданы беларускі гісторык Мікола Прашковіч, »аказваецца ў назве — Вялікае Княства Літоўскае. Калі-ж крытычна разабрацца ў гэтым пытаньні, то ўсё стане зразумела«[9]. І аўтар працягвае: »Ядро будучай дзяржавы было закладзенае яшчэ ў XIII стагодзьдзі літоўскім князем Міндоўгам і яго пасьлядоўнікамі. Заснавальнікі дзяржавы далі ёй і афіцыйную назву, якая па традыцыі трымалася на працягу многіх стагодзьдзяў. Але вядома, што ўжо Ягайла і Вітаўт гаварылі толькі па-беларуску (а Ягайла нават пісаў лісты да Ядвігі на беларускай мове), што дзяржаўнай мовай на тэрыторыі ўсяго княства была беларуская мова, што эканамічную, палітычную і ваенную сілу дзяржаве давалі беларускія і ўкраінскія землі«[10].

Мала гэтага, М. Прашковіч дае прыклады аналягічныя да тэрміну »Літва«. Ён піша: »Наконт назвы можна сказаць, што сярэднявечча ведае аналягічныя прыклады. Успомнім Сьвяшчэнную Рымскую Імпэрыю. Думаецца, сёньня нікому ня прыйдзе ў галаву сьцьвярджаць, што гэта была дзяржава італьянцаў. Успомнім таксама нямецкую дзяржаву Прусію, якая ўзьнікла на землях, дзе ўжо ў XIV стагодздзі літоўскае племя прусаў (дакладней было-б »балцкае« — В. С.) было асымілявана. Назва-ж Прусія існавала да сярэдзіны XX стагодзьдзя«[11].

Тое самае сьцьвярджае і другі беларускі савецкі гісторык Мікола Алексютовіч кажучы: »Вядома, што калісьці Італія называлася Рымскай дзяржавай, таксама як, напрыклад Расейская дзяржава — Масковіяй, альбо Вялікім княствам Маскоўскім. Калі глядзець толькі на назву, то можна многае закрэсьліць у гісторыі«[12].

З прычыны ня правільнай інтэрпрэтацыі тэрміналёгіі ў аўтара »Гісторыі Беларусі« і атрымалася, што беларускі народ — народ бяздзяржаўны ў мінулым. Ён так і піша: »Беларусь у сваёй гісторыі ня мела ўласнай дзяржаўнасьці, а ў сувязі з гэтым і тыповай ‘палітычнай гісторыі’, элементу з вонкавага выгляду найбольш істотнага а напэўна і найбольш маляўнічага«[13]. Дарэчы, канцэпцыя аўтара ня новая і не арыгінальная. Гэтакай самай канцэпцыі пра ўтварэньне Вялікага Княства Літоўскага і наагул гісторыі Беларусі прытрымоўваецца польская гістарыяграфія, асабліва гістарычная школа Лаўмянскага, да якое належыць і аўтар, і гістарыяграфія савецкая, якая, у агульным зводзіцца да наступнага: Літоўскія князі скарыстаўшы з цяжкага змаганьня »рускага« народу з татара-мангольскімі агрэсарамі на ўсходзе і нямецкімі на захадзе пачалі падпарадкоўваць сваей уладзе заходнія землі Русі. Адзін з літоўскіх князёў Міндоўг падпарадкаваў сабе другіх літоўскіх князёў і захапіў землі распаложаныя на верхнім

цячэньні Нёмана. Гэтым быў пакладзены пачатак стварэньня літоўскай дзяржавы. Ягонае ўтварэньне вызначалася інтарэсамі літоўскіх фэадалаў, якія хацелі ўмацаваць сваё панаваньне ў суседніх землях Русі. Утварэньне літоўскай дзяржавы паскорыла таксама неабходнасьць змаганьня зь нямецкай агрэсіяй у Прыбалтыцы. Такім чынам ўтварэньне Вялікага Княства Літоўскага тлумачыцца татарскімі заваёвамі і паслабленьнем Русі з аднаго боку ды імпэрыялістычнымі захопамі эгаістычных літоўскіх фэадалаў з другога[14].

Як ведама супраць гэтай канцэпцыі »заваёвы беларускіх земляў літоўцамі«, канцэпцыі »насільля«, выступіла частка беларускіх савецкіх гісторыкаў. Гэтак, напрыклад, згаданы намі раней М. Алексютовіч, разглядзіўшы пытаньне тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага цьвердзіць, што яно »па сваім этнаграфічным складзе і тэрытарыяльным прынцыпе было больш беларускай дзяржавай, чым літоўскай. Да гэтага прывяло і павінна было прывесьці гістарычнае разьвіцьцё закладзенага яшчэ Міндоўгам 'ядра будачай дзяржавы'«[15].

А ядро гэтае ня было там, дзе яго звычайна лякалізуюць гісторыкі — у Аўкштоце; яго трэба шукаць у цэнтры самое Чорнае Русі, на Наваградчыне, факт, на які зьвярнуў увагу беларускі савецкі аўтар М. Ермаловіч. Гаворачы пра беларускія летапісы і іх лёс ён адзначае: »Разам са зьвесткамі Галіцка-Валынскага летапісу гэтыя дакумэнты (г. зн. паасобныя фрагмэнты загінуўшага Лаўрышаўскага летапісу — В. С.) паказваюць, што да XIII ст. на тэрыторыі Беларусі склалася новая гістарычная вобласьць — Навагародзкая зямля, якая атрымала назву ад свайго цэнтру Навагародку, як тады называўся Наваградак. Па сваім эканамічна-сацыяльным разьвіцьці яна выйшла на першае месца сярод іншых беларускіх земляў і таму стала ў сярэдзіне XIII ст. цэнтрам іх паступовага аб'яднаньня. З гэтага-ж летапісу вынікае, што пад Літвой у XIII ст. разумелася не сучасная Літва, а частка тэрыторыі сучаснай Беларусі прыблізна ў абшары паміж Менскам і Наваградкам з усходу на захад і паміж Маладэчнам і Ляхавічамі з поўначы на поўдзень«[16].

Ермаловіч падае таксама і ключ, які адкрывае магчымасьці вырашэньня ня толькі пытаньня зьвязанага з месцам утварэньня ядра будучай літоўскай дзяржавы, але і пытаньня нацыянальнага характару Вялікага Княства Літоўскага. Ён піша: »У гістарычнай літаратуры можна прачытаць, што ў 30-40 гг. XIII стагодзьдзя (дакладна дата не ўказваецца) літоўскі князь Міндоўг падначаліў сабе Наваградак, Слонім, Ваўкавыск і іншыя гарады. Аднак летапіс не пацьвярджае гэтага. Ён гаворыць, што Міндоўг не Наваградак, а 'Литву заня'. Паўстае пытаньне: навошта яму было заваёўваць Літву, калі ён раней з Літвы заваяваў Наваградак? Адказ можа быць толькі адзін: Міндоўг не ўладаў Літвой і таму павінен быў заваёўваць яе з суседняга Наваградка«[17].

Але як Міндоўг туды трапіў? »Каб адказаць на гэтае пытаньне — працягвае аўтар, трэба прыгадаць, што многія літоўскія фэадалы, пацярпеўшы паражэньне ў міжусобнай барацьбе, перабягалі ў суседнія краіны. Так было зь літоўскім князем Доўмантам, які ў 1266 г. уцёк у Пскоў. Там ён прыняў праваслаўе і адразу пасьля абраньня яго князем робіць напады на літоўскія землі. Такім перебежчыкам быў і Міндоўг. Пацярпеўшы паражэньне ў міжусобнай барацьбе, ён уцёк у суседні Наваградак, дзе таксама прыняў праваслаўе і быў абраны князем. Міндоўг стаўся добрай знаходкай для наваградзкіх фэадалаў. Пакрыўджаны сваімі суайчыньнікамі, ён з большай зацікаўленасьцю і жосткасьцю, чым хто-небудзь іншы, мог заваяваць Літву, што ён і зрабіў у канцы 1248 году. Вось чаму ў летапісе і напісана, што Міндоўг 'Литву заня'«[18]. Адзначым, што гэтую сваю тэзу адносна »першага ядра« Вялікага Княства Літоўскага, лякалізацыі гістарычнае Літвы і, адсюль, яе нацыянальны характар, М. Ермаловіч разьвівае і абасноўвае і ў іншых сваіх артыкулах[19].

Як бачым, аж некалькі стагодзьдзяў беларускае гісторыі залежыць ад правільнай інтэрпрэтацыі тэрмінаў і Галіцка-Валынскага летапісу, дакладней, фрагмэнтаў Лаўрышаўскага летапісу, якія ў ім захаваліся і ў якіх расказваецца пра Міндоўга і яго сына Войшалка, пра Траняту, Таўцьвіла і іншых гістарычных асобаў. Косманжа ў сваёй працы пытаньню тэрміналёгіі прысьвячае толькі пару старонак, прычым адно назвам »Чорная« і »Белая« Русь. Да гэтага, як адзначае згаданы намі польскі рэцэнзэнт Сэрчык, »аўтар задавольваецца толькі тлумачэньнем, якое даў сто гадоў таму Суліміpскі ў сваім 'Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага і іншых земляў славянскіх'«[20].

Што-ж тычыцца гэтых двух назоваў, дык сапраўды трэба шкадаваць, што аўтар абмяжаваўся толькі да аднае крыніцы, асабліва, што на гэтую тэму існуе даволі багатая літаратура[21]. Прычым досьледы апошніх гадоў ясна паказваюць, што тэрміны гэтыя мелі чыста рэлігійнае значэньне[22].

У нашай рэцэнзіі мы спыніліся крыху шырэй на пытаньні тэрміналёгіі, бо лічым, што яно мае кардынальнае значеньне. У працы Космана ёсьць іншыя недахопы, але яны ня маюць асноўнай важнасьці: непасьлядоўнасьць у транскрыпцыі беларускіх імёнаў і словаў (аўтар часта прытрымоўваецца расейскай формы транскрыпцыі). У выніку слова »гісторыя«, замест »historyja« пішацца »gistoryja«, што разіць вока чытача, »Туранков«, »Довгялло«, »Басов«, »Маше-

ров«, »Павлюк« — пішуцца замест »Туранкоў«, »Даўгяла«, »Басаў«, »Машэраў, »Паўлюк«; князь Рагвалод чамусьці пішацца »Рогвільд« а Галубок — Голомбэк« і інш.; 40 радкоў, якія аўтар прысьвяціў беларускаму нацыянальнаму руху і абвешчаньню БНР кідаюцца ў вочы сваёй суб'ектыўнасьцяй і г. п.

Ня гледзячы аднак на ўсе гэтыя і іншыя заганы, выхад працы М. Космана трэба толькі вітаць. Ужо сам той факт, што ён наагул узяўся за напісаньне яе — вялікая заслуга аўтара. Асабліва, калі браць пад увагу той факт, што польскія гісторыкі прысьвяцілі гісторыі Беларусі так мала ўвагі і гэта, ня гледзячы на тое, што Беларусь — беспасрэдная суседка Польшчы, якая на працягу некалькіх стагодзьдзяў зьвязвала зь ёй свой лёс, творачы супольны дзяржаўны арганізм[23]. Пры адсутнасьці папярэднікаў, аўтару прыхадзілася часамі рабіць піянерскія намаганьні. Аднак ён выйшаў з сытуацыі робячы сваёй кнігай значны ўклад у беларусіку і, адначасна, вялікі крок у напрамку азнаямленьня сваіх суродзічаў пра Беларусь, пра мінулае беларускага народу. Спадзяемся, што праца Космана дасьць новы штуршок польскім навукоўцам, якія цікавяцца беларускай праблематыкай, да далейшых досьледаў гэтае тэмы[24].

1. Marceli Kosman, *Historia Białorusi*, Wrocław, Ossolineum, 1979, стр. 405. Гэта ўжо другая праца аўтара, якая адносіцца беспасрэдна да Беларусі. У 1973 г. выйшла ягоная кніга: *Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej*. Рэцэнзію на яе гл.: Р. Максімовіч, *Запісы*, БІНіМ, Нр. 14, 1976, с. 141-145.
2. Jerzy Ochmański, *Historia Litwy*, Wrocław, Ossolineum, 1967, стр. 347. Кароткая рэцэнзія на яе гл.: *The Journal of Byelorussian Studies*, Vol. I, nr. 4, 1968, 351-352.
3. Мікалай Шкялёнак, 'Падзел гісторыі Беларусі на пэрыяды', у: *Запісы Беларускага Навуковага Таварыства*, ст. I, Вільня 1938, с. 1-9.
4. Алесь Марговіч, Рэцэнзія працы Н. Вакара: Byelorussia, *The Making of a Nation*, зьмешчаная ў кн. 5 *Беларускага Зборніка*, Мюнхэн 1956, стр. 178-196.
5. Язэп Юхо, 'Пра назву Беларусь', *Полымя*, 1968, нр. I, стр. 181.
6. Aleksander Bruckner, 'Rusko-polski rękopis z r. 1510', *Slavia*, VII, Praha 1928, стр. 10-11.
7. Мікола Прашковіч, 'Слова пра Афанасія Філіповіча', *Полымя*, Нр. 12, 1965, стр. 177.
8. Władysław Serczyk,' Białoruś bliska i daleka', *Nowe Książki*, Nr. 19, 15.X.1979, стр. 6.
9. Мікола Прашковіч, так сама.
10. Там сама.
11. Там сама.
12. Мікола Алексютовіч, 'А дзе-ж ісьціна аб'ектыўная', *Полымя*, Нр. 5, 1966, стр. 184.
13. Стр. 366.
14. *Гісторыя Беларускай ССР*, т. I, Мінск 1955. У 5ці тамовай *Гісторыі Беларускай ССР*, т. I, Мінск 1972, а таксама *Беларускай Савецкай Энцыклапедыі*, гаворыцца ўжо пра »ўключэньне заходніх зямель Русі ў склад Вялікага Княства Літоўскага«, сутнасьць аднак канцэпцыі не мяняецца.
15. Стр. 184.
16. Мікола Ермаловіч, 'Беларускія летапісы і іх лёс', *Помнікі Гісторыі і культуры Беларусі*, Нр. 4, 1970, стр. 33.
17. Там сама.
18. Там сама, стр. 33-34.
19. 'Где была летописная Литва?', *Тезисы докладов к конференции по археологии Белорусии*, Институт Истории АН БССР, Минск 1969, стр. 233-238. — 'Из истории Новогрудка (с середины XI до канца XIII в.)', *Беларускія старадаўнасьці*, Мінск 1972, (Матэрыялы Канферэнцыі па Археалогіі БССР і сумежных тэрыторый), стр. 343-357.
20. Wł. Serczyk, op. cit., стр. 6.
21. Згадаем толькі некаторыя працы, якія напэўна былі даступныя для аўтара: А. А. Потебня, 'Белая Русь' (Этимологическия заметки), *Живая Старина*, I, вып. III, СПб, стр. 118-119. — В. И. Ламанский, 'Белая Русь', *Живая Старина*, I, вып. III, стр. 245-250. — Александр Соловьев, *Белая и Чорная Русь*, Белград 1940 (Адбітак са *Сборника Русского Археологического Общества в Югославии*, т. III, стр. 29-66). — П. Крапівін, 'Паходжаньне назваў »Русь«, »Белая Русь«, »Чорная Русь« і »Чырвоная Русь«', *Весьці АН БССР* (Сэрыя Грамадзкіх Навук), 3, 1956, стр. 53-66. — N. P. Vakar, 'The name »White Russia«', *The American Slavic and East European Review*, VIII, 1949, nr. 3, стр. 201-203.
22. Henryk Paszkiewicz, *The Origin of Russia*, London, 1954, стр. 3-25. — Язэп Юхо, 'Аб паходжаньні назваў Белая і ЧорнаяРусь', *Беларусь*, нр. 9, 1956. — П. Урбан, 'Да назоваў Белая і Чорная Русь', *Бацькаўшчына*, Мюнхэн, нр. 50 (332), стр. 3; нр. 1-2 (335-36), стр. 5-6.
23. Праўда, у польскай мове былі працы прысьвечаныя некаторым рэгіёнам Беларусі, або некатоым пэрыядам яе гісторыі, аднак абагульняючай працы, калі ня лічыць кароткіх публіцыстычных пісаных перад першай сусьветнай вайной (Л. Васілеўскі), і ў міжваенны пэрыяд ды працы Тулібацкага *Białoruś Radziecka, nasz sąsiad i sojusznik*, выдадзенай у 1955 г., ня было.
24. Заслугай аўтара ёсьць і тое, што ён, у адрозьненьне ад савецкіх аўтараў прысьвяціў шмат больш месца дакастрычніцкаму пэрыяду гісторыі Беларусі, бо аж 77.5% усяе кнігі, тады калі, скажам, 5-ці томная *Гісторыя Беларускай ССР* 1972-75 гг. выданьне, прысьвяціла гэтаму пэрыяду толькі 38.5%, а рэшту — 61.5% пасьлякастрычніцкаму пэрыяду.

---

**Дзьве рэцэнзіі на кнігу праф. А. Макмілліна »ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ«,** Giessen 1977.

У папярэднім нумары »*Божым Шляхам*« (Нр. 150, с. 49-51) было пададзена апрача даўжэйшай рэцэнзіі А. Калубовіча на кнігу праф. А. МакМілліна: *Гісторыя Беларускай Літаратуры ад яе пачаткаў да сяньняшняга дня*, Giessen 1977, таксама сьпісак розных іншых рэцэнзіяў. Пасьля гэтага зьявіліся дзьве новыя і то абедзьве ў краёх з паза зялезнай заслоны: адна ў Польшчы, а другая ў БССР. Вось яны:

1) Тэлесфора Пазьняка у *Slavia Orientalis*, Rocznik XXVIII, № 3, Warszawa 1979, 372-374.

2) Івана Навуменкі, Міхася Мушынскага, Адама Мальдзіса: 'Аб'ектыўнае і тэндэнцыйнае', *Полымя*, Май 1980, с. 235-243.

Абедзьве гэтыя рэцэнзіі цікавыя і хаця яны зусім слушна дапаўняюць ці нават карыгуюць некаторыя дэталі кнігі праф. МакМілліна, ў агульным належна яе ацэньваюць. У рэцэнзіі

ў *Полымі* (с. 235) між іншым чытаем: »Манаграфія А. Макміліна — першая ў Заходняй Еўропе напісаная ў духу буржуазнага аб'ектывізму праца, у якой ставіцца задача даць цэласную карціну развіцця беларускай літаратуры ад часоў старажытнасьці і да нашых дзён. Яна напісана дасведчаным літаратуразнаўцам, які ведае беларускія крыніцы, чытае іх у арыгінале. Аўтар шырока цытуе (у арыгінале і перакладзе) творы нашай літаратуры«.

Што гэта значыць: »у духу буржуазнага аб'ектывізму«, не ўразуміў нас Госпад сьцяміць!.. Аб'ектывізм як і праўда аднолькавыя на ўсенькім сьвеце і павінны ўсіх адзінакава забавязываць.

Якбы ні было, але зацікаўленьне паважнай працай ангельскага славісты праф. МакМілліна усьцяж расьце, а тым самым пашыраецца і веда пра нашу літаратуру.

---

*Галіна* КАРЖАНЕЎСКАЯ

* * *

**Душа павінна вызваляцца**
**Хоць раз у месяц, раз у год**
**Ад мітусьні**
**штодзённай працы,**
**Ад надакучлівых клапот**
**Пра дом, пра посуд, пра калготкі,**
**Мыцьцё бялізны, хлеб, абед . . .**
**Душа на нейкі міг кароткі**
**Падобнай стане на Сусьвет —**
**Дзе неабдымная прастора,**
**Дзе супакоены хаос,**
**Дзе сьвецяць урачыста зоркі**
**І не баяцца вочы сьлёз.**

## ПРАГА ДАСКАНАЛАСЬЦІ

**Дасканаласьць — ты птушка свойская**
**Мо для некага.**
**На ляту**
**Пёрка скінула ты над вёскаю.**
**За табою я ўсьлед іду,**
**Я бягу з ненатольнай прагаю:**
**— Апусьціся, ляці сюды!**
**Да цябе я рукі працягваю,**
**Як да Бога — мае дзяды.**
**Вецер яркае пёрка гушкае,**
**Пакалыхвае над галавой . . .**
**Дасканаласьць, няўлоўная птушка,**
**Мне-б за хвост**
**ухапіцца твой!**

(Са зборніка паэзіі: *Званы Гадоў*, Мінск, 1980).

---

*Алесь* БАРСКІ

## МАМА

**Мама,**
**стань перад іконай**
**і пацер ціхутка вышапчы,**
**такі ціхі,**
**як вечар ліпнёвы.**
**Слова за словам,**
**як ціхія птушкі,**
**зляцяць у далоні,**
**супраць злосьці,**
**хваробы,**
**і войнаў,**
**і бітваў,**
**неўраджаяў**
**пашлі малітву,**
**бо іншыя сілы не памагаюць.**
**І за мяне ты вышапчы »верую«,**
**бо сам я не ўмею,**
**бо сам я не веру.**
**За каляровы птушыны шчэбет,**
**за цёплае неба,**
**за скібку хлеба**
**маліся.**
**І за валошку сінюю, сінюю,**
**што згінула ў полі**
**пад конскім капытам —**
**хай прыме неба душу блакітную,**
**яму-ж гэты колер не збытні.**
**І памаліся за роднае слова —**
**над словам павісла чорная зграя —**
**каб жыло,**
**каб расло,**
**каб квітнела аднова**
**песенным ураджаем.**

---

**КАХАЮСЯ Ў ПРЫГАЖОСЬЦІ**

**Кахаюся ў прыгажосьці,**
**як сабор у сьвятой мадоньне,**
**захапляюся гучнасьцю слова,**
**як хлапчук, што зрабіў жалейку**
**і крычыць:**
**— мама, глянь, як іграе!**
**Паэзія — сьвет зьдзіўленьня,**
**лёт з цёмнага сьвету у ясны,**
**з яснага зноў у цёмны.**
**Глянь ты ў вочы мадонны,**
**ў пушчанай капліцы:**
**па аортах, па жылах сонных**
**пабягуць бліскавіцы,**
**і выйдзеш з капліцы у лета,**
**з душою зялёнай,**
**станеш пад клёнам,**
**і станеш другім чалавекам —**
**паэтам.**

* * *

**За тысячу год**
**сьвет цалкам адменіцца,**
**час зьменіць**
**сістэмы,**
**ідэі і моды;**
**штучныя сонцы**
**зіму абагрэюць,**
**зьменіцца твар краявіду,**
**і іншымі будуць героі,**
**і мроі,**
**і толькі сьляза**
**застанецца сьлязою.**

(Са зборніка вершаў: *Жнівень Слоў*, Беласток, 1967.)

---

# ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І ВЕДЫ

### Бібліятэкі ў БССР

У 1978 г. было ў БССР 209 бібліятэк з кніжным фондам 8.870.700 кніг. Найбольшы працэнт кніг, 39,5%, было з мастацкай літаратуры. Другое мейсца займаюць кнігі грамадзка-палітычнага напрамку — 25,5%, трэцяе з тэхнічнай галіны — 8,1%. Паводле вобласьцяў лік бібліятэк выглядае наступна:

| | | |
|---|---|---|
| Брэская | — 28 | бібліятэк |
| Віцябская | — 47 | ” |
| Гомельская | — 34 | ” |
| Гродненская | — 27 | ” |
| Мінская | — 27 | ” |
| Магілёўская | — 25 | ” |
| Горад Мінск | — 21 | ” |

(Паводле *Городские Библиотеки Белоруссии в 1978 г.*, Минск 1979.)

### Кнігі Скарыны і газэта Каліноўскага

Галоўная Бібліятэка ў Мінску мае ў сваім фондзе: 6 кніг доктора Францішка Скарыны, 4 нумары газэты Кастуся Каліноўскага.

(*Літ. і Маст., 24 ліст. 1978.*)

### Не ад ліку слоў

Гасподня малітва (Ойча наш) мае ўсяго 54 словы (беларускі тэкст мае толькі 50 слоў), Дзесяць Божых Запаведзяў 317, а інструкцыя Супольнага Эўрапэйскага Рынку пра імпартаваньне цукеркаў-карамэлькаў і пра карамэлькавыя прадукты налічвае аж 26.911 слоў.

(*Рыдэр'с Дайджэст*, Люты 1977.)

### Лік членаў БГКТ

Колькасьць членаў Беларускага Грамадзкага Культурнага Таварыства ў Польшчы налічываецца 6298, з іх толькі 50% плоцяць членскія складкі. Дзяржаўная датацыя Таварыству на працягу 4 мінулых год у сярэднім складала 1 мільён 250 тысяч злотых у год. БГКТ выпрацоўвывала само ад сябе ад 261 да 274 тысяч злотых у год даходу.

(*Ніва*, 6 ліпеня 1980.)

### Рукапіс Ціхінскага

У бібліятэцы Акадэміі Навук Літоўскай ССР знаходзіцца рукапіс вялікага аб'ёму, бо аж 7.308 старонак. Гэта ёсьць *Слоўнік* беларускай мовы, які мае каля 145.000 слоў. Паясьненьні слоў пададзеныя ў беларускай, польскай і расейскай мовах. Аўтарам гэтай нязвычайна цікавай працы зьяўляецца Я. Ціхіньскі з Магілева, які прысьвяціў 40 гадоў студыям і пошукам у галіне беларускай мовы. Сваю працу ён закончыў у гадох першай сусьветнай вайны, але тады ён ужо быў сьляпым старыком.

### Зацікаўленасьць »Лістом да расейскага прыяцеля«

Калі гэты »Ліст« ананімнага аўтара трапіў у вольны сьвет, зацікавіліся ім розныя асобы так з культурнага як і палітычнага сьвету. Яго памясьцілі газэты і журналы поўнасьцю або часткова. Тут некаторыя з іх успомнім:

*Беларус*, люты 1980, Нр. 274, с. 2. Таксама, травень 1980, Нр. 277, с. 4-5.

*Современник*, Торонто 1980, Нр. 45-46, с. 321-340.

*Freedom Appeals*. Documenting the Universal Struggle for Freedom. № 4, March-April 1980, page 30 (nr. 111).

*East-West Digest*, Vol. 16, № 7, April 1980, p. 267-268.

*Soviet Jewish Affairs*, Vol. 10, № 2, 1980, p. 88.

*Index on Censorship*, Vol. 9, № 3, June 1980, p. 78.

*ABN Correspondence*, Vol. XXXI, № 4, July-August 1980, p. 25-28

## ПАМЫЛКІ Ў ДРУКУ

Ў апошнім нумары »Б.Шл.« (Нр. 150), стр. 37, ў артыкуле *В. К., Дзіця ў прабірцы*, здарыліся ў друку прыкрыя памылкі. Тут іх папраўляем. Некаторыя словы ў артыкуле ёсьць лішнімі і трэба іх выкінуць: (жайцеся і напаўняйце зямлю. (Быць. 1, 28); іншыя трэба ўставіць, бо былі прапушчаныя. Дзеля важнасьці артыкулу друкуем цэлы абзац.

. . .

У чым-жа справа?

Бываюць выпадкі, што пры найшчырэйшым жаданьні сужонкаў, жанчына ня можа мець пачацьця ў сваім улоньні, бо дзеля дэфэкту ў арганізме, насеньне мужчыны не даходзіць да таго натуральнага месца, дзе звычайна пачынаецца і далей развіваецца жыцьцё новай істоты. Дагэтуль на ўсім сьвеце было прынятым, што пачатак дзіцяці адбываецца праз сужэнскі акт, які Бог багаславіў: »і сказаў ім: пладзіцеся, размнажайцеся і напаўняйце зямлю«. (Быць. 1, 28; 9, 1). Усялякі акт сэксуальнай роскашы паза сужэнствам ёсьць грэшным, які зрэшты вельмі часта карае натура рознымі хваробамі.

*

Стр. 16, калонна 2, 16-ы радок зверху »дарога« — дарагога.

Стр. 17, калонна 1, 3-ці радок знізу »менкая« — менская.

Стр. 17, калонна 2, 17-ы радок зверху »стаціцу« — сталіцу.

Стр. 39, калонна 1, 16-ы радок зверху »прынаў« — прыняў.

Стр. 51, калонна 2, 23-ці радок зверху прапушчаны год. Павінна быць: Vol. 56, № 3, July 1778, pp. 435-436.

## HOW YOUR CHILD LEARNS

*If a child lives with criticism,*
*he learns to condemn.*
*If a child lives with hostility,*
*he learns to fight.*
*If a child lives with ridicule,*
*he learns to be shy.*
*If a child lives with shame,*
*he learns to feel guilty.*
*If a child lives with tolerance,*
*he learns to be patient.*
*If a child lives with encouragement,*
*he learns confidence.*
*If a child lives with praise,*
*he learns to appreciate.*
*If a child lives with fairness,*
*he learns justice.*
*If a child lives with security,*
*he learns to have faith.*
*If a child lives with approval,*
*he learns to like himself.*
*If a child lives with acceptance and friendship,*
*he learns to find love in the world.*



**Нік Навара з савой.**




1000 год гісторыі Беларусі. Тайнае юбілейнае выданне з БССР.
Clandestine commemorative card from Soviet Byelorussia to mark 1000 years of Byelorussian history (980-1980).
Carte commémorative clandestine provenant de la Biélorussie Soviétique pour marquer le millénaire de l'histoire biélorussienne (980-1980).

## ЗЬМЕСТ



*Printed by the Ukrainian Publishers Limited 200 Liverpool Rd., London, N1 1LF.*